ПРОЛЕТАРЫІ УСІХ КРАЁЎ, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ

# САВЕЦКАЯ КРАІНА



ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА ПРЫ БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК

Верасень
№ 9
(23)
1932

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*



# САВЕЦКАЯ КРАІНА

ШТОМЕСЯЧНЫ ОРГАН

ЦЭНТРАЛЬНАГА БЮРО КРАЯЗНАЎСТВА

ПРЫ

БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК



ГОД ВЫДАНЬНЯ ТРЭЦІ

ВЕРАСЕНЬ

№ 9 (23)



МЕНСК — 1932



# Задачы комсамолу ў разгортваньні краязнаўчага руху

Вялізарнейшыя задачы і тэмпы социялістычнага будаўніцтва, вызначаныя партыяй і ўрадам у другой пяцігодцы, патрабуюць максымальнага разгортваньня краязнаўчага руху, як формы ўцягненьня шырокіх мас рабочых, колгасьнікаў, комсамольцаў і савецкай інтэлігенцыі ў масавую навукова-дасьледчую работу ў мэтах вывучэньня продукцыйных сіл і прыродных багацьцяў нашай краіны, энэргетычных і сыравінных рэсурсаў для прамысловасьці, мясцовых будаўнічых матар'ялаў, крыніц вадазабесьпячэньня новых прамысловых цэнтраў, вывучэньня прыродных умоў для разьвіцьця социялістычнай сельскай гаспадаркі (глеба, клімат, мінэральныя ўгнаеньні і інш.), дзікарастучых расьлін (якія можна выкарыстаць як сельска-гаспадарчую сыравіну) і новых, асабліва тэхнічных культур, проблемы социялістычнай жывёлагадоўлі, організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў, культурнага будаўніцтва і інш.

Вырашэньне гэтых проблем і задач надзвычайна востра ставіць пытаньне аб краязнаўчых кадрах, аб стварэньні моцных краязнаўчых організацый, здольных выканаць тыя вялікія задачы, якія пастаўлены перад савецкім краязнаўствам партыяй і рабочай клясай.

Дырэктывы партыі і пастановы ўраду патрабуюць ад усіх савецкіх, гаспадарчых, профсаюзных, комсамольскіх і навукова-дасьледчых устаноў і організацый дапамогі ў справе разгортваньня краязнаўчага руху на прадпрыемствах, у саўгасах, колгасах, МТС, ВНУ, тэхнікумах, школах і падпарадкаваньня ўсёй работы краязнаўчых організацый конкрэтным задачам социялістычнага будаўніцтва. Аднак, краязнаўчы рух у БССР разгортваецца яшчэ вельмі слаба. Гаспадарчыя, профсаюзныя і комсамольскія організацыі яшчэ пакуль недаацэньваюць значэньня краязнаўчай работы ў социялістычным будаўніцтве і не аказваюць належнай рэальнай дапамогі ў справе разгортваньня і ўмацаваньня краязнаўчага руху.

Комсамол, як баявы атрад на фронце соцбудаўніцтва, які праявіў і праяўляе сваю ініцыятыву, энэргію і энтузыязм у разгортваньні социялістычных мэтодаў работы, у барацьбе за выкананьне і перавыкананьне пляну прамысловасьці, у социялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, у барацьбе за аўладаньне тэхнікай, за пабудову політэхнічнае школы і г. д., павінен адыграць вялізарнейшую ролю і ў справе разгортваньня краязнаўчага руху.

Ленінскі комсамол Беларусі павінен адыграць вялікую ролю ў організацыі дзейных і працаздольных краязнаўчых ячэек і краязнаўчых музэяў на прадпрыемствах, у савгасах, колгасах пры школах. Комсамольскія організацыі павінны ўзяць на сябе ініцыятыву ў організацыі новых ячэек і дабіцца ажыўленьня работы ўжо існуючых ячэек. Разгортваньне масавай работы па ўцягненьню ў краязнаўчую работу праз краязнаўчыя ячэйкі рабочых і колгасьнікаў, комсамолу, турыстаў, тэхнічнага пэрсоналу на прадпрыемствах, настаўніцтва, студэнцтва, вучняў зьяўляецца, як гэта адзначана ў пастанове СНК БССР па разгортваньню краязнаўчага руху, галоўнай задачай краязнаўчых організацый у даны пэрыод, бо без разьвіцьця шырокай сеткі краязнаўчых ячэек нельга разгарнуць плянавай масавай дасьледчай работы.

У рабоце ўжо існуючых краязнаўчых організацый яшчэ няма патрэбнай плянавасьці, дысцыплінаванасьці, адказнасьці за даручаную работу, вучоту гэтае работы, адсутнічаюць соцыялістычныя мэтоды работы, не разгорнута самакрытыка, няма належнай сувязі з гаспадарчымі, плянуючымі, партыйнымі і грамадзкімі організацыямі. Комсамольскія організацыі сваім актыўным удзелам у краязнаўчай рабоце павінны дабіцца ліквідацыі гэтых вялікіх недахопаў у рабоце краязнаўчых організацый, узьняцьця дысцыпліны і творчай актыўнасьці членаў ячэек. Комсамол павінен стаць перадавым атрадам у шырокім разгортваньні краязнаўчага руху, організацыйным замацаваньнем краязнаўчай сеткі, палітычнай актывізацыі членаў краязнаўчай організацыі, палепшаньні якасьці краязнаўчай работы і ўзьняцьці яе на вышыню гаспадарча-палітычных задач нашага часу.

Баявой і ўдарнай задачай усіх краязнаўчых організацый у даны пэрыод зьяўляецца вывучэньне ў найкарацейшы тэрмін прыродных багацьцяў, энэргетычных і сыравінных рэсурсаў кожнага раёну Савецкага саюзу. Гэта-ж задача стаіць і перад комсамолам. „Шасьцімільённая армія маладых бальшавікоў павінна стаць разьведчыкамі нашых прыродных багацьцяў. Мы чакаем ад комсамолу організацыі Ўсесаюзнай разьведкі нетраў аднэй шостай часьці сьвету. Трэба натхніць (увлечь) гэтай мысьлю мільёны маладых рабочых і колгасьнікаў, вучняў і піонэраў, турыстаў і фізкультурнікаў, фабзавцаў, студэнтаў. У кожным раёне нашай краіны будзем шукаць жалеза, медзь, нафту, вугаль, торф, сыравіну для хэмічнай прамысловасьці, новыя глебы, новыя расьліны. І ня толькі шукаць і пазнаваць, але і вучыцца выкарыстоўваць гэтыя багацьці для будаўніцтва соцыялізму.“ У такіх словах тав. Куйбышаў вызначыў ролю і задачу комсамолу ў галіне дасьледчай работы па вывучэньню прыродных багацьцяў нашай краіны (ліст тав. Куйбышава ў „Комсомольскую Правду“, № 66, 1932 г.).

Для вывучэньня сыравіны для прамысловасьці другой пяцігодкі комсамол разам з Цэнтральным саветам Таварыства пролетарскага турызму ў 1932 годзе організавалі ўсесаюзны дасьледчы паход, у які ўключыліся комсамол Беларусі, Беларускі савет Таварыства пролетарскага турызму і экскурсій і Цэнтральнае

бюро краязнаўства. Аднак, гэты дасьледчы паход у БССР ня прыняў масавага характару. Комсамольскія організацыі не ўдзялілі гэтай найважнейшай справе належнай увагі, не мобілізавалі шырокія пролетарскія масы на вывучэньне прыродных багацьцяў нашай краіны.

Аднэй з прычын гэтага прарыву зьяўлялася тое, што ў нас яшчэ няма добра організаванай краязнаўчай сеткі, моцных краязнаўчых ячэек. Задача комсамольскіх і краязнаўчых організацый заключаецца ў тым, каб у бліжэйшы час дабіцца організацыі працаздольных краязнаўчых організацый у кожным раёне, на кожным буйнейшым прадпрыемстве, у колгасе, пры школе, і сумесна распачаць належную падрыхтоўку да дасьледчага паходу наступнага году. 1933 год павінен быць годам сапраўды масавага дасьледваньня прыродных багацьцяў БССР. Комсамол Беларусі павінен стаць на чале гэтага масавага паходу, уцягнуўшы ў яго ўсе комсамольскія, краязнаўчыя, турыстычныя організацыі, рабочых, колгасьнікаў, настаўніцтва, студэнцтва, вучняў і піонэраў.

У БССР, як і ва ўсім Савецкім саюзе, ідзе бурнае будаўніцтва гігантаў прамысловасьці, спэцыялізаваных савгасаў і колгасаў, рэконструіруецца ўся народная гаспадарка на навейшай тэхнічнай аснове. Вывучэньне гэтага грандыёзнага будаўніцтва (фабрык і заводаў, савгасаў і колгасаў) у пэўных конкрэтных мясцовых умовах, вывучэньне асаблівасьцяў форм клясавай барацьбы, у якой адбываецца гэта будаўніцтва, новых соцыялістычных мэтодаў работы, якія нараджаюцца ў процэсе соцыялістычнай стройкі—вывучэньне ўсяго гэтага зьяўляецца аднэй з важнейшых задач у рабоце краязнаўчых організацый. Ленінскі комсамол, які ідзе ў першых радох вялікай арміі будаўнікоў соцыялізму, павінен прыняць актыўны ўдзел у глыбокім вывучэньні ўсяго процэсу соцыялістычнага будаўніцтва і напісаньні монографій паасобных прадпрыемстваў, савгасаў, колгасаў.

У галіне транспорту комсамол праз краязнаўчыя організацыі павінен аказаць дапамогу будаўніцтву ўсіх відаў мясцовага транспорту перш за ўсё шляхам вывучэньня мясцовых будаўнічых дарожных матар'ялаў.

Праз Цэнтральную станцыю моладзі пры ЦК ЛКСМБ і раённыя маладзёжныя станцыі, а таксама і праз краязнаўчыя організацыі шляхам організацыі дасьледчых участкаў на савгасных і колгасных палёх комсамол павінен разгарнуць вялізарную дасьледчую работу ў галіне сельскае гаспадаркі па вывучэньню глебы кожнага колгасу і савгасу, кліматычных умоў, па вывучэньню і разьвядзеньню новых сельска-гаспадарчых культур (соя, новыя віды тэхнічных культур, вінаград і інш.). Комсамол праз краязнаўчыя ячэйкі ў савгасах, колгасах і пры школах павінен максымальна разгарнуць масавую дасьледчую работу па вывучэньню практыкі лепшых перадавых савгасаў і колгасаў у справе організацыйнагаспадарчага ўмацаваньня, організацыі вытворчасьці, павялічэньня ўраджайнасьці, продукцыйнасьці жывёлагадоўлі, мэханізацыі, хэмізацыі і электрофікацыі сельскае гаспадаркі.

У галіне абмену і снабжэньня комсамольцы-краяведы павінны разгарнуць работу і дапамагчы плянуючым органам у вывучэньні мясцовых рэсурсаў, якія могуць быць выкарыстаны для ўнутранага і замежнага гандлю, а таксама па вывучэньню разгортваньня колгаснага гандлю. Комсамол можа і павінен прыняць актыўны ўдзел у разгортваньні школьнага краязнаўства, арганізацыі школьных краязнаўчых ячэек і школьна-краязнаўчых музэяў, сталых фэнолёгічных і мэтэоролёгічных назіраньняў, школьна-краязнаўчых экскурсій у прыроду, на прадпрыемствы, саўгасы, колгасы. Асаблівую ўвагу комсамол павінен удзяліць вышэйшай і сярэдняй школе, дзе павінны выхоўвацца кваліфікаваныя краязнаўчыя кадры.

ЦК УсеКП(б) у сваёй пастанове „Аб вучэбных програмах і рэжыме ў пачатковай і сярэдняй школе“ даў конкрэтныя ўказаньні аб выкарыстаньні элемэнтаў краязнаўства ў школьным выкладаньні. Неабходна дабіцца, каб гэта пастанова была належным чынам рэалізавана ў кожнай школе.

Вялікую ролю комсамол павінен адыграць у вывучэньні тых зрухаў і бытавых зьмен, якія адбываюцца ў рабочых і колгасных масах у процэсе соцыялістычнага будаўніцтва.

Зараз, згодна пастановы ЦК УсеКП(б), ва ўсім Савецкім саюзе праводзіцца вялізарнейшая і адказная работа па вывучэньню гісторыі грамадзянскай вайны і гісторыі заводаў. На вялікі жаль, ні комсамол, ні краязнаўчыя організацыі БССР у гэтай адказьнейшай рабоце належнага ўдзелу яшчэ ня прымаюць. Комсамол разам з краязнаўчымі організацыямі павінен зараз-жа разгарнуць на фабрыках і заводах вялікую растлумачальную работу сярод рабочых і організаваць вывучэньне гісторыі фабрык і заводаў (згодна адпаведных програм) і збор матар'ялаў па гісторыі грамадзянскай вайны.

Барацьба з буржуазнымі перажыткамі і рэшткамі клясава-варожай псыхолёгіі будзе аднэй з важнейшых задач у другой пяцігодцы. Адсюль перад краязнаўчымі організацыямі і краяведамі-комсамольцамі ў першую чаргу паўстае задача вывучэньня конкрэтнай абстаноўкі і вучоту процэсу ліквідацыі клясаў і пераўтварэньня колгасьнікаў і саміх рабочых у актыўных і сьвядомых работнікаў бясклясавага грамадзтва.

Вывучаючы паасобныя галіны соцыялістычнага будаўніцтва, краязнаўчыя організацыі пры актыўным удзеле комсамольцаў-краяведаў павінны організаваць комплекснае вывучэньне свайго раёну, як адзінага цэлага з выяўленьнем усіх яго характэрных асаблівасьцяў, пры гэтым галоўная ўвага павінна быць накіравана на вывучэньне галоўнай і вядучай галіны гаспадаркі раёну.

Вялікую ролю і значэньне комсамол павінен адыграць таксама і ў справе актыўнага ўключэньня праз краязнаўчыя організацыі ў нізавое плянаваньне. Комсамольцы-краяведы павінны дабіцца з боку ўсіх краязнаўчых організацый максымальнай дапамогі плянуючым органам і самі прыняць удзел у плянаваньні, выкарыстоўваючы для гэтага вынікі свайго дасьледваньня і выконваючы паасобныя заданьні плянуючых органаў.

Удзел краязнаўчых організацый у барацьбе за выкананьне важнейшых гаспадарча-політычных кампаній да гэтага часу быў зусім нязначным. Комсамол, прымаючы актыўны ўдзел у рабоце краязнаўчых організацый, павінен дабіцца рашучага пералому ў краязнаўстве ў справе непасрэднага ўдзелу (мэтодамі краязнаўчай работы) у выкананьні гаспадарча-політычных кампаній, праводзімых партыяй і ўрадам.

Комсамол у краязнаўстве павінен весьці рашучую барацьбу за генэральную лінію партыі, барацьбу з рэшткамі нацдэмаўшчыны, з правым і „левым“ ухіламі і стаць у першых радох барацьбітоў за савецкае краязнаўства, за ўцягненьне ў краязнаўчы рух шырокіх працоўных мас, за масавае разгортваньне навукова-дасьледчай работы ў мэтах хутчэйшай пабудовы соцыялізму.

---

Інж. А. М. Васільлеў

# Тарфяныя рэсурсы БССР

Вялізарнаму значэньню торфу і магчымасьці яго шырокага і ўсебаковага выкарыстаньня ў народнай гаспадарцы, на што звараачаецца вялікая ўвага нашага ўраду і плянуючых органаў, далёка не адпавядаюць нашы веды аб торфе і ступень вывучанасьці нашых тарфяных багацьцяў.

Балотамі і торфам цікавяцца і вывучаюць усе: геолёгі, батанікі, глебаведы, балотаведы, географы, гідролёгі, хэмікі, мэліоратары, торфмайстры і інш.

Кожны з іх на балота глядзіць па-свойму, вывучае яго вузка і, трэба меркаваць, матар'ял захоўвае далёка або і зусім не захоўвае. Кожны год рознымі організацыямі і прадпрыемствамі затрачваюцца значныя сродкі як на інструмантальныя, так і на лябораторныя работы па дасьледваньню балот, у выніку чаго назапашваецца вельмі каштоўны матар'ял, але апошні нікім не падсумоўваецца і не сыстэматызуецца, з прычыны чаго да самага апошняга часу мы ўсё-ж ня ведаем ня толькі якасьці, але і колькасьці тэй каштоўнай тарфяной сыравіны, якая маецца ў нашай рэспубліцы.

Апублікаваны матар'ял па гэтаму пытаньню паказвае зусім розныя даныя, напрыклад:

| | |
|---|---|
| а) у матар'ялах Усесаюзнай конфэрэнцыі па апалу 1930 г. паказана . . . . . . . | 1.500.000 га |
| б) у часопісе „Советское строительство“ за 1928 г. | 400.000 „ |
| в) у кнізе Г. А. Сахарава і Е. Г. Вэрнер „Торфяники СССР“ 1928 г. . . . . . . . | 212.900 „ |
| г) Дубах А. Д. и Спарро „Осушение болот открытыми канавами“ 1927 г. . . . . . . | 2.318.719 „ |
| д) проф. Ф. Я. Бахцель (1929 г.) паказвае. . | 460.677 „ |
| е) А. І. Малякоў „Основы болотоведения“ 1930 г. | 2.660.000 „ |

Зусім зразумела, што такое становішча з учотам і вывучэньнем тарфяных рэсурсаў не магло задаволіць нашы плянуючыя органы і ні ў якай меры не магло забясьпечыць вызначаемыя тэмпы разгортваньня тарфяной прамысловасьці.

У мэтах выяўленьня, учоту і характарыстыкі тарфяных балот, як асноўных энэргетычных рэсурсаў БССР, Белдзяржторф прыступіў да збору і сыстэматызацыі дасьледчага і статыстычнага матар'ялу па балотах у канцы 1930 г. З прычыны раскіданасьці вестак па асобных канторах Мэліотрэсту і раёнах БССР, атры-

маны матар'ял мае целы рад недахопаў і зразумела, ні ў якай меры не прэтэндуе на належную паўнату. У далейшым у меру правядзеньня дэталёвага дасьледваньня, у гэты матар'ял павінны быць унесены грунтоўныя корэктывы і дапаўненьні, асабліва па якаснай характарыстыцы торфу.

Данае апісаньне тарфянога фонду ставіць сваёй мэтай азнаёміць шырокія масы з тымі данымі, хаця-б і груба орыентовачнымі, аб нашых багацьцях, якія зьяўляюцца асноўнай сыравіннай базай для энэргетычнай і хэмічнай прамысловасьці і сельскай гаспадаркі БССР.

## Тарфяны фонд у колькасных адносінах

а) Плошча балот

Па матар'ялах дасьледваньняў і ўчоту балот за папярэднія гады агульная плошча тарфяніку ў межах нулявога заляганьня складае 642.150 га, або 5,1 проц. агульнай тэрыторыі БССР. У гэту плошчу не ўваходзіць, як зусім няцікавая з пункту гледжаньня крыніц энэргетыкі і наогул сыравіны для пераапрацоўкі, забалочаная плошча, г. зн. такія балоты, якія маюць пласт заляганьня ў сярэднім менш 0,5 мт.

Па асноўных тыпах паказаная плошча балот разьмяркоўваецца-

Табл. 1.

| Тыпы балот | Плоша ў га | Проц. да агульнай колькасьці балот |
|---|---|---|
| Нізінныя . . . . . . . . | 204.225 | 32 |
| Пераходныя . . . . . . . | 285.025 | 44 |
| Імховыя . . . . . . . . | 152.900 | 24 |
| Разам . . | 642.150 | 100 |

Разглядаючы тарфяны фонд па разьмерах паасобных балот, мы бачым (табл. 2.), што ён складаецца, галоўным чынам, з буйных масываў, плошчаю звыш 1.000 га, на долю якіх прыпадае 57.5 проц.

Табл. 2.

| Разьмеры балот | Колькасьць балот | Плошча ў га | Проц. да агульнай плошчы |
|---|---|---|---|
| Ад 10 да 100 га . . . . | — | 32710 | 5,1 |
| „ 100 да 500 га . . . . | 484 | 113930 | 17,5 |
| „ 500 да 1000 га. . . . | 153 | 126175 | 19,7 |
| „ 1000 да 5000 га . . . | 117 | 257150 | 40,0 |
| Звыш 5000 га . . . . . | 12 | 112185 | 17,5 |
| Разам . . . | — | 642150 | 100 |



Гэтая асаблівасьць тарфянога фонду зьяўляецца вельмі каштоўнай як для будаўніцтва буйных электрастанцый, так і для арганізацыі больш концэнтраванай тарфяной прамысловасьці.

Для вызначэньня плошчы прамысловага заляганьня, г. зн. плошчы балот з глыбінёю торфу больш 0,7 м, мы будзем карыстацца данымі практыкі, згодна якіх суадносіны ўскраін балота з глыбінёю торфу менш 0,7 м да агульнай плошчы балота ў залежнасьці ад разьмераў балот характарызуюцца наступнымі вялічынямі:

для балот плошчаю менш 500 га . . . . 25 проц.
" " " больш 500 " . . . . . 20 "

Выходзячы з гэтых даных, атрымліваем наступную плошчу прамысловага заляганьня па асобных групах балот.

Табл. 3.

| Разьмеры балот | Агульная плошча ў га | Ускраіны з заляганьнем менш 0,7 мэтр | | Плошча прамысловага заляганьня ў га |
|---|---|---|---|---|
| | | у проц. | у га | |
| 10— 100 га . . . . | 32710 | 25 | 8177 | 24533 |
| 100— 500 " . . . . | 113930 | 25 | 28482 | 85448 |
| 500—1000 " . . . . | 126175 | 20 | 25235 | 100940 |
| 1000—5000 " . . . . | 257150 | 20 | 51430 | 205720 |
| Звыш 5000 га . . . . | 112185 | 20 | 22437 | 89748 |
| Разам . | 642150 | — | 135761 | 506389 |

б) Запас торфу

Неабходная для вызначэньня запасу торфу глыбіня тарфянога заляганьня як на адным і тым-жа, так і паасобных балотах рэзка зьмяняецца. Найменш прамысловай глыбінёй заляганьня, як ужо вышэй было сказана, лічыцца 0,7 м. Найбольшая глыбіня на некаторых балотах дасягае да 9 м (балота „Стайкі“ Сураскага раёну). Сярэдняя глыбіня торфу, як сярэдняе арытмэтычнае, атрыманая шляхам падліку па асобных групах балот, хістаецца ад 0,7 да 2,8 м (табл. 4).

Пры атрыманых сярэдніх вялічынях глыбіні тарфянога заляганьня і плошчы прамысловага заляганьня маем наступны запас торфу-сыравіны:

Табл. 4

| Разьмер балот | Сярэдняя глыбіня заляганьня ў мэтрах | Агульны запас торфу-сыравіны ў тыс. куб. м. |
|---|---|---|
| 10—100 га . . . . . . | 1,7 | 417061 |
| 100—500 га . . . . . . | 2,0 | 1708960 |
| 500—1000 га. . . . . . | 2,0 | 2018800 |
| 1000—5000га. . . . . . | 2,5 | 5142000 |
| Звыш 5000 га . . . . . | 2,8 | 2512944 |
| Разам . . | Сярэдн. 2,33 | 11799965 |

Трэба адзначыць, што гэты запас торфу па ўмовам свайго ўтварэньня з кожным годам павялічваецца. Згодна даных проф. В. Н. Сукачова („Болото и их образование, развитие и свойства"—1926 г.) прырост торфу можна прыняць 0,8 мм у год, што пры паказанай у табліцы плошчы балот дае агульны штогодні прырост торфу ў колькасьці 5.136.000 куб. мэтраў сыравіны.

З прычыны рознастайнасьці пабудовы тарфянога заляганьня, і дзякуючы гэтаму рознай якасьці тарфянога заляганьня, увесь запас торфу трэба разглядаць як сыравінную базу для вытворчасьці рознага віду тарфяной продукцыі.

У сучасны момант, выходзячы з становішча дасьледванасьці тарфянога фонду і кірунку тэхнікі па перааапрацоўцы торфу, запас торфу па магчымаму выкарыстаньню можна падзяліць на два віды:

а) слаба раскладзены сфагнавы торф, які прадстаўляе з сябе вельмі добрую сыравіну для подсьцілу і ізоляцыйных пліт;

б) увесь іншы торф для апалу і хэмічнай пераапрацоўкі.

Пры наяўнасьці імховых сфагнавых балот у колькасьці 24 проц. ад агульнага фонду (табл. 1), сярэдняй глыбіні пасту слабараскладзенага торфу на іх у 1 мэтр і прамысловай плошчы 118.000 га запас слаба раскладзенага торфу атрымліваецца ў колькасьці 1.180 мільёнаў куб. мэтраў або 10 проц. ад агульнага запасу торфу.

Прымаючы паказаныя суадносіны паміж апалам і слабараскладзеным сфагнавым торфам аднолькавым для ўсіх груп балот, маем запасы таго і другога віду торфу ў наступным разьмеры:

Таб. 5

| Разьмер балот | Запас торфу для апалу у тыс. куб. м. | Запас слабараскладзенага торфу ў тыс. | Агульны запас торфу-сыравіны ў тыс. куб. м. |
|---|---|---|---|
| 10—100 га . . . . | 375355 | 41706 | 417061 |
| 100—500 га . . . . | 1538064 | 170896 | 1708960 |
| 500—1000 га . . . | 1817612 | 201188 | 2018800 |
| 1000—5000 га . . . | 4627800 | 514200 | 5142000 |
| Звыш 5000 га . . . | 2261650 | 251294 | 2512944 |
| Разам . . | 10620480 | 1179284 | 11799765 |

Прымаючы сярэднюю натуральную вільготнасьць балот у 91,5 проц. і ўдзельную вагу

а) для торфу на апал—1

б) „ слабараскладзенага торфу—0,65 будзем мець выхад паветранага сухога торфу (пры 30 проц. вільготнасьці) з аднаго куб. мэтра сыравіны:

а) для торфу на апал: $\frac{1000.1\ (100-91,5)}{100-30}=121$ кг бо 0,12 тон.

б) для слабараскладзенага торфу

$$\frac{100.0,65\ (100-91,5)}{100-30}=79 \text{ кг або } 0,08 \text{ тон.}$$

Пры такім выхадзе паветрана-сухога торфу з 1 куб. мэтра сыравіны агульны запас бруто паветрана-сухога торфу будзем мець:

Таб. 6.

| Разьмер балот | Запас бруто паветрана-сухога торфу ў тыс. т. | | |
|---|---|---|---|
| | Слабараскладзенага | Для апалу | Разам |
| 10—100 га | 3336 | 45043 | 48379 |
| 100—500 га | 13672 | 184568 | 198240 |
| 500—1000 га | 16095 | 218113 | 234208 |
| 1000—5000 га | 41136 | 555336 | 596472 |
| Звыш 5000 га | 20104 | 271398 | 291502 |
| Разам | 94343 | 1274458 | 1368801 |

Для канчатковага вызначэньня карыснага (нэто) паветрана-сухога торфу неабходна ўлічыць усе магчымыя няўхільныя страты, якія маюць месца пры ўсякім способе здабываньня торфу. Гэтыя страты залежаць ад цэлага раду ўмоў: ступені асушкі, сярэдняй глыбіні, плошчы балота, способу здабываньня і г. д. Для нашых падлікаў страты прымаем сярэднія па даных цэлага раду проектаў, якія выражаюцца наступнай колькасьцю:

Табл. 7.

| Разьмер балота | Страты торфу ў проц. | |
|---|---|---|
| | Слабараскладзенага | Для апалу |
| 10—100 га | 5 | 30 |
| 100—500 га | 5 | 30 |
| 500—1000 га | 5 | 30 |
| 1000—5000 га | 5 | 27 |
| Звыш 5000 | 5 | 26 |

Тады запас карыснага (нэто) паветрана-сухога торфу, які нас цікавіць, атрымаецца наступны:

Табл. 8.

| Разьмер балот | Запас (нэто) паветрана-сухога торфу ў тыс. тон | | |
|---|---|---|---|
| | Слабараскладзенага | Для апалу | Разам |
| 10—100 | 3169 | 31530 | 34699 |
| 100—500 | 12989 | 129198 | 142187 |
| 500—1000 | 15290 | 152679 | 167969 |
| 1000—5000 | 39079 | 405395 | 444474 |
| Звыш 5000 | 19099 | 200835 | 219934 |
| Разам | 89626 | 919637 | 1009263 |

Пры вызначаным разьвіцьці здабываньня торфу да канца другой пяцігодкі да 10 мільёнаў тон паветрана-сухога торфу, наяўнага запасу пры такім здабываньні хапіла-б на 100 год.

Калі ўвесь наяўны запас торфу выкарыстаць выключна для электрастанцый, дык мы маглі-б мець агульную магутнасьць іх бяз уліку прыросту торфу ў 4,5 мільёнаў кілёват з тэрмінам дзейнасьці іх на працягу 25 год.

## Тэрыторыяльнае разьмеркаваньне тарфяных рэсурсаў

Тэрыторыяльна тарфяны фонд разьмяркоўваецца няроўнамерна. Як агульнае правіла наглядаецца, што балот больш усяго



| NN раёнаў | Колькасьць балот | | |
|---|---|---|---|
| | у га | у % да агульнай колькасьці бал. | у % да тэрыт. раёну |
| I | 162 000 | 25 | 5.5 |
| II | 335 000 | 52 | 8.5 |
| III | 100 000 | 16 | 3.0 |
| IV | 45 000 | 7 | 2.0 |
| | 642 000 | 100 | 5.1 |



Разьмеркаваньне балот па раёнам.

ў заходняй частцы рэспублікі і па меры аддаленьня на ўсход колькасьць балот памяншаецца, дасягаючы свайго мінімуму ва ўсходняй частцы (Клімавічы, Крычаў, Амсьціслаўль, Горкі). Гэтае зьявішча тлумачыцца адпаведнай зьменай паверхневага рэльефу




Разьмяшчэньне буйных балотных масываў БССР.

БССР, г. зн., калі мы паглядзім на рэльефную карту БССР, дык заўважым, што найбольш узвышаная частка рэспублікі ляжыць у тых усходніх раёнах, дзе менш усяго балот.

У конкрэтных лічбах тэрыторыяльнае разьмеркаваньне тарфянога фонду відаць з прыкладзенай схематычнай карты, дзе ўся

тэрыторыя БССР умоўна разьбіта на 4 раёны, адпаведна прынятаму падзелу Дзяржпляну БССР.

Акрамя агульнага разьмеркаваньня балот па тэрыторыі, ня меншае значэньне для народнае гаспадаркі мае разьмеркаваньне паасобных буйных тарфяных масываў.

У гэтых адносінах, як бачым з прыкладзенай схематычнай карты, пытаньне знаходзіцца ў лепшым становішчы, бо буйныя балоты ляжаць больш роўнамерна, што дазваляе па ўсёй тэрыторыі БССР будаваць буйныя электрацэнтралі і організоўваць буйныя прамысловыя комбінаты па пераапрацоўцы торфу.

## Якасная характарыстыка тарфянога фонду

Пераходзячы да якаснай характарыстыкі тарфянога фонду, неабходна адзначыць, што торф характарызуецца шматлікімі і вельмі рознастайнымі хэмічнымі і фізычнымі ўласьцівасьцямі, якія залежаць ад цэлага раду фактараў.

Дзякуючы гэтай акалічнасьці, торф і зьяўляецца вельмі каштоўным прадметам, які мае і можа скарыстоўвацца для розных мэт у розных галінах народнай гаспадаркі.

Не даючы ўсебаковай характарыстыкі торфу, а разглядаючы яго толькі як апал, мы павінны констатаваць, што нават і для такой вузкай тэмы мы ня маем у сваім распараджэньні належных матар'ялаў. Для ўсебаковага вывучэньня торфу, які зьяўляецца надзвычайна цікавым як з навуковага, так і практычнага пункту гледжаньня, неабходны гады плянамернай і ўпартай работы, якая ў нас, у БССР, па сутнасьці кажучы, толькі пачынаецца. Адсутнасьць дэталёва распрацаванага матар'ялу прымушае ў далейшым выкладаньні закрануць толькі некаторыя бакі хэмічнай уласьцівасьці торфу, якія маюць найбольшае значэньне для практыкі.

### а) Зольнасьць торфу

Большасьць аналізаў залы дэталёва і рэкогносцыровачна дасьледваных балот паказвае, што ўтрыманьне яе хістаецца ў межах ад 2,7 да 15 проц. да абсолютнай сухой матэрыі. У залежнасьці ад батанічнага складу торфу або іншымі словамі ў залежнасьці ад тыпу балот колькасьць залы зьмяняецца па асобных балотах у наступных разьмерах:

Таб. 9.

| Назва балот | Колькасьць узораў | Зольнасьць на абсол. сух. матэр. |
|---|---|---|
| I. Імховыя | | |
| Ясень | 321 | 3,50 |
| Аболь П. | 321 | 3,12 |
| Тарасік | 150 | 5,02 |
| Дымаўшчына | 70 | 3,60 |
| Луг-Ухлё | 53 | 4,62 |
| Слаўнае | 228 | 2,71 |
| **Сярэдняе** | 1143 | 3,76 |

Табл. 9 (працяг)

| Назва балот | Колькасьць узораў | Зольнасьць на абсол. сух. матэр. |
|---|---|---|
| II. Пераходныя | | |
| Гадылеўскае . . . . . . | 311 | 8,51 |
| Шчэралі . . . . . . . | 36 | 10,37 |
| Белае . . . . . . | 35 | 7,78 |
| Студзёнка. . . . . . | 170 | 9,85 |
| Грэбянёва . . . . . . | 94 | 11,95 |
| Сярэдняе . . | 646 | 9,69 |
| III. Нізінныя | | |
| Станок . . . . . . | 65 | 10,72 |
| Арыштанцкае . . . . . . | 47 | 10,56 |
| Альховік . . . . . . | 43 | 12,80 |
| Гурынскае . . . . . | 63 | 9,95 |
| Лукскае . . . . . . | 113 | 9,36 |
| Дземамерскае . . . . . | 136 | 11,19 |
| Сярэдняе . . | 467 | 10,77 |

Даныя гэтай табліцы дазваляюць нам прыняць колькасьць залы абсолютна сухога торфу ў сярэднім:

для імховых балот . . . 3,76 проц.
„ пераходных балот . . 9,69 „
„ нізінных балот . . . 10,77 „

Аб складзе залы можна меркаваць толькі на падставе некалькіх аналізаў, зробленых па некаторым балотам Менскай вопытнай станцыяй і Віленскім таварыствам сельскае гаспадаркі. Вынікі гэтых аналізаў выражаюцца ў наступным:

Табл. 10.

| Характар торфу | Орган. матэр. | Зала | Азот | Фосфар | Вапна | Калі | Крэмні | Вокісь жалеза і алюм. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Старай сфагнавасьці . | 89,83 | 10,17 | 0,81 | 0,52 | 0,85 | 0,19 | 3,24 | 5,53 |
| | 93,53 | 6,47 | 0,75 | 0,20 | 0,60 | 0,12 | 4,37 | 1,06 |
| Малай сфагнавасьці . | 94,79 | 5,21 | 1,23 | 0,10 | 0,30 | 0,27 | 3,79 | 0,78 |
| | 96,52 | 3,48 | 1,29 | 0,19 | 0,48 | 0,23 | 0,27 | 0,40 |
| | 97,60 | 2,40 | 0,93 | 0,23 | 0,35 | 0,09 | 1,09 | 0,48 |
| Асаков. добра раскладзеных . . . . . | 85,76 | 114,24 | 1,78 | 0,53 | 2,66 | 0,23 | 6,79 | 2,99 |
| | 90,23 | 9,77 | 2,22 | 0,21 | 3,27 | 0,09 | 2,49 | 3,92 |
| Таксама сярэдн. раскладзеных . . . . . | 87,13 | 12,87 | 2,85 | 0,47 | 2,05 | 0,23 | 4,72 | 4,35 |

Ня менш значную цікавасьць прадстаўляе плаўкасьць залы, але для характарыстыкі яе маецца вельмі нязначны матар'ял, які выражаецца ў некалькіх аналізах па балоту „Кабылянка":

Табліца 11.

| Склад залы | Тэмпэратура | Хэмічны склад залы |
|---|---|---|
| Пачатак дэформацыі . | 1.145° | $SiO_2$—13,13 проц. $MgO_3$—1,79 проц. |
| „ разьмяшчэньня | 1.172° | $SO_3$—7,21 проц. $CaO$—29,94 проц. |
| „ плаўленьня . | 1.187° | $Fe_2O_3$—33,41 проц. $Al_2O_3$ 9,50 проц. |

## б) элемэнтарны склад органічнай матэрыі

Згодна літаратурных даных элемэнтарны склад органічнай матэрыі торфу выражаецца ў наступных лічбах (Е. С. Меншыкаў—Торф; справа 1924 г. № 5-6):

Табліца 12.

| №№ п/п. | Вуглярод | Вадарод | Тлен азот | Зала на сух. матэр. | З якіх балот |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 49,50 | 3,80 | 46,60 | 4,15 | Перах. был. Менскай акр. |
| 2 | 57,00 | 5,74 | 37,26 | 4,69 | Імхов. „ „ „ |
| 3 | 40,10 | 3,28 | 56,62 | 3,66 | „ „ „ „ |
| 4 | 56,25 | 5,90 | 37,85 | 5,50 | Перах. „ Віцебскай „ |
| 5 | 57,00 | 5,79 | 37,30 | 3,77 | Імхов. „ „ „ |

Па матар'ялам торфкамісіі сярэдні элемэнтарны склад арганічнай масы торфу можна лічыць у наступных суадносінах:

| | | |
|---|---|---|
| Вуглярод . . . . . | 56 | проц. |
| Вадарод . . . . . | 6,5 | „ |
| Тлен + азот . . . . . | 37,5 | „ |
| Зала на абсол. сух. матэр. . | 5,0 | „ |

## в) Ступень раскладаньня

Ступень раскладаньня торфу зьяўляецца вельмі важным фактарам, які характарызуе торф ня толькі з якаснага боку—як апал, але і з пункту гледжаньня тарфяной тэхнікі, паколькі гэты фактар да пэўнай ступені вызначае магчымасьць і рэнтабельнасьць ужываньня таго або іншага спосабу здабываньня або выкарыстаньня торфу.

Асаблівасьцю беларускіх тарфоў у адносінах ступені раскладаньня трэба лічыць вельмі нізкае раскладаньне торфу на імховых балотах.

Нагляданьні за цэлым радам распрацовак балот і лябараторныя аналізы дэталёва дасьледваных балот паказваюць, што ўсе

без выключэньня імховыя балоты на тэрыторыі БССР маюць амаль нераскладзены верхні пласт заляганьня, магутнасьцю ў сярэднім 1 м і даходзіць на некаторых балотах да 2-3 м, г. зн. да мінэральнага дна. Існуючы мікроскопічны мэтод аналізу характарызуе гэты пласт ступеньню раскладаньня ад 5—15 проц.

Сярэдняя ступень раскладаньня на ўсю глыбіню заляганьняў па асобных пунктах імховага балота хістаецца ад 13 да 35 проц. Сярэдняя ступень раскладаньня да ўсяго торфу імховых балот можна лічыць толькі 25 проц.

Зусім іншы малюнак мы наглядаем на пераходных і нізінных балотах. Тут мы сустракаемся з рознай ступеньню раскладаньня, якая вар'іруе ў сярэднім па асобных пунктах на нізінных балотах ад 20 да 60 проц. У сярэднім ступень раскладаньня торфу і нізінных балот можна лічыць 45 проц. і для пераходных 40 проц.

### г) Цеплатворная ўласьцівасьць

Пераходзячы да разгляду даных аб цеплатворнай уласьцівасьці торфу, якая вызначаецца шляхам спальваньня ў колёрымэтрычнай бомбе, трэба адзначыць, што ў матар'ялах торфмайстарскага дасьледваньня звычайна разьлічаюць: 1) цеплатворную ўласьцівасьць абсолютна сухой матэрыі і 2) цеплатворную ўласьцівасьць карысную (пры 25 проц. вільгаці). Пад першым паняцьцем разумеецца тая колькасьць цяплыні, якая выдзяляецца пры спаленьні адзінкі апалу ў бязводным стане. Пад другім паняцьцем разумеецца тая колькасьць цяплыні, якая выдзяляецца ў топцы пры спальваньні 1 кгм торфу з такой-та вільготнасьцю.

Так, напрыклад, калі мы маем калёрымэтрычную (фактычна атрыманую ў калёрымэтры) цеплатворную ўласьцівасьць 4.000 кал. пры 25 проц. вільготнасьці торфу, дык цеплатворная ўласьцівасьць:

$$\text{абс. сух. торфу будзе } \frac{4.000 \cdot 100}{75} = 5.330 \text{ кал.,}$$

а карысная $4.000(9 \times 5,5 + 25) \times 6 = 3.553$ кал.

Па шматлікіх лябораторных аналізах цеплатворная ўласьцівасьць торфу беларускіх балот у залежнасьці ад зольнасьці і тыпу балот хістаецца ў наступных межах:

Табліца 13.

| Назва балот | Зольнасьць абсол. сух. торфу ў проц. | Цеплатворная ўласьцівасьць | |
|---|---|---|---|
| | | Абсол. сух. матэр. | Пры 25 проц. вільг. |
| I. Імховыя | | | |
| Ясень . . . . . | 3,50 | 5188 | 3517 |
| Аболь II , . . . | 3,12 | 5401 | 3598 |
| Тарасік . . . . | 5,02 | 5330 | 3626 |
| Дымаўшчына. . . | 3,60 | 5208 | |
| Луг-Ухлё . . . . | 4,62 | 5350 | 3588 |
| Слаўнае . . . . | 2,71 | 5220 | 3539 |
| | 3,76 | 5249 | 3566 |

| Назва балот | Зольнасьць абсол. сух. торфу ў проц. | Цеплатворная ўласьцівасьць | |
|---|---|---|---|
| | | Абсол. сух. матэр. | Пры 25 проц. вільг. |
| II. Пераходныя | | | |
| Студзенка . . . | 9,85 | 5034 | 3407 |
| Грэбянёва . . . | 11,95 | 4857 | 3270 |
| Белае . . . . . | 7,78 | 4854 | 3502 |
| Шчэралі . . . . | 10,37 | 4864 | 3284 |
| Гадылёва . . . . | 8,51 | 5255 | 3574 |
| | 9,69 | 4973 | 3409 |
| III. Нізінныя | | | |
| Станок . . . . | 10,72 | 5017 | 3409 |
| Арыштанцкае . . | 10,56 | 5280 | 3696 |
| Альховік . . . . | 12,80 | 4448 | 2960 |
| Гурынскае . . . | 9,95 | 4970 | 3370 |
| Лукскае . . . . | 9,36 | 4980 | 3376 |
| Дземажорскае . . | 10,83 | 5173 | 3519 |
| | 10,77 | 4976 | 3390 |

З гэтай табліцы бачым, што сярэднюю цеплатворную ўласьцівасьць на абсолютна сухую матэрыю можна лічыць:

для імховых балот . . 5.249 калёрый
" пераходных " . . 4.973 "
" нізінных " . . 4.976 "

а пры 25 проц. вільготнасьці:

для імховых балот . . 3.566 калёрый
" пераходных " . . 3.409 "
" нізінных " . . 3.390 "

Ня глядзячы на розьніцу тыпу балот, цеплатворная ўласьцівасьць балот ня мае вялікіх разыходжаньняў нават паміж імховымі і нізіннымі балотамі, асабліва гэта розьніца зусім згладжваецца паміж пераходнымі і нізіннымі балотамі.

Паказаную калёрыйнасьць торфу можна лічыць вышэй існуючай сярэдняй калёрыйнасьці торфу іншых рэспублік, дзе паводле даных Н. Н. Усьпенскага сярэдняя калёрыйнасьць пры 25 проц. вільгаці па асобных балотах хістаецца ў межах ад 2.914 да 3.684 калёрый, тады як для беларускага торфу гэтыя хістаньні маем *ад 2.960 да 3.696 калёрый.*

### д) Колькасьць серкі ў торфе

Колькасьць серкі ў торфе невялікая з прычыны ўмоў самога ўтварэньня торфу. Аднак, у тарфяніках з крыніцамі і па берагох рэк колькасьць серкі можа дасягаць значнай колькасьці. Менш серкі ў імховых балотах, больш у пераходных і яшчэ больш у нізінных.

Паводле аналізаў торфу беларускіх балот колькасьць серкі зьмяняецца ў наступных разьмерах:

Табліца 14.

| Тып балота | Назва балот | Колькасьць серкі ў процантах да абсол. сух. матэрыі | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Ад | Да | Сярэдн. |
| Нізінныя | Харапуцкі масыў . | 0,28 | 0,39 | 0,32 |
| " | Альховік . . . . | 1,15 | 1,33 | 1,24 |
| Імховыя | Тарасік . . . . | 0,09 | 0,25 | 0,20 |
| " | Дымаўшчына . . | 0,22 | 0,28 | 0,25 |
| Пераходныя | Студзёнка . . . | 0,21 | 0,23 | 0,22 |
| " | Грэбянёва . . . | 0,44 | 0,69 | 0,56 |

### Заключэньне

Проблема торфу для БССР з кожным днём становіцца больш актуальнай. Торф, будучы для БССР адным з відаў натуральна-энэргетычных рэсурсаў, які як па колькасьці, так і па якасьці перавышае ўсе іншыя віды апалу, зьяўляецца асноўнай базай рэконструкцыі народнай гаспадаркі.

Аднэй з асноўных задач, вызначаемых другім пяцігадовым плянам, зьяўляецца пабудова сеткі электрычных станцый, якія маглі-б на далёкія адлегласьці перадаваць выпрацаваную імі энэргію для далейшага выкарыстаньня яе ў прамысловасьці і сельскай гаспадарцы.

З належным вырашэньнем пытаньня электрыфікацыі зьвязана ня толькі павялічэньне продукцыйных сіл краіны, але і эконамічнае і культурнае адраджэньне яе. У справе электрыфікацыі краіны торфу суджана адыграць вялізарную ролю.

Апрача гэтага, у другую пяцігодку торф павінен зьявіцца сыравіннай базай для буйной хэмічнай прамысловасьці.

Жыльлёвае, транспартнае і прамысловае будаўніцтва патрабуюць вялізарнай колькасьці ізоляцыйнага матар'ялу торфу.

Проблема падвышэньня ўраджайнасьці таксама цесна зьвязана з шырокім выкарыстаньнем торфу. Гэта асноўныя віды выкарыстаньня торфу.

Унівэрсальныя асаблівасьці торфу даюць магчымасьць выкарыстаць яго яшчэ ў цэлым радзе галін народнае гаспадар к

Аднак, шырокае выкарыстаньне торфу мае цесную сувязь з яго ўсебаковым вывучэньнем. Веданьне сыравінных рэсурсаў нашай рэспублікі, правільная ацэнка якасных і колькасных паказальнікаў зьяўляюцца аднэй з умоў, якія гарантуюць правільную організацыю торфянай гаспадаркі.

Шырокія масы насельніцтва БССР павінны ведаць свае натуральныя багацьці і прыняць удзел у організацыі і разьвіцьці тых мерапрыемстваў, якія накіраваны на максымальнае выкарыстаньне торфу і ў першую чаргу на вывучэньне яго.

---

В. К. Шчарбакоў

# Савецкае Палесьсе

## Папярэднія даныя аб рабоце Палескай экспэдыцыі

### 1. Значэньне і задачы Палескай экспэдыцыі

У гісторыю навукі і навукова-дасьледчай работы Савецкай Беларусі Палеская экспэдыцыя, якая праводзіла свае работы ў беларускім савецкім Палесьсі ў складзе 28 навуковых работнікаў Саюзнай і Беларускай Акадэмій Навук, увойдзе як адзін з яскравых і выдатных момантаў. Ва ўсім Савецкім саюзе разгорнуты надзвычайна вялікія навукова-дасьледчыя работы па вырашэньню актуальнейшых пытаньняў соцыялістычнага будаўніцтва. Цэлыя сотні навукова-дасьледчых установаў Саюзу, створаных у большасьці сваёй у пасьлякастрычнікаўскі пэрыод, і цэлыя тысячы і дзесяткі тысяч навуковых работнікаў праводзяць напружаную работу па вырашэньню тых задач, якія высунуты перад імі органамі дыктатуры пролетарыяту, нашай комуністычнай партыяй, гаспадарчымі і культурнымі ўстановамі нашай краіны. Савецкая навука дасягнула ўжо вялізарных вынікаў, як гэта адзначыла і XVII конфэрэнцыя нашай партыі. Гэтыя вынікі выражаюцца перш за ўсё ў набліжэньні навукова-дасьледчых установаў да практычных задач нашага будаўніцтва. Цэлы рад важнейшых актуальных проблем ужо вырашыла наша навука і гэтым самым зрабіла вялікі ўклад у агульную скарбніцу соцыялістычнага будаўніцтва. У прыватнасьці, цэлы рад навукова-дасьледчых установаў Савецкага саюзу прарабіў вялікую экспэдыцыйную работу па адшуканьню карысных выкапняў нашай краіны, па вывучэньню нетраў і багацьцяў гэтай краіны, па выяўленьню складанейшых процэсаў, якія адбываюцца ў сувязі з савецкім соцыялістычным будаўніцтвам на акраінах нашага неабнімнага Саюзу, сярод нацыянальнасьцяў некалі прыгнечаных царскай Расіяй і якія знаходзіліся да рэволюцыі на палажэньні колёній. У гэтых адносінах заслугоўвае ўвагі работа Саюзнай Акадэміі, разгорнутая асабліва шырока ў апошнія два гады. Саюзная Акадэмія кожны год накіроўвае цэлыя дзесяткі буйнейшых навуковых экспэдыцый на далёкі поўнач і на далёкі ўсход, і пяшчаныя краіны Сярэдняй Азіі, і на гарысты Каўказ. Сваімі навуковымі сіламі яна дапамагае і нацыянальным савецкім рэспублікам, у прыватнасьці Беларусі.

І ў нашай Савецкай Беларусі з году ў год ўсё глыбей і шырэй разгортваецца навукова-дасьледчая справа. Расьце сетка навукова-дасьледчых установ, павялічваецца іх якасьць, мацнеюць навуковыя кадры БССР. Навуковая работа і ў Савецкай Беларусі шчыльна падышла да практычных задач соцыялістычнага будаўніцтва. Калі нават бегла праглядзець хаця-б тэматыку нашых навуковых установ 1932 году, то мы знойдзем пацьверджаньне сказанаму. Акадэмія Навук, асобныя інстытуты і дасьледчыя станцыі работаюць перш за ўсё над такімі тэмамі, як, напрыклад: дасьледваньне бурых жалезьнякоў, вывучэньне глеб і характарыстыка іх з пункту гледжаньня спэцыялізацыі сельскае гаспадаркі, рацыяналізацыя здабычы торфу і мэтазгоднае яго скарыстаньне, барацьба з шкоднікамі сельскае гаспадаркі, адшуканьне шляхоў падвышэньня ўраджайнасьці нашых палёў, арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў, пытаньне аб кармох для сьвіней і барацьба з хваробамі іх, важнейшыя проблемы культурнага будаўніцтва і г. д. Ужо пастаноўкай гэтых проблем нашы навуковыя ўстановы прыцягваюць да сябе ўвагу ня толькі савецкіх і партыйных установ і організацый, але і шырокай савецкай грамадзкасьці, шырачэйшых мас працоўных нашай краіны. Мы гэта бачым на кожным кроку.

За апошнія гады навуковыя ўстановы і Савецкай Беларусі, у прыватнасьці Беларуская Акадэмія Навук, шырока разгарнулі экспэдыцыйна-дасьледчую работу ў межах БССР. Організуемыя экспэдыцыі вывучаюць непасрэдна на месцы карысныя выкапні нашай краіны, глебы, яе прыроду з пункту погляду наяўнасьці ў ёй сыравінных рэсурсаў яшчэ далёка нявыкарыстаных, хваробы расьлін, у прыватнасьці бульбы, шкоднікаў буйной рагатай жывёлы, заражэньне сьвіней глістамі, фаўну БССР з пункту погляду разгортваньня паляўнічай гаспадаркі і г. д. Але ўсе гэтыя важнейшыя пытаньні толькі за апошнія гады зьвярнулі на сябе належную ўвагу нашых навуковых установ. Некалькі раней, калі многія нашы навуковыя ўстановы, у прыватнасьці Беларуская Акадэмія Навук, былі засьмечаны нацдэмаўскімі элемэнтамі, увага навуковых установ і навуковых работнікаў пры організацыі дасьледчых установ накіроўвалася ў другі бок, цэнтр цяжару пераносіўся на іншыя пытаньні, неактуальныя або менш актуальныя для нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Вывучалі рознага роду помнікі старыны, шукалі чыстых тыпаў беларусаў, трацілася шмат энэргіі і сродкаў на адшуканьне і набыцьцё рознага роду рэчаў старыны, у прыватнасьці вопраткі, вывучалі кулацкія гаспадаркі з мэтаю популярызацыі іх і хутарской сыстэмы і г. д. Ад вывучэньня раду пералічаных намі пытаньняў не адмаўляемся і мы зараз, але ставіць іх мы павінны не на першае месца і падыходзіць да вывучэньня іх мы таксама павінны пад іншым пунктам погляду, чым іх вывучалі нацдэмы. Мы павінны вывучаць і старыну, але з пункту погляду таго, як хутчэй пакончыць, як лепей змагацца з ёю, калі гэта явішча старыны перашкаджаюць нашаму будаўніцтву; мы павінны вывучаць і вывучаем цэлы рад рэштак старой матар'яльнай культуры для таго, каб на аснове гэтага вывучэньня аб'ясьніць законамернасьць гістарычнага разьвіцьця

нашай краіны і няўхільнасьць наступленьня з пункту погляду гэтай закона мернасьці пролетарскай рэволюцыі і дыктатуры пролетарыяту.

Палеская экспэдыцыя, організаваная ў бягучым годзе Саюзнай і Беларускай Акадэміямі навук, і зьявілася, перш за ўсё, такой экспэдыцыяй, якая паставіла перад сабою цэлы комплекс актуальнейшых пытаньняў, маючых важнейшае значэньне для разгортваньня далейшага соцыялістычнага будаўніцтва, для паскарэньня тэмпаў гэтага будаўніцтва. Перад ёю былі пастаўлены такія задачы, як: вывучэньне карысных выкапняў, прамысловасьці, колгаснага будаўніцтва, рыбнай гаспадаркі, савецкага будаўніцтва і клясавай барацьбы ў сучасны пэрыод, становішча сучасных мястэчак, савецкага гандлю, культурнага будаўніцтва і работы сярод нацыянальных меншасьцяў, рэлігійных настрояў і антырэлігійнай пропаганды, захворваемасьці і пастаноўкі мэдычнай справы, перажыткаў старога быту і будаўніцтва новага быту, мовы насельніцтва, устаноў, у прыватнасьці беларусізацыі, працоўных рэсурсаў насельніцтва, помнікаў матар'яльнай культуры грамадзянскай вайны ў Палесьсі.

Усё гэта—важнейшыя актуальнейшыя пытаньні сучаснага будаўніцтва. Імі і павінна была заняцца Палеская экспэдыцыя і яна імі займалася. Значэньне гэтай экспэдыцыі і заключаецца перш за ўсё ў тым, што яна паставіла перад сабою гэты комплекс актуальнейшых пытаньняў, вырашэньнем якіх, няхай ня поўным, мы ўкладаем вялікую каштоўнасьць у скарбніцу нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Мясцовыя організацыі нашай краіны, цэнтральныя савецкія ўстановы і масы працоўных надзвычайна адчуваюць патрэбу ў пастаноўцы і вырашэньні ўсіх гэтых задач, у вывучэньні ўсіх гэтых пытаньняў. Прыцягненьнем да гэтай справы навукі і навуковых работнікаў мы дапамагаем мясцовым нашым організацыям будаваць найбольш рацыянальна і правільна з пункту погляду агульных інтарэсаў Савецкай краіны, соцыялістычную гаспадарку і соцыялістычную культуру, цэнтральным савецкім установам мы гэтай работай даем каштоўнейшыя даныя для кіраўніцтва будаўніцтвам на мясцох, усёй масе працоўных мы палягчаем шлях барацьбы за пабудову соцыялістычнага грамадзтва.

Перад Палескай экспэдыцыяй стаяла і другая задача, цесна зьвязаная з першай: паказаць усе нашы дасягненьні ў галіне савецкага, гаспадарчага і культурнага будаўніцтва ва ўмовах дыктатуры пролетарыяту, у такім раёне, у такой частцы нашай рэспублікі, якая калісьці ў дарэволюцыйныя часы, дзякуючы нацыянальнаму прыгнечаньню, нябачанай эксплёатацыі пануючымі клясамі мас зьяўлялася самай адсталай, самай забітай, прыгнечанай і цёмнай часткай. Гэтую задачу ставіла перад сабою экспэдыцыя—і ў гэтым—другое вялізарнае значэньне, асабліва маючы на ўвазе набліжэньне 15-годзьдзя Кастрычніцкай рэволюцыі і падвядзеньне агульных вынікаў нашых дасягненьняў за гэтыя 15 год. Палеская экспэдыцыя павінна даць разгорнуты малюнак гэтых дасягненьняў. Гэты малюнак будзе асабліва яскравым пры па-

раўнаньні становішча і жыцьця беларускага савецкага Палесься з Палесьсем Заходняй Беларусі, якое знаходзіцца пад окупацыяй фашысцкай Польшчы.

Нарэшце, Палеская экспэдыцыя мае і сваё спэцыфічнае навуковае значэньне. Упяршыню ня толькі ў нас, у БССР, але, думаецца мне, у ва ўсім Савецкім саюзе былі аб'яднаны навуковыя работнікі цэлага раду спэцыяльнасьцяў двох буйнейшых навуковых установ нашага Саюзу—Саюзнай і Беларускай Акадэмій Навук. Практыка організацыі такой работы і такой комплекснай экспэдыцыі, аб'яднаньне навуковых сіл, мобілізацыя іх на вырашэньне важнейшых пытаньняў, якія датычаць савецкага Палесься, мае для нас вялізарнае нацыянальна-культурнае, навуковае і палітычнае значэньне. Саюзная Акадэмія відавочна і практычна паказала, як яна сваімі сіламі, як навукова-дасьледчы цэнтр нашага Саюзу, прыходзіць на дапамогу нашым нацыянальным рэспублікам, як яна клапоціцца аб разгортваньні і навукова-дасьледчай работы ў нашых нацыянальных рэспубліках і як дапамагае соцыялістычнаму будаўніцтву ў гэтых рэспубліках. Нарэшце, само аб'яднаньне навуковых сіл, вялікага колектыву навуковых работнікаў для ўсебаковага вывучэньня вызначанай тэрыторыі, маючай сваю спэцыфіку мае таксама для нас вялікае значэньне. Палеская экспэдыцыя—гэта першы досыць вялікі вопыт правядзеньня комплексных экспэдыцый, экспэдыцый, накіраваных на ўсебаковае вывучэньне адпаведнай тэрыторыі. І, зразумела, гэты вопыт такой экспэдыцыі мае для нас, для ўсяе нашае навукова-дасьледчае справы вялізарнае значэньне. Ён відавочна паказвае, як мы не саматужным шляхам, а організавана і па пэўнаму пляну пачынаем праводзіць і ўжо праводзім навукова-дасьледчую работу, як мы да вырашэньня невялікага параўнальна кола пытаньняў падыходзім з розных бакоў, прыцягваем сілы розных спэцыяльнасьцяў і, нарэшце, як рознага роду спэцыялісты, працуючы над адпаведнымі об'ектамі, дапамагаюць і павінны дапамагаць адзін аднаму і тэтым эканоміць сілы і сродкі.

## II. Падрыхтоўка да экспэдыцыі

Палеская экспэдыцыя была організавана па ініцыятыве Беларускага сэктару Інстытуту па вывучэньню народаў СССР Саюзнай Акадэміі Навук і раду інстытутаў, у прыватнасьці Інстытуту гісторыі Беларускай Акадэміі Навук. Падрыхтоўка да экспэдыцыі праводзілася досыць доўгі час. Была сконцэнтравана ўвага ў гэты падрыхтоўчы пэрыод на выпрацоўку плянаў і програм экспэдыцыі і вызначэньні асноўных задач яе, на падборы работнікаў, на організацыі кіраўніцтва экспэдыцыяй, на стварэньні матар'яльнай базы яе, на прыцягненьні да работ экспэдыцыі раду зацікаўленых установ і на вызначэньні раёнаў вывучэньня. Усё гэта не другарадныя пытаньні, якія заслугоўваюць асобай увагі да сябе. У залежнасьці ад таго, як яны будуць вырашаны, у значнай меры залежалі вынікі работ экспэдыцыі і самы ход яе работы. Па першапачатковаму пляну намячалася ўзяць невялікі круг пы-

таньняў з упорам на пытаньне колектывізацыі Але потым, у процэсе вырашэньня гэтага пытаньня зацікаўленыя навуковыя ўстановы сталі на другі пункт пагляду і вырашылі ўзяць вялікі комплекс пытаньняў для дасьледваньня экспэдыцыі. Вырашана было прыцягнуць да ўдзелу ў экспэдыі і Усеўкраінскую Акадэмію Навук. Апошняя ў асобе свайго Прэзыдыуму згадзілася на гэты ўдзел і хутка вылучыла сваіх работнікаў для ўдзелу ў правядзеньні падрыхтоўчых работ. Апрача таго, да організацыі і ўдзелу ў экспэдыцыі былі прыцягнуты Сэктар навукі Народнага камісарыяту асьветы Украіны, Народны камісарыят аховы здароўя Украіны, Чырвоны крыж БССР. Такім чынам, на аснове ўдзелу ўсіх гэтых установаў у організацыі экспэдыцыі можна было думаць, наколькі сур'ёнае значэньне надаецца гэтай экспэдыцыі. Вызначаны былі для дасьледваньня рад раёнаў Беларускага Савецкага Палесься і Савецкага Палесься Украіны з тым, каб з усіх гэтых раёнаў мець адзіную компактную тэрыторыю. Тая акалічнасьць, што дасьледваньне бралася на тэрыторыі Украінскага і Беларускага Палесься мела таксама надзвычайна вялікае значэньне. Вывучыць практыку социялістычнага будаўніцтва ў Палесьсі УССР і БССР—гэта значыць даць надзвычайна многа для далейшага разгортваньня гэтага будаўніцтва. Гэта тым больш мела-б вялікую каштоўнасьць, калі прыняць пад увагу наяўнасьць і ў Беларускім і Украінскім Палесьсі шмат агульнага як у іх гісторыі, так і ў наяўнасьці там аднолькавых карысных выкапняў і аналёгічных зьявішч кліматычнага і прыроднага характару. На жаль, ажыцьцявіць гэты плян сумеснага правядзеньня экспэдыцыі трыма Акадэміямі не ўдалося. Па раду прычын Украінская Акадэмія Навук, Сэктар навукі Наркамасьветы і Народны камісарыят аховы здароўя Украіны прымушаны былі адмовіцца ад правядзеньня экспэдыцыі ў бягучым годзе. Пачатую работу давялося працягваць сіламі дзьвёх Акадэмій—Саюзнай і Беларускай.

Быў вызначаны тэрмін пачатку экспэдыцыі і працяжнасьць яе. Устаноўлены быў двухмесячны тэрмін для яе работы—з 10 чэрвеня па 10 жніўня. Для ўсебаковага вывучэньня была вызначана тэрыторыя ў складзе чатырох раёнаў Беларускага Палесься—Петрыкаўскі, Лельчыцкі, Тураўскі і Жыткавіцкі. Уся экспэдыцыя загадзя разьбілася на брыгады адпаведна тым асноўным задачам, якія былі пастаўлены перад экспэдыцыяй. Былі вылучаны наступныя брыгады: экономістаў і па вывучэньню сыравінных рэсурсаў Палесься ў складзе 6 чалавек, па вывучэньню саветаў і клясавай барацьбы—2 чалавекі, мэдыцынская брыгада—3 чал., антрополёгічная—3 чал., энтографічная і па вывучэньню рыбалоўства—3 чал., па вывучэньню мовы і беларусізацыі—2 чал., па вывучэньню старога і новага фольклёру—3 чал., па вывучэньню помнікаў матар'яльнай культуры—3 чал. Апрача таго, па вывучэньню грамадзянскай вайны і партызанскага руху на Палесьсі, рэконструкцыі мястэчак і краязнаўчага руху было вылучана па аднаму навуковаму работніку. Такім чынам, да пачатку экспэдыцыі дакладна вызначыўся колькасны склад навуковых работнікаў і іх спэцыяльнасьць. Усяго ў экспэдыцыі прымала ўдзел

28 чал. Брыгады загадзя распрацавалі плян і програмы сваіх работ і на падставе іх быў распрацаваны адзіны плян работы ўсёй экспэдыцыі. Брыгады таксама правялі вялікую работу па зьбіраньню неабходных матар'ялаў—літаратурных і архіўных, набылі карты, апаратуру і ўсё неабходнае для правядзеньня навуковага дасьледваньня. На зварот экспэдыцыі да Чырвонага Крыжу прыняць удзел у ёй людзьмі і сродкамі апошні жыва адгукнуўся, вылучыў 4.500 руб., дапамог падабраць мэдыкаў і вылучыў аднаго свайго сталага работніка. Наркамасьветы Беларусі, ня гледзячы на сваё абяцаньне вылучыць брыгаду па вывучэньню культурнага будаўніцтва і дапамагчы экспэдыцыі сродкамі, ні таго ні другога, аднак, не зрабіў. Але надаючы асабліва важнае значэньне вывучэньню нацыянальна-культурнага будаўніцтва, у комплексе ўсяе навукова-дасьледчае работы экспэдыцыі, кіраўніцтва яе вылучыла спэцыяльную брыгаду для вывучэньня гэтага пытаньня з наяўнага складу навуковых работнікаў у ліку 2 асоб, якія праводзілі гэтую работу і адначасова выконвалі свае спэцыяльныя заданьні. Да работы гэтай брыгады тамсама шырока прыцягваліся мясцовыя работнікі органаў народнае асьветы і настаўніцтва. Экспэдыцыя пры садзейнічаньні Наркамснабу БССР набыла некаторую колькасьць харчовых продуктаў. Былі прыняты меры да стварэньня адпаведнай савецкай грамадзкасьці навакол Палескай экспэдыцыі і яе работы. З гэтай мэтай удзельнікі яе падрыхтавалі рад заметак і невялікіх артыкулаў, якія былі зданы ў рэдакцыю газ „Савецкая Беларусь,“ апошняя згадзілася з паданага матар'ялу выпусьціць спэцыяльную старонку, прысьвечаную экспэдыцыі, што яна і зрабіла за два дні да пачатку работ экспэдыцыі. Гэта, бясспрэчна, мела вялікае значэньне. Апрача таго, што масы былі асьвядомлены аб работах экспэдыцыі, аб яе задачах і плянах, мясцовыя організацыі ўсіх раёнаў, у якія экспэдыцыя накіроўвалася, таксама загадзя ведалі аб экспэдыцыі і правялі неабходную работу, стварылі адпаведны настрой у работнікаў і шырокіх працоўных мас навакол экспэдыцыі.

## III. Організацыя работ экспэдыцыі і адносіны да апошняй мясцовых організацый і працоўных мас

Палеская экспэдыцыя выехала 11-га чэрвеня ў вызначаныя раёны і роўна 13 гэтага м-да ўжо непасрэдна прыступіла да работы. Практыка організацыі работ усёй комплекснай экспэдыцыі і асобных яе брыгад прадстаўляе для нас надзвычайна вялікі інтарэс. Яна павінна быць улічана пры організацыі такіх экспэдыцый у будучым. Удзельнікі экспэдыцыі і кіраўніцтва яе ня зусім яскрава ўяўлялі сабе, з чаго непасрэдна пачаць работу, які вызначаць маршрут руху і якія об'екты ўзяць для дасьледваньня, як праводзіць самую работу—ці ўсёй экспэдыцыі разам, ці вызначыць маршруты для кожнай брыгады паасобку. Усе гэтыя пытаньні сталі для нас яскравымі толькі па прыездзе экспэдыцыі на месца работ і асабліва пасьля некалькіх дзён практычнае работы.



Група ўдзельнікаў Палескай экспэдыцыі на чале з акадэмікам В. К. Шчарбаковым.

Экспэдыцыя прыбыла ў першую чаргу ў г. Петрыкаў—раённы цэнтр Петрыкаўскага раёну. З вывучэньня гэтага раёну вырашана было пачаць работу. Петрыкаў быў абраны таксама цэнтральнай базай экспэдыцыі. Па прыезьдзе ў Петрыкаў адразу-ж насьпела думка аб тым, што работу неабходна пачынаць з агульнага азнаямленьня з экономічным і культурным будаўніцтвам. Агульны малюнак становішча раёну маглі даць мясцовыя організацыі і іх кіруючыя работнікі—у першую чаргу райком і райвыканком. Вырашана было гэтае азнаямленьне экспэдыцыі са становішчам раёну спалучыць з азнаямленьнем мясцовага партыйнага, савецкага і профсаюзнага актыву і ўсёй савецкай грамадзкасьці з задачамі ўсёй экспэдыцыі, з плянам яе работ. Гэта мажліва было зрабіць шляхам скліканьня адкрытых сходаў мясцовых работнікаў сумесна з шырокімі масамі працоўных, на якіх павінны былі быць зачытаны даклады: 1) аб экономічным і культурным становішчы раёну і 2) аб задачах і пляне работ Палескай экспэдыцыі. З гэтага і пачыналася работа нашай экспэдыцыі ў кожным з вызначаных для вывучэньня раёнаў—Петрыкаўскім, Тураўскім Жыткавіцкім і Лельчыцкім. У Петрыкаве ўсёй-ж не ўдалося заслухаць даклад старшыні РВК, а ў Жыткавіцкім замест шматлюднага сходу працоўных была зроблена інформацыя прадстаўніка экспэдыцыі на сходзе раённага актыву. Усе гэтыя сходы адыгравалі надзвычайна вялікую ролю ў разгортваньні работ экспэдыцыі. Яны ня толькі ўводзілі ў курс справы ўдзельнікаў экспэдыцыі ў асаблівасьці раёну, а мясцовых працоўных ў задачы экспэдыцыі, але і мобілізавалі масы на аказаньне дапамогі экспэдыцыі, завострывалі ўвагу на навуковым вырашэньні цэлага раду баявых пытаньняў, цесна зьвязаных з соцыялістычным будаўніцтвам.

Другі крок у рабоце экспэдыцыі заключаўся ў організацыі спэцыяльных брыгад з мясцовых работнікаў па асобных галінах для аказаньня дапамогі аналёгічным брыгадам экспэдыцыі. У гэтай справе ініцыятыву і актыўнасьць праяўлялі перш за ўсё мясцовыя організацыі. Створаныя брыгады па экономіцы, культурнаму будаўніцтву, мэдыцыне, савецкаму будаўніцтву і клясавай барацьбе асабліва вялікую работу правялі ў Петрыкаве і Тураве. У гэтых брыгадах былі заслуханы даклады мясцовых работнікаў—спэцыялістаў па асобных спэцыяльных пытаньнях, у іх папярэдня намячаліся маршруты руху экспэдыцыі і асобных яе брыгад, вызначаліся найбольш характэрныя об'екты і населеныя пункты для дасьледваньня—вёскі, сельсаветы, колгасы, саўгасы, прадпрыемствы, асобныя культурныя ўстановы, праз іх-жа (праз брыгады) удзельнікі экспэдыцыі даведваліся і знаходзілі адпаведныя архіўныя матар'ялы. Гэтыя брыгады, паўтараю, адыгравалі ў радзе выпадкаў надзвычайна вялікую ролю ў работах экспэдыцыі. Яны ня толькі далі ў распараджэньне экспэдыцыі адпаведныя матар'ялы, увялі нас у курс цэлага раду пытаньняў, але дапамаглі экспэдыцыі ў складаньні сьпісаў на тых работнікаў, актыўных будаўнікоў, удзельнікаў рэволюцыйных падзей і знаўцаў асобных галін жыцьця, з якімі потым ужо мелі справу ўдзельнікі экспэдыцыі.

Звычайна пасьля праведзенай такой папярэдняй работы, на якую трацілася 3-4 дні, асобныя брыгады экспэдыцыі скарыстоўвалі, побач з гэтым, сваё прабываньне ў цэнтры раёну і для вывучэньня адпаведных матар'ялаў, знаёміліся з архівам, перадрукоўвалі докумэнты, зьбіралі статыстычны матар'ял, знаёміліся з насельніцтвам і праводзілі з ім неабходную работу. На кожны раён у нас уходзіла ў сярэднім па два тыдні, але ў такіх раёнах, як Петрыкоўскі і Тураўскі экспэдыцыі давялося затрымацца



Антраполёгічная брыгада Палескай экспэдыцыі за работай.

некалькі больш. З гэтага часу 4-5 дзён уходзіла на работу ў раённых цэнтрах, якія выкарыстоўваліся для правядзеньня адпаведнай работы брыгады, канчаткова складалі свае маршруты руху па раёну. Пасьля 3—4 дзён работы кіраўніцтва экспэдыцыі склікала нараду брыгадзіраў, на якіх заслухоўваліся інформацыі асобных брыгад аб ходзе работы, разглядаліся і зацьвярджаліся маршруты руху брыгад, вызначаліся населеныя пункты для ўсебаковага вывучэньня ўсімі брыгадамі, узгадняліся пляны работ адных брыгад з другімі. На такіх нарадах практыка работ брыгад перадавалася ад аднэй другой, хутка знаёміліся ўдзельнікі экспэдыцыі з усімі новымі зьявішчамі ў рабоце і г. д. Абмен практыкаю ў рабоце асобных брыгад, узаемная інформацыя кожнага з удзельнікаў экспэдыцыі дапамагалі яшчэ і таму, што экспэдыцыя звычайна разьмяшчалася ў адным месцы, хутчэй усяго ў школах, і вечарам пасьля работы ўдзельнікі экспэдыцыі, сабраўшыся ў інтэрнат, дзяліліся адзін з адным аб праробленай рабоце, аб напатканых об'ектах і гэтым дапамагалі адзін аднаму. Праўда, знаходзіліся сярод ўдзельнікаў экспэдыцыі і такія, якія рабілі

спробу дэзарганізаваць такую работу, дамагаліся прадстаўленьня ўдзельнікам экспэдыцыі асобных кватэр, рабілі спробы выступаць з заявамі аб тым, што яны ня хочуць мець нічога агульнага з агульнай работай усёй экспэдыцыі. Гэтым настроем даваўся рашучы адпор. Але ў сувязі з гэтым паўставала заўсёды пытаньне аб тым, наколькі надзвычайна вялікім пытаньнем у організацыі і правядзеньні комплексных экспэдыцый зьяўляецца пытаньне аб падборы работнікаў, маючы на ўвазе і іх кваліфікацыю, іх адданасьць справе, актыўнасьць, вытрыманасьць і навыкі колектыўнай работы. У гэтых адносінах наша экспэдыцыя мела свае значныя недахопы. Ня ўсё добра абстаяла ў ёй у сэнсе падбору высококваліфікаваных работнікаў; некаторыя галіны, як напрыклад, вывучэньне карысных выкапняў былі слаба забясьпечаны: былі сярод работнікаў экспэдыцыі і такія, якія больш хныкалі, чым работалі, выказвалі нездавальненьне харчаваньнем і г. д. Усё гэта вельмі перашкаджала рабоце. Патрэбна заўсёды памятаць, што правядзеньне экспэдыцыі—гэта вялікая і цяжкая справа. Парою, а часамі і вельмі часта, удзельнікам яе даводзіцца сустракацца з вялікамі цяжкасьцямі і нявыгодамі; часамі заставацца некаторы час галодным, адпачываць і начаваць даводзіцца ў розных умовах. Усё гэта амаль няўнікнёнае зьявішча ў правядзеньні экспэдыцыі, але ня ўсе гэта ўсьведамляюць і пераносяць і жадаюць пераносіць гэтыя цяжкасьці. Вось чаму на падбор работнікаў для экспэдыцыі заўсёды неабходна зьвяртаць вялікую ўвагу. Вельмі часта ўсёй экспэдыцыі даводзіцца аднachасова праводзіць неабходныя работы. Скажам, як гэта было ў практыцы нашай экспэдыцыі, распрацаваць анкеты для агульнага даследваньня. І калі асобныя ўдзельнікі ня выканаюць даручаных работ своечасова, можа быць сарваным дзень-два самага каштоўнага часу. Самаабслугоўваньне займае ў рабоце экспэдыцыі вялікае месца. І для гэтага зноў-такі патрэбен адпаведны падбор людзей. Ня трэба таксама вельмі заграмаджаць экспэдыцыю тэхнічнымі работнікамі, пры цяперашніх сродках пераезду гэтыя тэхнічныя работнікі вельмі дорага абыходзяцца. Паміж тым для ўсякага роду перапісак, статыстыкаў заўсёды можна знайсьці на месцы пры больш меншых выдатках і меншых клопатах аб іх.

Апрача організацыі брыгад з мясцовых работнікаў для аказаньня дапамогі экспэдыцыі, скліканьня сходаў і нарад, гутарак з рознымі асобамі, назіраньня за жыцьцём і работай асобных груп насельніцтва, экспэдыцыя практыкавала і другія мэтоды работы. Распрацоўваліся анкеты для запаўненьня іх адпаведнымі работнікамі і жыхарамі. Наша экспэдыцыя распрацавала некалькі такіх анкет там-жа на месцы: для запаўненьня настаўніцтвам, для выбарачнага абсьледваньня жыхароў мястэчак, для ўдзельнікаў грамадзянскай вайны. Праводзіліся назіраньні за работай у колгасах, на прадпрыемствах, за наведваньнем дамоў рэлігійных культаў, за бытавым жыцьцём у мястэчках, вёсцы, колгасе і г. д. Вывучаліся адпаведныя пісьмовыя матар'ялы, праводзілася фотографаваньне адпаведных об'ектаў, запіс мовы, думак, моўных выразаў на сходах, у прыватных гутарках, нарадах, праводзіўся запіс новых песень, частушак і апавяданьняў на фонографе.

зьбіраліся рэшткі рэчаў матар'яльнай культуры. Праводзілася выбарачнае абсьледваньне, мэдыцынскія агляды. Адным словам, у правядзеньні ўсёй работы экспэдыцыі практыкаваліся самыя рознастайныя мэтоды дасьледваньня і вывучэньня зьявішч, якія цікавілі нас.

Трэба адзначыць, як агульнае зьявішча—надзвычайна добрыя адносіны мясцовых работнікаў і ўсіх працоўных мястэчак і вёсак Палесься да работы нашай экспэдыцыі. Партыйцы, комсамольцы, настаўнікі, савецкія работнікі, рабочыя, колгасьнікі і працоўныя аднаасобнікі дапамагалі экспэдыцыі, чым хто мог. Экспэдыцыю сустракалі прадстаўнікі мясцовых організацый, адводзілі ёй памяшканьне дапамагалі ўзабесьпячэньні харчаваньнем і давалі неабходныя весткі. Надзвычайна сьвядомыя і добрыя адносіны да работ сваіх мы сустракалі з боку прымежных войск. Колгасьнікі і працоўныя сяляне давалі нам весткі аб наяўнасьці ў тых або іншых месцах карысных выкапняў—рознага роду глін, бурых жалезьнякоў, былыя партызаны і ўдзельнікі грамадзянскай вайны апавядалі нам аб рэволюцыйных падзеях, аб барацьбе з немцамі, пятлюраўцамі, балахоўцамі, белапалякамі і мясцовай контррэволюцыяй у Палесьсі; нямала мы атрымалі даных ад саміх жыхароў аб распаўсюджаваньні каўтуна, аб вэнэрычных хваробах; настаўнікі дасылалі нам добрасумленна і старанна запоўненыя анкеты. Мы мелі нямала выпадкаў, калі былыя партызаны, савецкія настаўнікі прыходзілі на месца экспэдыцыі за 10-12 вёрст і прыносілі ёй каштоўныя весткі. Неабходна адзначыць надзвычайна вялікую работу, зробленую для экспэдыцыі старшынёю райпляну і сакратаром Тураўскага РВК тав. Кернажыцкім і намесьнікам старшыні таго-ж РВК, загадчыкам аддзелу РАНА тав. Максімовічам. Яны сваёй энэргіяй, сваёй актыўнай работай і сталымі турботамі дапамаглі надзвычайна многім у рабоце экспэдыцыі.

## IV Агульнае ўражаньне аб прыродзе, жыцьці і соцыялістычным будаўніцтве ў Палесьсі

Той, хто ня быў у Палесьсі, хто сваімі вачыма ня бачыў багатых малюнкаў прыроды яго, таму выяўляецца Палесьсе як краіна панурая, краіна мраку і грязі балот і лясоў. На самай справе не такім зьяўляецца сучаснае савецкае Палесьсе. У ім таксама як і ва ўсёй Савецкай Беларусі ідзе шырокае соцыялістычнае будаўніцтва, у ім таксама назіраецца бурная работа ў галіне гаспадаркі і культуры. Прырода Палесься па сваёй рознастайнасьці, па багатых відах робіць мацнейшае ўражаньне на наглядальніка. Як вядома, у ім захавалася яшчэ вялізарная колькасьць лясоў рознастайных па складу дрэўных парод, па сваёй гушчыні і росту. Вы праяжджаеце часамі цэлыя дзесяткі кілёмэтраў хваёвым борам, ліставым лесам, сустракаючы на сваім шляху толькі асобныя пяшчаныя бугры або забалочаныя месцы. Рэдка можна сутрэць у Палесьсі елку; яе амаль няма. Затое вялізарныя масывы вы бачыце хваёвага лесу, вялікія прасторы пакрытыя мяшанымі і ліставымі дрэвамі. На пяшчаных бугрох вельмі добра расьце хвоя. Яе-ж вы можаце бачыць на вялізарным прасторы

забалочаных месц, але ў такіх месцах яна нізкарослая, слабая. Сярод ліставых лясоў многа вольхі, дубу, нямала маецца асіны і іншых ліставых парод. У Палесьсі вы ня знойдзеце або амаль ня знойдзеце чыстых палёў. Не, гэтыя палі перасякаюцца невялікімі пералескамі, пакрытымі асобнымі дрэвамі і невялічкімі групамі дрэў, часьцей за ўсё дубам, а таксама хмызьнякамі і невялічкімі балотамі. Лясы Палесься—гэта вялізарнае багацьце нашай краіны. Нямала іх ужо высеклі, але і вялізарныя прасторы засеяны новым лесам, хвойнікам. Ёсьць у Палесьсі глухія месцы



Канал у Жыткавіцкім раёне.

з дрымучым лесам, куды рэдка ступала чалавечая нага. Такія глухія месцы сустракаюцца і на паўднёвым захадзе Палесься і абапал ракі Прыпяці, на адлегласьці 5—10 км ад яе. Гэтыя лясныя масывы чаргуюцца з балотамі і хмызьнякамі. Сярод гэтых лясоў вы, можаце сустрэць лужыны, пакрытыя густой травой з багатымі відамі прыроды. Вось у гэтых глухіх месцох водзяцца цэлыя кучы камароў, якія літаральна заядаюць вас і не даюць ніякай магчымасьці работаць.

Другое багацьце, у той самы час самае характэрнае, што вам кідаецца ў вочы ў Палесьсі—гэта водныя прасторы, вялізарная колькасьць рэк і рэчак, азёр, паўвазёр і балот. Сярод усіх гэтых вадазбораў цэнтральнае месца займае рака Прыцяць, якая зьбірае з усіх бакоў вялізарную колькасьць рэк, рэчак, ручайкоў і каналаў. З усіх бакоў харчуецца гэтая рака вялізарнымі запасамі вады. Заўсёды яна зьяўляецца паўнаводнаю, у шмат якіх месцах выходзіць амаль з сваіх берагоў і разьліваецца па нізкім, балот-

ным месцам. Многа затокаў, рукавоў і старыкоў мае гэтая палеская рака Прыпяць. Шырыня яе дасягае вялізарных памераў. Па свайму віду, глыбіні і шырыні яна робіць на вас куды больш моцнае ўражаньне чым „беларускі“ Днепр. Вада ў Прыпяці цёмна-карычневая, але прэсная, мяккая. Прыпяць з сваімі прытокамі—гэта нэрва Палесься. Па берагох яе больш усяго распаложана вёсак, мястэчак і асобных прадпрыемстваў. У летні час яна напоўнена бурлівым жыцьцём. Гэтае бурлівае жыцьцё, з плытамі, параходамі, баркамі і буксырамі парушае цішыню Палесься з яго багатаю прыродаю.



Від Палесься, каля вёскі Сьнядзін, Петрыкаўскага раёну.

Па рацэ Прыпяці з раньняй вясны да позьняй восені курсіруюць пасажырскія параходы. Ад Мазыра да Кіева ходзяць першаклясныя прыгожыя параходы. Ад Мазыра да Турава—хужэй, але таксама заўсёды перапоўненыя бурлівым жыцьцём. Седзячы на параходзе і плывучы ўверх або ўніз па Прыпяці ад Мозыра да Турава, або наадварот, вы можаце прасачыць сваімі ўлзснымі вачыма за прыродай Палесься, за яго лясамі і балотамі, за лугавымі прасторамі, палямі, якія прылягаюць да Прыпяці, за рукавамі, невялічкімі азёрамі і рэчкамі, якія ўпадаюць у Прыпяць. Наглядаючы за пасажырамі і прыслухоўваючыся да іх, вы можаце, седзячы на параходзе, азнаёміцца з усім жыцьцём Палесься, з гаспадарчым, культурным будаўніцтвам у ім, з усімі недахопамі і дасягненьнямі ў гэтым будаўніцтве. Параходам едуць і рабочыя сплаўшчыкі, і лесарубы, і колгасьнікі і працоўныя аднаасобнікі, і настаўнікі і студэнты, і партыйныя і савецкія работнікі. Усе яны дзеляцца паміж сабою ўражаньнямі, спрачаюцца,

перадаюць адзін аднаму навіны. Тут-жа седзячы на палубе параходу вы можаце азнаёміцца з палескімі песьнямі, цягучымі і заўныўнымі. Пяюць іх у большасьці выпадкаў маладыя хлапцы, пяюць хорам, з натхненьнем, не зварочваючы ўвагі на прысутных. Прыслухоўваючыся да разгавораў пасажыраў, вы можаце азнаёміцца з моваю насельнікаў Палесься, з яе асаблівасьцямі, акцэнтам. Сярод беларускага говару чуецца тут вельмі часта ўкраінская мова, мова украінцаў, едучых на лесараспрацоўкі, на сплаў. Абслугоўваючы пэрсонал параходу амаль увесь складаецца з украінцаў.



Від на раку Прыпяць

Жыцьцё на параходзе дапамагло ў многіх адносінах і нашай экспэдыцыі. Праяжджаючы параходам спачатку ад Мазыра да Петрыкава, а пасьля з Петрыкава да Турава, удзельнікі экспэдыцыі вывучалі мову Палесься, фолькёр яго. Нашы фольклёрысты здолелі нават організаваць на палубе параходу цэлы рад запісаў на фонографе палескіх песень і частушек. Экономісты вялі гутаркі з колгасьнікамі, высьвятляючы іх настроі, недахопы і дасягненьні ў будаўніцтве колгасаў Палесься; яны-ж ад сплаўшчыкаў і лесарубаў атрымалі весткі аб лесаразработках, аб тым, наколькі рацыянальна вядзецца лясная гаспадарка, аб сплаве, аб жыцьці рабочых і г. д. Амаль усе ўдзельнікі экспэдыцыі знаходзілі сабе работу на параходзе. Сяляне давалі вельмі каштоўныя весткі аб карысных выкапнях, аб пакладах гліны і скарыстаньні іх, аб балотнай рудзе і аб застаўшыхся шляках пасьля абработкі яе. Многа даных можна было атрымаць на параходзе аб рыбаводных арцелях у Палесьсі. Асобныя пасажыры апавядалі і аб

грамадзянскай вайне ў Палесьсі, аб партызанскім руху. З параходу, які плыве па Прыпяці, вельмі добра наглядаць за прыродай Палесься, за багатымі відамі яго. Багатыя, сапраўды зьдзіўляючыя скрозь і ўсюды віды выназіраеце па Прыпяці. Ёсьць асобныя месцы па Прыпяці з высокімі берагамі, якія пакрыты хваёвым лесам. Больш за ўсё кідаецца ў вочы ліставы лес, які пакрывае сабой вялізарныя берагавыя прасторы. Пры якім-небудзь павароце ракі перад вамі нечакана раскрываюцца вялізарныя водныя прасторы. Гэта разьліўшыяся месцы Прыпяці. Па берагам гэтых



Від на раку Прыпяць, каля г. Петрыкава

месц павісьлі ліставыя дрэвы, а тут-жа побач багатая лугавая прастора, абкружаная вадой і лесам, разьлягаецца далёка-далёка. Але ня ўсе берагі Прыпяці пакрыты лесам. Вельмі часта вы бачыце перад сабой вялізарныя, нізінныя, забалочаныя прасторы з вялікаю колькасьцю мелкіх вазёр, з хмызьнякамі і часамі беднай расьлінасьцю.

Рака Прыпяць і яе прытокі, рукавы і яе залівы надзвычайна багаты рыбай. Рыбы ў Палесьсі сапраўды многа. Запасы яе тут надзвычайна вялікі. А між тым вылоўліваюць яе тут адносна ня так многа. І ўсяго гэтага рыбнага багацьця, якое маецца ў Палесьсі, мы далёка і далёка яшчэ не выкарыстоўваем. У Палесьсі вы не пачуеце скаргаў рыбакоў на тое, што няма рыбы ў рэчках і вазёрах, як гэта часта чуеца па рацэ Бярэзіне. У лясох і рэках Палесься водзіцца вялікая колькасьць рознастайнай дзічы і для паляўнічага тут шырокае поле дзейнасьці. Таксама невычарпальныя запасы ягад маюцца ў лясох Палесься. Чарніцы, суніцы, брусьніцы, маліны і іншыя ягады ёсьць тут у вялізарным запасе.

Па дарозе ад вёскі да вёскі, праяжджаючы лесам, вы па абапал дарогі бачыце вялізарныя прасторы, пакрытыя ягадамі. Асабліва зьдзіўлялі ўдзельнікаў экспэдыцыі запасы ягад на поўдзень ад Турава, па дарозе з Танежу на Салагубава, Данілевічы і інш. Ня менш іх і па ўсяму Лельчыцкаму раёну. Шмат кармоў для нашых сьвінаводчых гаспадарак знаходзіцца ў Палесьсі. Гэта вялікія запасы жалудоў. Да рэчы, не зважаючы на тое, што кармовая проблема для сьвіней у Палесьсі далёка яшчэ ня вырашана і многія сьвінаводчыя гаспадаркі сур'ёзна задумваюцца над гэтай проблемай, да гэтага часу ніхто сур'ёзна не паставіў пытаньне аб скарыстаньні ў шырокім маштабе жалудоў у якасьці кармовай базы для сьвінаводчай гаспадаркі. Гэтае пытаньне трэба паставіць і паставіць з пункту погляду экономічнага і тэхнічнага. Трэба заняцца сур'ёзна пытаньнем аб запасах жалудоў у Палесьсі і ня толькі ў Палесьсі, і аб тэхнічных сродках іх зьбіраньня.

Багата Палесьсе і многімі іншамі відамі сыравіных рэсурсаў. У прыватнасьці, нямала маецца ў Палесьсі і дубіцеляў. Лес, рыба, фаўна, ягады, грыбы, жалуды, гліны, бурыя жалезьнякі, дубіцелі, торф—усё гэта вялізарныя багацьці Палесься, якія зьяўляюцца вялізарнаю сыравіннай базай для нашага соцыялістычнага будаўніцтва. На базе гэтых запасаў можна і трэба разгарнуць шырачэйшую работу па соцыялістычнаму будаўніцтву. Шмат чаго ў галіне скарыстаньня гэтых запасаў ужо робіцца ў Палесьсі, вялікія дасягненьні мае Палесьсе ў галіне соцыялістычнага будаўніцтва. Але ўсё гэта—толькі першыя крокі ў параўнаньні з тым, што можа даць нашай соцыялістычнай гаспадарцы Палесьсе.

Палесьсе за параўнальна кароткі адрэзак часу з моманту Кастрычніцкай рэволюцыі, не зважаючы на сваю страшэнную адсталасьць у мінулым, ня гледзячы на тое, што яно бадай больш чым другія часткі СССР пацярпела ад featureнага роду белагвардзейшчыны, пятлюраўшчыны, белапалякаў і ад бандытызму—становіцца непазнавальным. Усюды, на кожным кроку, у любой вёсцы, у любым мястэчку вы бачыце новае жыцьцё, новае соцыялістычнае будаўніцтва. Шмат новых, нанова пабудаваных, няхай невялікіх, прадпрыемстваў у Палесьсі, нямала колгасаў вырасла за апошнія гады. У гэтым, некалі забітым, краі зьявіліся новыя школы, хаты-чытальні, дамы соцыялістычнай культуры, больніцы. Шмат якія вёскі па свайму бытавому ўкладу жыцьця, па сваёй культурнасьці сталі зусім новымі, у параўнаньні з тым, чым яны былі ў недалёкім мінулым. Усё гэта правільна і гэтага ня можна ня бачыць, ня можна адмаўляць. Але разам з гэтым шмат яшчэ захавалася і элемэнтаў старога сярод жыхароў Палесься, пачынаючы ад каўтуна, павер'я, бруду і цемры і канчаючы архаічнай апрацоўкай палёў і г. д. Прадстаіць яшчэ вялікая культурная і грамадзка-політычная работа ў Палесьсі, каб яго падцягнуць да перадавых раёнаў нашага Савецкага Саюзу. У прыватнасьці, прадстаіць вялікая работа для нашых навукова-дасьледчых установу, каб вывучыць усе натуральныя багацьці Палесься і рацыянальна іх выкарыстаць у вялікім соцыялістычным будаўніцтве.

*(Працяг будзе).*

А. О. Крукоўскі

# Карысныя выкапні ў ніжняй частцы вадазбору рр. Жалонь, Ражавы і Жалезьніцы, правых прытокаў р. Прыпяці

Рэкогносцыровачныя досьледы вызначаных частак вадазбораў рр. Жалонь, Ражавы і Жалезьніцы праведзены ў 1929 г. аднначасова з дасьледваньнем усяе паўднёвае часткі Нараўлянскага раёну па заданьню б. Мазырскага АВК у сувязі з патрэбамі народнае гаспадаркі акругі ў мінэральнай сыравіне.

Затым у 1931 г. прадставілася магчымым правесьці некаторыя сьвідраныя работы ўжо на папярэдне дасьледванай тэрыторыі.

На падставе сабраных, такім чынам, матар'ялаў і папярэдняе апрацоўкі іх і складзена данае паведамленьне [1]).

Папярэдня дасьледваная тэрыторыя распаложана ў паўднёва-ўсходняй частцы Нараўлянскага раёну на тэрыторыі Бярозаўскага, Дуброўскага, Хаткаўскага і часткова Вуглоўскага с/с, паміж р. Жалонь на поўначы і р. Жалезьніцай на поўдні. На ўсходзе яна прымыкае да даліны р. Прыпяці, на захадзе да даліны р. Гразьліваe.

У арографічных адносінах вызначаная тэрыторыя зьяўляецца часткай Палескай нізіны, распаложанай паміж Мазырскім і Славячанска-Оўруцкім ўзвышшамі, палога зьніжанай у паўночна-ўсходнім і ўсходнім кірунках. Узьнята яна тут над ўзроўнем Балтыцкага мора каля 122—133 м і над далінамі паказаных рэк прыблізна ад 10—23 м (па даным карты ВТУ маштабу 1 : 200.000).

Паверхня яе мае сьляды мінулае эрозійнае дзейнасьці, ад якое захаваліся тут няглыбокія даліны, лажбіны, катліны. Паўночная частка тэрыторыі прарэзана з захаду на ўсход далінай нязначнага раўчака Млінавая, праваю прытокаю р. Жалонь, у паўднёвай частцы далінай р. Ражавы, праваю прытокаю р. Прыпяці, а ў выніку гэтага паверхня набыла прыземіста-хвалістую будову з палогімі пераходамі ад станоўчых да адмоўных вышынь, з нязначнай разьбежкай паміж імі. Значна больш расьсечана паверхня з усходняга краю, дзе яна размыта раўкамі, ужо спыніўшымі свой рост. Пераход мясцовасьці да далін вызначаных рэк паступовы і палогі, а ўздоўж усходняга краю каля даліны р. Прыпяці да паказанае тэрыторыі прымыкае выразная ў рэль-

---

[1]) Карыстаючыся выпадкам, прыношу падзяку акад. М. Т. Бліодухо і геолёгу С. С. Малярэвічу за іх парады па апрацоўцы матар'ялаў.

Карты літолёгічная і карысных выкапняў вычарчаны т. Пікулікам Я. В.

ефе рачная дзюна (яна пачынаецца на S ад даліны р. Жалонь і цягне ўздоўж шляху з в. Дзёрнавіч у Ражаву, да даліны р. Ражавы, дасягаючы ў даўжыню каля 3,5—4 км, у шырыню 30—60 м, узьнятая над суседняй поймай р. Прыпяці да 10—15 м і месцамі раздутая ветрам). А ўсё паданае абумовіла тую акалічнасьць, што на паказанай тэрыторыі няма прыродных абгаленьняў, спрыяючых дасьледваньню адкладаў павярховае зоны. Раскіданыя тут у розных месцох глінакопішчы зьяўляюцца адзінымі месцамі выхаду на дзённую паверхню адкладаў плястычных глін, даныя аб рэгістрацыі якіх тут часткова і падаюцца.

На Ціхінскіх хутарох, на E ад в. Вуглы, у адлегласьці каля 2,75 км, на слаба выразнай бугрыне, у кар'ерах глінакопішча зарагістравана:

1. Расьлінны пласт. 0,015 м.

2. Пясок шэра-жаўтаваты з вохрыстымі плямкамі, няроўназярнёвы, з уключэньнем гравія і галькі крышталёвых парод (розных гранітаў, ружова-малінавага кварцыту, кварцу) 0,9 м.

3. Суглінак плямісты (жоўты з шэрым) з карманамі пяску з уключэньнем гравія, галькі і валуноў[1]) крышталёвых парод 3,50 м.

Па суседзтву, на SE, на Будзкіх хутарох, таксама пашыраны суглінак на глыбіні 1 м. ад паверхні, а пад ім плястычная гліна.

Каля Будзкае школы, у няглыбокай лажбінцы знд. № 26 пройдзена:

1. Расьлінны пласт 0,10 м.

2. Пясок сьветла-шэры, белаваты, няроўназярнёвы (пераважна дробны з пылавідным), акатаны, кварцавы (зерні кварцу вадзяна-празрыстыя з нязначнай дамешкай жоўтых і ружовых) з уключэньнем жалезьняку, ружовага палявіку, у ніжняй частцы пласту з вохрыстымі плямкамі, гліністы, вільготны 1,00 м.

3. Суглінак шэра-бураваты, аглеены, пескаваты, безвалунны, у верхняй частцы пласту з вохрыстымі плямкамі, з рэшткамі расьліннасьці, паступова пераходзіць у гліну 2,50 м.

4. Гліна ў верхняй частцы пласту, да глыбіні 5,00 м, шэра-шызаватая, слаба пескаватая; у сярэдняй частцы пласту пераходзіць у жоўтую, чуць бураватую і плямістую (чырвоная з жоўтай) плястычную на глыбіні 5,5—6,15 м шэра-бураватая каолінавая; у ніжняй шыза-зеленаватая з жоўтымі і чырвонымі жалезістымі плямкамі 8,75 м.

У гліну ўключаны кавалачкі бурага жалезьняку, найбольшыя з якіх памерам да 3-4 мм у дыямэтры, а таксама дамешаны акатаны кварцавы пясок (зерні кварцу вадзяна-празрыстыя, ружовыя, чырвоныя, радзей мутнаватыя) і дробныя кавалачкі нявызначанага чорнага мінэралю.

5. Пясок у верхняй частцы пласту шэра-попельны, у ніжняй шэры з зеленаватым адценьнем, з жоўтымі вохрыстымі плямкамі, дробны, кварцавы (зерні кварцу вадзяна-празрыстыя з дамешкай ружовых) з дамешкай бурага жалезьняку, кавалачкаў жоўтае вохры, зьмененага глаўканіту і чорнага нявызначанага мінэралю, востракутны, з глыбіні 10 м вільготны 11,75 м.

---

[1]) Валуны дасягаюць памераў ад 35 × 45 см да 1,2 × 0,85 м.

У паўночнай частцы тэрыторыі ўздоўж даліны р. Млінавай суглінкі і гліны таксама прасочаны на значнай працягласьці, ад Майданскіх хутароў да шляху з Дзёрнавіч у Ражаву, да вур. „Гліняныя Масткі“.

На N ад заходніх Майданскіх хутароў, у адлегласьці 0,5 км, у закінутым глінакопішчы плямісты (шэры з жоўтым) суглінак выходзіць на дзенную паверхню. Ён-жа відаць і ў глінакопішчы пры заходніх Майданскіх хутарох, каля шляху ў в. Вуглы, у 0,8 км ад Бярозаўскага с/с на W.

Той-жа суглінак выходзіць на дзённую паверхню ў пойме р. Млінавае, на W ад Бярозаўскага паравога млыну, у адлегласьці 0,5 км, дзе ён залягае на глыбіні да 0,5 м ад паверхні пад расьлінным пластам і пяском, пройдзены на 0,7 м.

На схіле да даліны р. Млінавае, каля Бярозаўскага с/с (паміж ім і р. Млінавая) у глінакопішчы зарэгістравана:

1. Расьлінны пласт 0,25 м.

2. Пясок сьветла-шэры, дробназярнёвы кварцавы 0,5 м.

3. Суглінак жоўты з плямамі шэрага, шчыльны, пескаваты, з уключэньнем галькі і дробных валуноў крышталёвых парод, у адзіночных выпадках і вапняковых 1,51 м.

4. Пескавік шэры з зеленаватым адценьнем, дробназярнёвы (вачавідна плітка) 1,62 м.

Знд. № 22 пры апісаным кар'еры пад расьліным пластом у 0,1м. і глінай у 1, 9м. пройдена яшчэ:

1. Суглінак шэры попельнага колеру з вохрыстымі плямкамі, пескаваты, тлусты на вобмацак, з рэдкім уключэньнем кавалачкаў вапняку, кавалачкаў шэрае, чуць шызаватае, акрамнелае глістае пароды, кавалачкаў бурага жалезьняку, частка якіх з марганцавай афарбоўкай 3,25 м.

2. Гэты суглінак паступова пераходзіць у гліну плямістую (чырвоная з гнёздамі шызавата-шэрае), каолінізаваную, к падэшве пласта пераходзіць у шызую з плямамі чырвона-буравятае і жоўтае жалезістае, на глыбіні 4,75-5,25 м, пескаватая, прычым к падэшве пласта пясок кварцавы больш буйны (зерні вадзяна-празрыстыя), а таксама ў гліне ўключаны тыя-ж пароды, што і ў папярэднім пласту 5,25 м.

Пясок гліністы, у верхняй і ніжняй частцы пласту жоўты з зеленаватым адценьнем, у сярэдняй чырвоны з жоўтымі плямкамі, кварцавы з дамешкай бурага жалезьняку, у верхняй частцы пласту няроўназярнёвы, у ніжняй дробны, вастракутны, вільготны 8,7 м.

Апісаная ў глінакопішчы каля Бярозаўскага с/с гліна пашырана і на E ад Бярозаўскага с/с, у вур. Гліняныя Масткі, якое расположана ў стыку паміж далінай р. Жалонь і шляхам з в. Дзёрнавіч у Ражаву, дзе на схіле каранного берагу да поймы вызначанае рэчкі ў глінакопішчы зарэгістравана:

1. Раслінны пласт 0,13 м.

2. Пясок попельна-шэры з уключэньнем галькі крышталёвых парод і кавалачкаў бурага жалезьняку 0,20 м.

3. Гліна плямістая, шэрая з жоўтай, у верхняй частцы пласту з уключэньнем дробнае галькі крышталёвых парод, кавалачкаў

шэрага вапняку і бурага жалезьняку, частка якога з марганцавай афарбоўкай 1,08 м.

У 70 м. ад глінакапішча ў кірунку да поймы р. Жалонь пройдзеная зон. № 16 тоўшча пласту гліны, якая залягае пад расьлінным пластом у 0,1, складае 1,05 м; пад глінай-жа пройдзена:

1. Пясок шэра-попельны, няроўназярнёвы, прычым у верхняй частцы пласту пераважае дробны, кнізу павялічваецца колькасьць буйнога да 50 проц. (дыям. ад 1-3 мм) кварцавы (пяшчынкі вадзяна-празрыстыя з дамешкай ружовых), з уключэньнем кавалачкаў сьветла-шэрага вапняку і бурага жалезьняку; пясок пераважна акатаны, гліністы 2,25 м. (глыбіня падэшвы пласту).

2. Гліна каолінавая, у верхняй частцы пласту сьветла-шэрая, у ніжняй белая, з нязначным уключэньнем дробнага і буйнога вадзяна-празрыстага акатанага кварцавага пяску (на прыкметах перадкладзеная) 2,75 м.

3. Пясок у верхняй і ніжняй частцы пласту жоўты, у сярэдняй белы з жоўтымі вохрыстымі плямкамі, дробназярнёвы, вільготны 4,75 м.

4. Пескавік (вочавідна плітка) сьветла-жоўты дробназярнёвы (сцамантаваны вапнай і глінай) 4,85 м.

Ва ўсходняй частцы тэрыторыі плястычная гліна, аднатыповая з апісанай вышэй, відна у бартох канавак на паўднёвых хутарох Прахожа і Восіпаўка і шч. № 18 на Е ад паравога млыну, што на хутарох Прахожа, пройдзена:

1. Расьлінны пласт 0,25 м.

2. Пясок попельна-шэры, няроўназярнёвы, кварцавы з дамешкай палявіку і бурага жалезьняку, акатаны, пераходзіць у суглінак 0,5 м.

3. Суглінак плямісты пераходзіць у плямістую (шэра-буравaтую з шэра-шызаватай і чырвона-малінавай) гліну, тлустую, з уключэньнем кавалачкаў бурага жалезьняку памерам да 4 мм, у верхняй частцы пласту кавалачкаў сьветла-шэрага вапняку 7 м.

4. Пясок у верхняй частцы пласту жоўты, у ніжняй з зеленаватым адценьнем, у верхняй частцы няроўназярнёвы з значнай колькасьцю буйнога, акатаны, у ніжняй дробны, мучністы, востракутны, кварцавы з дамешкай бурага жалезьняку, гліністы, вільготны 10,75 м.

На частцы плошчы вадападзелу паміж р. Ражавай і Жалезьніцкай (на тэрыторыі Хаткаўскага с/с.) пашыраны тыя-ж суглінкі. Шч. № 19 каля б. вузкакалейкі паміж р. Жалезьніцкай і Ражавай пройдзена:

1. Пясок сьветла-шэры з вохрыстымі плямкамі, няроўназярнёвы, пераважна дробны, кварцавы, з рэдкай дамешкай бурага жалезьняку 0,63 м.

2. Гліна плямістая (жоўта-буравaтая з шэрай і чырвонымі плямкамі), у верхняй частцы песчаватая, у ніжняй каолінізаваная, слаба карбонатная, з уключэньнем кавалачкаў бурага жалезьняку 2,25 м.

3. Суглінак у верхняй частцы пласту жоўты з белымі вапняковымі плямкамі, затым чырвоны з галькай шэрае каолінізаванае тошчае гліны, пескаваты, з уключэньнем кавалачкаў (разьмерам ад 1—4 мм) бурага жалезьняку, частка якіх з марганцавай афарбоўкай, кавалачкаў шэрае, чуць шызаватае, акрамнелае глiнiстае пароды 4,25 м.

4. Пясок у верхняй частцы пласту шэра-попельны, у ніжняй — жоўта-буараваты і жоўты з зеленаватым адценьнем, у верхняй частцы мучністы, у ніжняй няроўназярнёвы з пераважаньнем дробнага, гліністы, кварцавы (кварцавыя пяшчынкі вадзяна-празрыстыя і радзей жоўта-вохрыстыя) з дамешкай кавалачкаў бурага жалезьняку, жоўтае вохры, у ніжняй частцы зьмененага гляўконіту і нявызначанага чорнага мінэралю, мала акатаны, у верхняй частцы слаба карбонатны, вільготны 9,45 м.

На N адгэтуль, на першай калёніі Хатак, каля цагельні ў глінакопішчы, пад расьлінным пластом у 0,15 м і суглінкам плямістым (жоўты з шэрым), пескаватым, з уключэньнем галькі і дробных валуноў крышталёвых парод, тоўшча пласту 0,25 м, відаць гліна шэрая з шызаватым адценьнем, з жоўтымі вохрыстымі плямкамі, шчыльная, з карманамі шэра-зеленаватага пяску, у які ўключана дробная галька крышталёвых парод, відзімая тоўшча пласту складае звыш 1 м.

У глінакопішчы (калёніі Хаткі, на сядзібе Кірылы Піценкі) відаць чырвона-буараваты суглінак, відзімая тоўшча яго пласту дасягае 1 м, залягае пад расьлінным пластом у 0,1 м і шэра-жаўтаватым з уключэньнем галькі і дробных валуноў крышталёвых парод пяском у 0,45 м.

Эрозійныя процэсы, аб сьлядох якіх адзначана вышэй, трэба лічыць значна зьмянілі верхнюю частку пласту суглінкаў і глін, а таму ў частцы глінакопішч відзімыя абгаленьні пласту іх, а таксама ў мясцох пройдзеных зондыроўкамі, нельга лічыць характэрнымі для ўсіх месц распаўсюджаньня суглінкаў і глін. Таксама эрозійныя процэсы значна зьмянілі і самую тоўшчу пласту, а месцамі зусім размылі. Вось чаму прыведзены вышэй фактычны матар'ял аб пакладах суглінкаў і глін трэба лічыць будзе характэрным для тых конкрэтных месц, дзе яны дасьледваны.

Тым ня менш, на падставе ўсяго прыведзенага фактычнага матар'ялу, магчыма павярховую зону адкладаў на дасьледваным участку да глыбіні 10 м схэматычна прадставіць у наступным выглядзе:

1. На паверхні пад расьлінным пластом залягаюць нязначнай тоўшчай (ад 0,25—0,60 м) няроўназярнёвыя пяскі з уключэньнем галькі і дробных валуноў крышталёвых парод, а ў рэдкіх выпадках і вапняковых. Галька і валуны тых-жа парод яшчэ сустракаюцца і на паверхні і некаторыя валуны дасягаюць памераў 0,5×0,5 м. Па пэтрографічнаму складу пяскі кварцавыя (пяшчынкі вадзяна-празрыстыя, жаўтаватыя, мутныя, рэдка жоўта-вохрыстыя) з дамешкай ружовага і белаватага палявіку, бурага жалезьняку і нявызначанага чорнага мінэралю, акатаныя. З заходняга краю дасьледванае тэрыторыі ў вадазборы р. Гразьлі-

вае, з усходу і паўднёвага ўсходу, каля поймы р. Прыпяці і непасрэдна прылягаючай плошчы паміж р. Ражавай і Жалезьніцай, а затым на правым беразе р. Жалезьніцы пашыраны сартаваныя пяскі старажытна-алювіяльныя. На поўначы ў ніжняй частцы вадазбору р. Жалонь пераважна сучасныя алювіяльныя адклады, забалочаныя.

2. Пад пяскамі, тоўшча якіх паказана, залягае суглінак, мейсцамі гліна.

3. Пад глінай залягаюць жоўтыя, бура-жоўтыя і жаўтаватыя з зеленаватым адценьнем няроўназярнёвыя і дробныя пяскі, пройдзеная тоўшча якіх да 3,75 м. Яны па пэтрографічнаму складу кварцавыя, пяшчынкі кварцу вадзяна-празрыстыя, жоўта-вохрыстыя, з дамешкаю бурага жалезьняку, нявызначанага чорнага мінэралю, а ў шч. № 10 знойдзены зьменены глаўконіт; буйнейшыя фракцыі пяску акатаныя, дробныя, востракутныя, пяскі ваданосныя.

Дамінуючым адкладам у павярховай зоне зьяўляецца суглінак. Ён пашыраны на значнай плошчы.

Падсьцілаючыя гліну і суглінак пяскі таксама значна пашыраны. Вызначыць-жа пашырэньне пескавікоў, паказаных у ўр. Гліняныя Масткі (шч. № 16), а таксама ў кар'еры глінакопішча каля Бярозаўскага с/с за недахопам даных пакуль што немагчыма.

На падставе праведзенага папярэдняга дасьледваньня магчыма зрабіць некаторыя заўвагі аб геолёгічным ўзросьце і гэнэзісе апісаных суглінкаў і глін.

Паколькі суглінкі складзены несартаваным матар'ялам, а таксама маюць у сабе значнае ўключэньне гравія, галькі і валуноў крышталёвых парод (апошнія нярэдка значных памераў), дык папярэднія мажліва аднесьці іх да марэнавых адкладаў, значна размытых і зьмененых, пашыраных на вызначаных плошчах, як гэта паказана на прыкладзенай карце, 3-ма невялікімі масывамі „вастраўкамі", ізоляванамі адзін ад другога сучаснымі і старажытна-алювіяльнымі адкладамі.

Паклады глін зачастую разьмешчаны каля рачных далін, а ў вур. „Гліняныя масткі" белая каолінавая гліна залягае ў даліне— Жалонь каля каранного берагу, прычым мейсцамі гліна непасрэдна перакрыта суглінкам.

Утварэньне гліны, мажліва меркаваць, ішло за кошт паказаных суглінкаў, а таксама і тых каранных парод, што распаложаны на тэрыторыі паўночнае часткі УССР, у выніку дзейнасьці рэк. За гэта гаворыць прысутнасьць мейсцамі ў чырвонай гліне галькі шэрае каолінізірованае гліны, акатанасьць дамешанага ў гліну пяску і мейсцараспалажэньне гліны. Тады, мажліва, гэта будуць тэрасавыя старажытна-алювіяльныя адклады рэк.

Першапачатковае хэмічнае дасьледваньне глін (пробы для чаго ўзяты з розных частак плошчы іх пашырэньня, а таксама з рознае глыбіні), праведзенае ў значным аб'ёме (14 поўных хэмічных аналізаў) дазваляе вызначыць, што процант утрыманьня ў глінах крэмнязёму ($SiO_2$), окіслу жалеза ($Fe_2O_3$) і алюмінія

($Al_2O_3$) значна розны як для розных частак тоўшчы пласту, так і горызонтальнага яго пашырэньня, прычым нельга вызначыць пэўнае паступовасьці ў нарастаньні ці зьмяншэньні проценту ўтрыманьня паказаных окіслаў ні ў тым, ні ў другім кірунках. Адносна жалеза магчыма адзначыць, што ў верхняй часцы пласту глін яно вокіснае, а ў ніжняй месцамі закіснае, афарбаваўшае гліну ў шэра-зеленаваты колер, што ў прыведзеным фактычным матар'яле і адзначана.

Таксама рознае процантнае ўтрыманьне ў глінах маем органічных злучэньняў і крышталізаванае вады. Процант ўтрыманьня окісі кальцыя ($CaO$), окісі магнія ($MgO$), окісі калія і натрыя ($K_2O+Na_2O$), сярчанага ангідрыду ($SO_3$), $TiO_2$ і закісі марганца ($MnO$) не дае значнае розьніцы, што відаць з наступных фактычных даных для розных частак пласту:

| | З глыбіні пласту ад 0,6—3,25 м. | З глыбіні пласту ад 4,25—5,25 м | З глыбіні пласту ад 6,25—8,25 |
|---|---|---|---|
| | У % | У % | У % |
| 1. Гігроскопічная вада . . . . | 1,66—7,17 | 2,84—3,65 | 2,62—3,88 |
| 2. $CO_2$ . . . | ня знойдз. 0,05—0,50 | ня знойдз. 0,05,0,20 | 0,05—0,11 |
| 3. Органічныя злучэньні і крышталізаваная вада . . . | 4,48—9, 32 | 5,47—6,88 | 7,03—8,47 |
| 4. $SiO_2$ . . . | 56,15—74,71 | 62,10—68,12 | 50,20—67,67 |
| 5. $Fe_2O_3$ . . . | 2,14—10,32 | 3,87—16,99 | 6,34—18,04 |
| 6. FeO . . . | — | — | — |
| 7. $Al_2O_3$ . . . | 9,91—23,57 | 9,18—18,00 | 13,07—20,86 |
| 8. $P_2O_2$ . . . | — | — | — |
| 9. $TiO_2$ . . . | ня знойдз.—1,25 | ня знойдз.—0,80 | 0,54—1,00 |
| 10. MnO . . . | ня знойдз.—0,02 | сьляды—ня знойдз. | ня знойдз.—0,04 |
| 11. CaO . . . | 0,56—2,34 | 0,51—0,97 | 1,06—1,30 |
| 12. MgO . . . | сьл.—0,17—0,81 | 0,14—0,45 | 0,23—0,46 |
| 13. $SO_3$ . . . | 0,09—0,21 | 0,19—0,21 | 0,09—1,14 |
| 14. $K_2O+Na_2O$ . | 0,72—1,76 | 0,39—0,80 | 0,53—1,02 |

У заключэньне хэмічнае характарыстыкі падаем некаторыя аналізы глін з паасобных месц пашырэньня іх, з верхняе часткі пласту.

| З якога месца | Шч. № 16. Бярозаўскі с/с, вур. „Гліняныя Масткі“ (пераадкладзеная гліна) | Знд. № 22, Бярозаўскі с/с каля кар'еру цагельні на сядзібе с/с | Шч. № 19, х-ра Хаткі таго-ж с/с 1 колёнія |
|---|---|---|---|
| | У % | У % | У % |
| № маркі Геолёгічнага інстытуту . . . . | 424 | 426 | 418 |
| № аналізу хэмічнае лябораторыі . . . . | 46 (918) | 48 (920) | 40 (912) |
| № узору глін па бураваму журналу . . . | 8 і 9 | 4 | 6 |
| З якое глыбіні ўзоры ў м . . . . . . | 2,25—2,75 | 0,85—1, 2 | 2,00 |
| 1. Гігроскопічная вада | 1,66 | 4,40 | 5,00 |
| 2. $CO_2$ . . . . . . | ня знойдз. | 0,49 | 0,07 |
| 3. Органічныя злучэньні і крышт. вада . | 9,32 | 8,60 | 9,43 |
| 4. $SiO_2$ . . . . . . | 62,45 | 56,91 | 56,15 |
| 5. $Fe_2O_3$ . . . . | 2,14 | 10,32 | 6,73 |
| 6. FeO . . . . . | — | — | — |
| 7. $Al_2O_3$ . . . . . | 23,57 | 16,50 | 18,82 |
| 8. $P_2O_5$ . . . . . | — | — | — |
| 9. $TiO_2$ . . . . . | сьл. | ня знойдз. | 0,47 |
| 10. MnO . . . . . | сьл. | сьл. | сьл. |
| 11. CaO . . . . . | 0,56 | 0,77 | 0,09 |
| 12. MgO . . . . . | 0,17 | 0,81 | 0,65 |
| 13. $SO_3$ . . . . . | 0,09 | 1,16 | 0,21 |
| 14. $K_2O+Na_2O$. . . . | 0,72 | 1,76 | 1,03 |
| | 100,68 | 100,72 | 99,65 |
| 15. Страта ад прапальваньня . . . . | 10,98 | 13,49 | 14,50 |
| 16. Нерашчыняльн. астача | 87,90 | 85,01 | 80,16 |
| | (Аналітык Арановіч) | | (Аналітык Маркава) |

У заключэньне неабходна адзначыць, што апісаныя гліны зьяўляюцца каштоўнай мінэральнай сыравінай для патрэб соцыялістычнага будаўніцтва Нараўлянскага раёну.

На падставе даных хэмічных аналізаў (без тэхнолёгічнага дасьледваньня) магчыма адзначыць, што гэтыя гліны годны на выраб добрых гатункаў цэглы, клінкеру, чарапіцы—тых будаўнічых матар'ялаў, якія неабходны для разгорнутага колгаснага і савгаснага будаўніцтва, культурна-асьветных устаноў і іншае.

Магчыма, што лепшыя гатункі глін годны і на ганчарныя вырабы.

Заляганьне значнае часткі іх у сумежнасьці з ракою Прыпяцьцю (ур. Гліняныя Масткі, каля хутароў Прахожа і інш.) аблягчае іх транспорт. Залягаюць гліны, таксама, вышэй узроўню грунтовых вод.

Схэматычная літолёгічная карта. *)




Сучасны алювій рэк.

Старадаўні алювій

Суглінак з гравіем і крышталёв. парод.

Гліна пластычная.

*) Па тэхнічным прычынам клішэ мае некаторыя недакладнасьці.

## Рэгістрацыйны сьпіс

| №№ п/п. | Назва пароды або мінэралю | Месца знаходжаньня адкладаў або згуртаваньня | Характарыстыка карыснага выкапню і ўмовы яго знаходжаньня | Даныя аб распрацоўцы |
|---|---|---|---|---|
| | | | **Бярозаўскі с/савет** | |
| 1 | Гліна плястычная | Ур. Гліняныя Масткі на О ад Бярозаўскага с/с у адлегласьці км. | Плямістая (шэрая з жоўтай) гліна з уключэньнем у верхняй частцы пласту галькі крышталёвых парод, кавалачкаў шэрага вапняку і бурага жалезьняку, частка якога з марганцавай афарбоўкай, пашырана на правым беразе р. Жалонь, на схіле ад каранного берагу да поймы, на плошчы да 70 га, на глыбіні прыблізна ад 0,15—0,50 м. ад паверхні пад расьлінным пластам і няроўназярнёвым пяском. Тоўшча пройдзенага шч. № 16 пласту складае 1,05 м. | Вядуцца нязначныя сялянскія распрацоўкі. |
| 2 | Каолінавая | Там-жа | Гліна ў верхняй частцы пласту шэрая, у ніжняй белая, перакладзеная з нязначным уключэньнем дробнага і буйна-валзянага празрыстага акатанага пяску. Залягае там-жа, пад вызначанымі пародамі і шэра-попельным, глiністым пяском, на глыбіні 2,25 м, пройдзеная шч. № 16 тоўшча пласту складае 0,50 м. | |
| 3 | Гліна плястычная | На N ад Бярозаўскага с/с, паміж ім далінай р. Млінавай | Залягае гліна 2 пластамі: 1) у 1-м пласту плямістая (шэрая з жоўтай з вохрыстымі плямкамі, у верхняй частцы пласту з уключэньнем галькі і дробных валуноў крышталёвых, у адзіночных выпадках вапняковых парод і кавалачкаў бурага жалезьняку, тоўшча пласту, пройдзеная знд. № 22,—1,90 м.<br><br>II) У II пласту гліна плямістая. У верхняй частцы чырвоная з гнёздамі шызавата-шэрае, каолінізаванае, у ніжняй шызая з плямамі чырвона-бураватае і жоўтае жалезістае з уключэньнем дробных кавалачкаў вапняку, кавалачкаў шэрае, чуць шызаватае глiністае пароды, бурага желязьняку, частка якога з марганцавай афарбоўкай, тоўшча пласту 2,00 м. Залягае на правым беразе р. Млінавай на слаба выразным схіле ад плято да поймы, на глыбіні ад 0,10—0,50 м ад паверхні пад расьлінавым пластам і няроўназярнёвым пяском, прасьледжана пашырэньне на плошчы да 2 га. | Нязначныя сялянскія распрацоўкі |

| №№ п/п. | Назва пароды або мінэралю | Месца знаходжаньня адкладу або згуртаваньня | Характарыстыка карыснага выкапню і ўмовы яго знаходжаньня | Даныя аб распрацоўцы |
|---|---|---|---|---|
| 4 | Каоліназаваная | У ваколіцах Восіпаўскага паравога млыну і паўднёвых Восіпаўскіх хутароў. | Гліна плямістая ад шэра-буравататай да чырвонай з малінавым адценьнем з уключэньнем кавалачкаў бурага железьняку, на глыбіні 1,50—2,00 м ад паверхні і кавалачкаў сьветлашэрага вапняку. Залягае на плошчы значных разьмераў пад расьлінным пластом і няроўназярнёвым пяском на глыбіні да 0,50 м ад паверхні. Пройдзеная шч. № 18 тоўшча пласту 6,50 м. | |
| 5 | Суглінак | На W пры Майдананскіх хутарох | Шэры, з плямамі жоўтага, суглінак, залягае на глыбіні каля 0,31 м пад расьлінным пластам і нароўна зярнёвым пяском на значнай плошчы. Відзімая ў глінакопішчы тоўшча пласту каля 0,50 м. | |
| 6 | „ | На W ад Бярозаўскага паравога млыну ў адлегласьці 0,5 км | Шэры з плямамі жоўтага плястычны суглінак залягае ў пойме р. Млінавай пад расьлінавым пластам і пяском на глыбіні да 0,5 м ад паверхні. Відзімая ў глінакопішчы тоўшча пласту складае 0,69 м. | Нязначныя сялянскія распрацоўкі |
| | | | **Вуглоўскі с/савет** | |
| 7 | „ | Ціхінскія хутары, на E ад в. Вуглы ў адлегласьці 2,75 км | Плямісты (жоўты з шэрым) з карманамі пяску, з уключэньнем галькі крышталёвых парод; суглінак залягае на слаба выразнай бугрыне на глыбіні да 0,50 м ад паверхні пад расьлінным пластом і няроўназярнёвым пяском. Пашырэньне яго прасьледжана на плошчы каля 4-5 га, відзімая ў глінакопішчы тоўшча пласту складае 2,93 м. | Выкарыстоўваецца для цагельні |
| | | | **Дуброўскі с/савет** | |
| 8 | „ | Сярэднія Дуброўскія хутары каля школы | Плямісты (жоўты з шэрым вязкі суглінак, з уключэньнем галькі крышталёвых парод. Залягае пад расьлінным пластом і няроўназярнёвым пяском на глыбіні каля 0,50 м. Плошча пашырэньня ня высьветлена. | |
| 9 | „ | Будзкія хутары навакол школы і на E ад яе | Шэра-бураваты, пескаваты суглінак, пераважна ў верхняй частцы пласту з вохрыстымі плямкамі. Залягае ва глыбіні да 1,00 м пад расьлінным пластом і нароўназярнёвым пяском. Тоўшча пройдзенага знд № 26 пласту складае 1,50 м. Плошча пашырэньня ня вызначная. | |

| №№ п/п. | Назва пароды або мінэралю | Месца знаходжаньня адкладу або згуртаваньня | Характарыстыка карыснага выкапню і ўмовы яго знаходжаньня. | Даныя аб распрацоўцы |
|---|---|---|---|---|
| 10 | Гліна плямістая | Там-жа | Гліна плямістая (шэра-шызаватая і жоўтая з чырвонай). Залягае на глыбіні 2,50 м пад вызначанымі вышэй (пад № 9) пародамі Гліна з уключэньнем кавалачкаў бурага жалезьняку. Тоўшча пройдзенага знд. № 26 пласту складае 6,25 м. Пашырана на значнай плошчы. | |
| | | | **Хаткаўскі с/савет** | |
| 11 | " | На 1 колёніі Хатак, каля цагельні | Гліна шэрая з шызаватым адценьнем, з жоўтымі вохрыстымі плямкамі, з карманамі шэра-зеленаватага пяску, у які ўключана дробная галька крышталёвых парод. Залягае на нявыразнай бугрыне на глыбіні каля 0,40 м ад паверхні. Бачная ў глінакопішчы тоўшча пласту складае 1,06 м. Пашырана на плошчы значных памераў. Залягае пад расьлінавым пластом, няроўназярнёвым пяском і плямістым суглінкам. | Нязначныя распрацоўкі для саматужнае цагельні |
| 12 | Суглінак Гліна плястычная | Колёніі Хаткі каля сядзібы Кірыла Піцэнкі | Чырвона-бураваты суглінак, з уключэньнем гравія і галькі крышталёвых парод. Залягае на малавыразнай бугрыне, на глыбіні каля 0,50 м ад паверхні пад расьлінавым пластом і няроўназярнёвым з уключэньнем галькі пяском. Тоўшча бачнага ў глінакопішчы пласту каля 1,00 м. Пашыраны прыблізна на плошчы каля 30 га. | Нязначныя распрацоўкі для саматужнае цагельні |
| 13 | Гліна плястычная | Колёніі Хаткі, каля б. вузкакалейкі, паміж далінамі р. Ражавы і Жалезьніца | Гліна плямістая (жоўта-бураватая з шэрай), з уключэньнем кавалачкаў бурага жалезьняку, у ніжняй частцы пласту, плястычная з белымі вапняковымі плямамі, у верхняй пяскаватая, слаба карбонатная. Залягае на глыбіні да 0,60 м ад паверхні пад расьлінавым пластом і няроўназярнёвым пяском. Пройдзеная знд. № 19 тоўшча пласту складае да 1,60 м. | |

А. М. Сяргееў

# Племянная работа з буйной рагатай жывёлай у БССР у другой пяцігодцы

„У другой пяцігодцы задача разгортваньня савгаснай і колгаснай жывёлагадоўлі набывае асабліва вялікую актуальнасьць, як адна з адказных прадпасылак да паляпшэньня забесьпячэньня спажыўнымі продуктамі шырокіх мас“ (В. Молатаў—даклад на XVII партконфэрэнцыі).

XVII партконфэрэнцыя дала сталую ўстаноўку на тое, каб к канцу 2-й пяцігодкі забясьпечанасьць насельніцтва спажыўнымі таварамі і ў тым ліку продуктамі харчаваньня павялічылася-б у 2-3 разы ў параўнаньні з канцом 1-й пяцігодкі. Найбольшыя труднасьці пры разьвязваньні гэтай проблемы паўстануць на шляху жывёлагадоўлі, бо тут мы маем, як ужо гэта адзначыў т. Якаўлеў, найменш спрыяючыя і выгодныя позыцыі. Шляхі вырашэньня жывёлагадоўчай проблемы з дастатковай чоткасьцю былі намечаны XVI партзьездам. У асноўным шлях гэты ляжыць праз організацыю буйных спэцыялізаваных жывёлагадоўчых савгасаў і колгасаў. Практыка 1-й пяцігодкі паказала, што гэты шлях ёсьць найбольш правільны шлях да вырашэньня жывёлагадоўчай проблемы. Жывёлагадоўчыя савгасы і колгасы, працуючыя на грунце шасьці гістарычных умоў т. Сталіна, ужо далі вялікі зрух у гэтай справе, павялічыўшы значна сваё стада, падвысіўшы таварнасьць і г. д.

Тэхнічна барацьба за павялічаную продукцыю ў жывёлагадоўлі можа разгарнуцца ў двух кірунках—у кірунку колькаснага павялічэньня ўжо маючагася пагалоўя і ў кірунку якаснага паляпшэньня жывёлы. Драпежны ўбой жывёлы ў першыя гады 1-й пяцігодкі, які мы назіралі на вёсцы, як вынік кулацкай падрыўной работы, прымусіў нас з асаблівай увагай падыйсьці ў гэтыя годы да пытаньня колькаснага росту нашых стад. Пры гэтым даволі часта колькасны ўзрост ішоў за кошт якаснага стану жывёлы (племянная работа звычайна бывае шчыльна зьвязана з вялікай выбракоўкай жывёлы, чаму і дрэнна ўвязваецца з пашыраным аднаўленьнем стада).

Але ўжо 1932 год павінен будзе выявіць сябе, як год рашучай барацьбы за якасьць, як год разгортваньня сур'ёзнай шырокай племянной і сэлекцыйнай работы. На працягу 2-й пяцігодкі мы ня зможам і не павінны адмовіцца ад задачы пашыранага колькаснага павялічэньня стад, але галоўную сваю ўвагу павінны

будзем зьвярнуць на барацьбу за якасныя паказальнікі. Усе мерапрыемствы па падвышэньню продукцыйнасьці буйной рагатай жывёлы (шматмалочнасьць, тлушчамалочнасьць, мяснасьць, хуткасьпеласьць і г. д.) магчыма падзяліць на дзьве грунтоўныя часткі: а) паляпшэньне ўмоў кармленьня і ўтрыманьня (барацьба за лепшы фэнотып) і б) паляпшэньне спадчынных задаткаў (барацьба за лепшы генотып).

Зразумела, што гэтыя дзьве групы мерапрыемстваў нельга разглядаць адарвана адна ад адной. Тав. Якаўлеў на XVI партзьезьдзе, грунтуючыся на даных ВІЖ'у, прывёў такі прыклад. Для таго, каб карова давала ў год ня 1.000, а 2.000 літраў ёй патрэбна даць корму ня ў два разы больш, а толькі на 30 проц. Але з гэтага зусім нельга рабіць такіх вывадаў, што такі эфэкт можа даць усякая карова і ў любы момант. Так рэагаваць на кармленьне можа толькі тая карова, якая наогул здольна і можа даваць вялікія ўдоі. Выдатны дацкі зоотэхнік Л. Фрыдрыксен кажа: „Немэтазгодна клапаціцца аб кармленьні дрэнных кароў, роўна як немэтазгодна мець добрых кароў і карміць іх дрэнна".

2-я пяцігодка павінна будзе падвесьці і падвядзе належную кармовую базу пад жывёлагадоўлю і, такім чынам, забясьпечыць спрыяючыя ўмовы для разгортваньня племработы.

Племянная работа па свайму характару патрабуе для свайго разгортваньня шмат часу, да яе і неабходна прыступіць як-мага хутчэй, не чакаючы поўнага разьвязваньня пытаньняў кармовай проблемы. Племянная справа для таго, каб магчыма было скарыстаць яе вынікі, патрабуе вялікіх затрат сродкаў, часу і сіл, чаму яе некаторыя правільна называюць цяжкой індустрыяй жывёлагадоўлі.

У нас у БССР племянная справа пакуль што зьяўляецца адным з самых вузкіх месц у нашай жывёлагадоўлі. Мы значна адсталі ў гэтых адносінах ад нашых суседзяў (Заходняя вобласьць, Украіна і г. д.). Наш племфонд невялікі, яшчэ як належыць быць ня выяўлены. Мы ня маем такіх вялікіх масываў племяннoй жывёлы, як, напрыклад, Сычоўскі племрассаднік сімэнталаў у Заходняй вобласьці, сталай сеткі ўзорна організаваных племгасаў і г. д.

Тлумачыцца гэта, на нашу думку, тым, што племсправа, як адно з галоўных мерапрыемстваў па паляпшэньню жывёлы ў нас, у БССР, недаацэньвалася як з боку зямельных устаноў, так і з боку гаспадарчых трэстаў і організацый. У гэтай справе таму мы і маем на сёнешні дзень пакуль што вельмі нязначныя посьпехі. У 2-ю пяцігодку мы ў гэтых адносінах уступаем са значным прарывам.

Плянавая соцыялістычная гаспадарка ўтварае новыя спрыяючыя ўмовы для разьвядзеньня культурнай, больш хуткасьпелай і продукцыйнай жывёлы замежных і нашых лепшых мясцовых парод. Асноўны мэтод паляпшэньня нашай жывёлы—гэта мэтод мэтызацыі. Гэты мэтод дае сталыя вынікі толькі пры ўмове чоткай, плянавай работы. Проф. Ліскун на Ўсесаюзнай нарадзе па племяннoй справе пры НКЗ СССР прыводзіў такі яркі прыклад. У ПАЗШ было завезена каля 11.000 галоў племяннoй буй-

ной рагатай жывёлы голяндзкай пароды. Дзякуючы рацыянальнаму яе скарыстаньню на працягу 60-ці год атрымалі і каля адзінаццаці з паловай мільёнаў галоў голяндзкай жывёлы. Былая Расія да рэволюцыі штогодна завозіла больш чым 11.000 галоў, аднак, нічога станоўчага з гэтага не атрымалася.

Пра БССР у адносінах яе пароднага складу стад кажуць, як пра нейкі „зоопарк". Тут магчыма сустрэць прадстаўнікоў амаль што ўсіх існуючых хоць крыху вядомых культурных парод. У мінулым годзе НКЗ БССР зацьвердзіў проект пароднага раёнаваньня, па якому ў якасьці паляпшаючых парод вызначаюцца тры грунтоўныя пароды: швіцкая—для паўночнай часткі БССР, чырвона-беларуская—для цэнтральнай часткі і колёнісцкая белагаловая—для паўднёвай часткі. На жаль, гэта пароднае раёнаваньне засталося пакуль што папяровым. Гаспадарчыя ўстановы і трэсты не зрабілі з гэтага раёнаваньня ніякіх вывадаў для сябе і ня ўжылі ніякіх захадаў да яго ажыцьцяўленьня. Жывёла засталася там, дзе і была. Ніякіх перакідак жывёлы ня было зроблена. І на сёнешні дзень ня толькі ўся БССР у цэлым, але і кожны паасобны савгас у пародных адносінах прадстаўляе з сябе сапраўдны „зоопарк". Справа організацыі і ўкомплектаваньня племгасу таксама пакуль што ня зрушылася з месца. Да ўсяго гэтага трэба дадаць і тое, што НКЗ СССР высунуў новы проект пароднага раёнаваньня, па якому замест чырвона-беларускай жывёлы і колёнісцкай белагаловай у якасьці паляпшаючай пароды для БССР запроектавана остфрыстляндзкая парода (усходня-пруска-голяндзкая парода). Гэта выклікае новае непаразуменьне і замінку ў рабоце. Па даным перапісу жывёлы ў 1932 г., пародны склад соцсэктару БССР характарызуецца наступнымі лічбамі:

| Назвы пароды | Дарослыя вытворнікі | | Каровы | | Усяго жывёлы | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Лік гал. | % | Лік гал. | % | Лік гал. | % |
| Халмагорская | 4 | 0,04 | 10 | 0,004 | 22 | 0,03 |
| Яраслаўская | 91 | 0,89 | 876 | 0,37 | 778 | 0,16 |
| Сімэнтальская | 53 | 0,51 | 433 | 0,19 | 891 | 0,19 |
| Швіцкая | 343 | 3,36 | 1710 | 0,73 | 3331 | 0,82 |
| Голяндзкая | 124 | 1,21 | 758 | 0,32 | 1323 | 0,28 |
| Чырвона-нямецкая | 233 | 2,28 | 1720 | 0,74 | 3626 | 0,78 |
| Украінская | 23 | 0,23 | 1262 | 0,11 | 417 | 0,09 |
| Чырвона-беларуская | 365 | 3,58 | 5105 | 2,01 | 11295 | 2,45 |
| Колёнісцкая-белагаловая | 4 | 0,04 | 28 | 0,01 | 47 | 0,01 |
| Іншыя пароды | 128 | 1,22 | 55 | 0,23 | 1515 | 0,32 |
| Мэтысы | 1187 | 11,64 | 17719 | 8,5 | 31972 | 6,94 |
| Усе іншыя | 7642 | 74,85 | 206325 | 87,6 | 404543 | 8,79 |
| Усяго | 10197 | 100% | 235091 | 100% | 460190 | 100% |

Остфрызы высоўваюцца ў якасьці паляпшаючай пароды для БССР па меркаваньням наступнага парадку. Па-першае, остфрызы вядомы, як адна з найбольш культурных і высокапродукцыйных парод, якая дала сьвету шмат міравых рэкордыстак, па-другое, гэта парода даволі плястычная ў адносінах акліматызацыі (яе магчыма сустрэць амаль што ва ўсіх культурных краінах), па-трэцяе, кліматычныя і прыродныя ўмовы Усходняй Прусіі даволі падобны да ўмоў БССР і, урэшце, па-чацьвертае, таму, што магчымасьці завозу гэтай жывёлы значна большыя, чым для другіх парод (у БССР у 1931 годзе было завезена 80 імпортных вытворнікаў остфрыстляндзкай пароды).

З гэтымі меркаваньнямі, зразумела, нельга не згадзіцца. Але і адмаўляцца ад чырвона-беларускай жывёлы мы таксама ня можам. Па-першае, чырвона-беларуская жывёла прадстаўляе з сябе досыць продукцыйную жывёлу. Так, на Усебеларускай с/г. выстаўцы ў 1930 годзе (чырвона-беларуская жывёла на выстаўцы была прадстаўлена ў колькасьці 15,9 проц. ад усёй буйной жывёлы на выстаўцы) продукцыйнасьць чырвона-беларускай жывёлы мела такі выгляд:

| ПАРОДА | Жывая вага | Продукцыйнасьць за 300 дзён: | | Тлушчу за 300 дзён | Увага |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Сярэдні % тлушчу | Удой за 300 дзён | | |
| Галяндзкая парода | 451 | 3,35 | 4279 | 143,3 | |
| Дацкая парода | 492 | 3,75 | 4809 | 180,3 | |
| Чырвона-беларуская | 456 | 4,0 | 3066 | 122,6 | |
| Колёніцкая белагаловая | 395 | 3,9 | 3279 | 127,8 | |
| Ангельская | 405 | 3,8 | 3025 | 114,9 | |
| Чырвона-нямецкая | 447 | 3,3 | 3222 | 106,3 | |
| Швіцкая | 457 | 3,7 | 3420 | 126,5 | |
| Мясцовая палепшаная | 414 | 3,8 | 2944 | 112,0 | |

У Крупецка-Сталбуноўскім контрольным саюзе сярэдні ўдой па чырвона-беларускай жывёле быў у 1928-29 годзе—2.550 літраў, у Кацягскім контрольным саюзе ў 1928-29 годзе—2.232 літраў, у племгасе Калініна ў 1929 годзе—2.229 кг. і ў племгасе Русінавічы—1.979 літраў.

Па-другое, група чырвона-беларускай жывёлы прадстаўляе з сябе самую вялікую пародную групу ў БССР.

Па-трэцяе, найбольш арганізаваныя племгасы ў БССР якраз і маюць чырвона-беларускую жывёлу.

Па-чацьвертае, побач з чырвона-беларускай жывёлай у БССР маецца шмат жывёлы чырвона-нямецкай пароды, ангельскай і вельмі каштоўнае імпортнае стада дацкай жывёлы, якая можа быць з посьпехам скарыстана ў мэтах палепшаньня самой чырвона-беларускай жывёлы.

Усе вышэй пералічаныя меркаваньні, на нашу думку, кажуць за тое, што чырвона-беларускую жывёлу магчыма і патрэбна пакінуць у якасьці паляпшаючай пароды, што-ж датычыцца да колёнісцкай белагаловай жывёлы, то яе патрэбна замяніць остфрызамі. У пародны раён остфрызаў трэба будзе перакінуць усю голяндзкую і яраслаўскую жывёлу.

На працягу 1932 году і ў першым годзе II-й пяцігодкі неабходна будзе закончыць перакідку племянной жывёлы ў вызначаныя для яе пародныя раёны, комплектуючы гэтай жывёлай племгасы.

Лік племгасаў, вызначаны НКЗ БССР (племсавгасаў 20 і племколгасаў 30), на нашу думку, не рэальны, бо гэты лік племгасаў нельга будзе ўкомплектаваць племжывёлай, таму што яе вельмі мала ў БССР. Распыляць-жа пры такой малой колькасьці племжывёлы апошнюю на большую колькасьць гаспадарак, гэта значыла-б ставіць усю работу пад пагрозу поўнага зрыву.

Па даным перапісу жывёлы ў 1932 годзе мы зможам паставіць у племгасы (з гаспадарак соцсэктару і шляхам закупак у індывідуальным сэктары) ня больш чым: швіцаў—2.500 матак, чырвона-беларускай пароды—4.000 матак і остфрызаў (голяндкі і яраслаўкі)—1.500 матак. Гэтыя лічбы кажуць за тое, што мы зможам організаваць у пачатку пяцігодкі ня больш як чатыры племсавгасы і чатыры племколгасы са швіцкай жывёлай, 5 племсавгасаў і 4 племколгасы з чырвона-беларускай жывёлай і, урэшце, два племсавгасы і два племколгасы з остфрызамі (галяндкі і яраслаўкі). Разьмер для племяннога стада—750 галоў (матак) і для племколгасаў—200 галоў. Пад племгаспадаркі трэба падвесьці належную кармовую базу, для чаго мы павінны будзем ужо ў 1932 годзе забясьпечыць іх належнымі зямельнымі плошчамі. Гэта ня зроблена было да апошняга часу і гэта трэба зрабіць на працягу 1932 году. У якім становішчы гэта справа знаходзіцца цяпер відаць з такога факту.

У племгасе Крынкі, дзе маецца лепшая швіцкая жывёла, удоі па гадох хісталіся так:

| Назва каровы | 1929 г. | 1930 г. | 1931 г. |
|---|---|---|---|
| Дунька . . . | 2478. к. | 3583 к. | 1210,7 к. |
| В'юга . . . | 1986 „ | 3387 „ | 1181 „ |
| Эздра . . . | 2533 „ | 3240 „ | 1932 „ |
| Аснова . . . | 3269 „ | 3127 „ | 2466 „ |
| Копра . . . | 3362 „ | 2982 „ | 957 „ |

Памяншэньне ўдояў у 1931 годзе тлумачыцца адсутнасьцю кармоў.

Запроектаваная сетка племгасаў ужо з 1933 году павінна распачаць выпуск вытворнікаў і к канцу 2-й пяцігодкі давядзе выпуск вытворнікаў швіцаў да 3.129 галоў, для чырвона-беларускай

жывёлы да 4.200 галоў і для остфрызаў да 1.516 галоў. Лік племгасаў к канцу пяцігодкі (разгортваючы наяўнае стада) магчыма і трэба будзе пашырыць для швіцаў: да 12 (6 племсавгасаў і 6 племколгасаў), для чырвона-беларускай жывёлы таксама да 12 (6 племсавгасаў і 6 племколгасаў) і для остфрызаў да 7 (3 племсавгасы і 4 племколгасы).

К канцу 1934 году сетка племгасаў дасьць 215 вытворнікаў швіцаў, 373 вытворнікаў чырвона-беларускай пароды і 111 вытворнікаў остфрыза-галяндзкай пароды, якіх пры нагрузцы на вытворніка ў сярэднім да 80 кароў хопіць на 100-проц. асемяненьне ўсяго матачнага матар'ялу савгасаў.

К канцу 1935 году быкі племгасаў пакрываюць поўнасьцю ўсё стада колгасаў і МТФ і, урэшце, у канцы 1936 году племгасы поўнасьцю ахопліваюць і неспэцыялізаваныя колгасныя гаспадаркі.

Апрача вытворнікаў, якія пападуць у племгасы пры комплектаваньні апошніх племжывёлай, значная частка вытворнікаў (швіцы—253 быкі, чырвона-беларускія—1.120, галяндцы—150) застаецца ў звычайных гаспадарках соцсэктару і будуць скарыстаны таксама ў якасьці паляпшаючага матар'ялу.

Пры іх дапамозе і пры ўмове найбольш рацыянальнага іх разьмяшчэньня і найбольш поўнага скарыстаньня мэтодам штучнага асеменяньня к канцу 1936 году магчыма будзе казаць ужо аб тым, што мы зможам замяніць усіх вытворнікаў па БССР на вытворнікаў плянавых паляпшаючых парод.

Але з усёй катэгорычнасьцю мы павінны адзначыць, што так гладка атрымліваецца толькі ў тым выпадку, калі мы ўсю азначаную перапісам жывёлу, як швіцаў, чырвона-беларускіх і г. д. будзем лічыць як чыстапародную жывёлу. На жаль, у нас ёсьць падставы да таго, каб сумнявацца ў гэтым. У большай сваёй частцы ўся гэта жывёла прадстаўляе сабою мэтысаў тэй або іншай колькасьці крыві: швіцкай, галяндзкай і г. д. Будаваць на адным гэтым матар'яле племянную гаспадарку нельга. Трэба організаваць завоз чыстапароднага матар'ялу ў БССР. Як мінімум на працягу 2-й пяцігодкі трэба завезьці швіцаў ня менш як 2.000 галоў (у тым ліку вытворнікаў 50—60 галоў і остфрызаў 1.500 галоў).

Як вядома, вытворнікі падзяляюцца на вытворнікаў-паляпшацеляў і вытворнікаў-пагаршацеляў. Добры вытворнік—палова стада. На працягу 2-й пяцігодкі патрэбна будзе разгарнуць шырокую плянавую работу па выяўленьню вытворнікаў паляпшацеляў. На працягу першых год 2-й пяцігодкі работа гэта будзе тармазіцца адсутнасьцю племзапісаў у жывёлагадоўчых гаспадарках і адсутнасьцю дастатковай колькасьці выяўленых ужо з боку іх продукцыйнасьці кароў, чаму, напрыклад, у 1933 годзе мы зможам паставіць на апробацыю ня больш як 75—100 быкоў (па СССР у 1932 годзе запроектавана выяўленьнем усяго толькі 1.000 вытворнікаў). К канцу 2-й пяцігодкі трэба браць курс на тое, каб ня менш чым у 25 проц. бычкоў, выпускаемых племгасамі, правераліся іх спадчынныя здольнасьці шляхам апробацыі.

Адначасова з гэтым шырока разгортваецца карыстаньне мэтодам штучнага асемяненьня. У першым годзе пяцігодкі будзе працаваць ня больш 100—125 пунктаў штучнага асемяненьня. К канцу пяцігодкі патрэбна ставіць пытаньне ўжо аб тым, каб ня менш 50 проц. кароў усяго пагалоўя асемянялася штучным шляхам. Для гэтай мэты патрабуецца організаваць ня менш як 1800 пунктаў штучнага асемяненьня (па 2 вытворнікі на кожным пункце). Зразумела, што к канцу пяцігодкі ўсе вытворнікі па пунктам штучнага асемяненьня павінны быць заменены на ўжо апрабаваных вытворнікаў. Гэта, зразумела, яшчэ ня значыць, што к гэтаму часу мы зможам забясьпечыць усе пункты штучнага асемяненьня выключна вытворнікамі-паляпшацелямі (яны знаходзяцца не ў такой ужо значнай колькасьці сярод бычачага пагалоўя і прытым чым менш выраўненым зьяўляецца гэта пагалоўе, тым іх менш), але ўсё-ж такі адбярэм для гэтых пунктаў лепшых сярод правераных вытворнікаў.

Наступ на мясцовую жывёлу плянавымі пародамі павінен ісьці шырока разгорнутым фронтам з тым, каб адразу выцясьняць з таго або іншага раёну быкамі паляпшаючых парод вытворнікаў мясцовай пароды. Менш каштоўны мэтысны племматар'ял ідзе ў раёны менш мэтызаваныя з тым, каб падрыхтаваць там глебу для прасоўваньня вытворнікаў чыстапародных. Для кожнай плянавай пароды трэба будзе організаваць па аднаму элітнаму сэлекцыйнаму стаду (швіцы—Горацкая зональная станцыя малочнай гаспадаркі, чырвона-беларуская жывёла—племгас Русінавічы, і для остфрызаў—дзе-небудзь у пародным раёне остфрызаў).

Адначасова гэтыя сэлекцыйныя стады павінны быць і апорнымі пунктамі Горацкай зональнай станцыі малочнай гаспадаркі. У гэтыя стады зьбіраецца лепшая жывёла плянавых парод, выяўленыя рэкордысткі, сямействы і г. д. Тут вырошчваюцца быкі ад кароў рэкордыстак. Быкі гэтыя апробуюцца і ідуць у стады племянных гаспадарак. Такое стада неабходна для разгортваньня работы з паасобнымі лініямі, карыстаючыся мэтодам інбрыдынгу. Карыстацца гэтым мэтодам, які дае пры ўмелай пастаноўцы справы вельмі каштоўная вынікі, але адначасова ў звычайных жывёлагадоўчых гаспадарках пакуль што зьяўляецца некалькі рызыкоўным.

У мэтах выяўленьня плямжывёлы ў 2-й пяцігодцы павінны разгарнуць шырокую і сур'ёзную работу дзяржаўныя племянныя кнігі швіцкай і чырвона-беларускай жывёлы. К канцу 2-й пяцігодкі мэтазгодна будзе адкрыць у БССР філіял ДПК остфрыдсьляндзкай пароды.

Ужо апошні год 1-й пяцігодкі павінен зьявіцца годам сапраўднай, шырокай, навукова абгрунтаванай закладкі сэлекцыйнай работы. Пры гэтым генэтыка павінна ўзброіць сябе новай мэтодолёгіяй, павінна ўзмацніць сваё тэхнічная ўзброеньне. Трэба, як кажуць, зрабіцца савецкім генэтыкам, а не генэтыкам на савецкай тэрыторыі.

Шырока павінны быць ужыты і дасягненьні біолёгічных навук, у прыватнасьці эндокрынолёгіі. Ажыцьцяўляючы лёзунг Маркса,

мы павінны ня толькі тлумачыць сьвет, але і зьмяняць яго, мы павінны навучыцца кіраваць жыцьцём с/г жывёлы так, як мы навучаліся ламаць і мяняць соцыяльна-экономічную структуру грамадзтва, так, як інжынэр будуе новыя машыны і рэконструіруе старыя.

Спынімся яшчэ на адным момаңце. У сучасны момант мы маем пакуль што поўны хаос, стыхійнасьць і бясплянавасьць у справе організацыі ацёлаў. Роўнамерныя на працягу году ацёлы, як вядома, маюць такія станоўчыя бакі:

а) роўнамернае забесьпячэньне на працягу году працоўных малаком і малочнымі продуктамі:

б) роўнамерная загрузка масла—і сырзаводаў сыравінай, што значна зьніжае сабекошт пераапрацоўкі (лепшае скарыстаньне рабсілы, машын і г. д.);

в) робіць больш лёгкай організацыю працы на аборы;

г) меншае запатрабаваньне да скотамесц у радзільным памяшканьні і памяшканьні для цялят;

д) больш роўнамернае, а таму і больш рацыянальнае скарыстаньне вытворнікаў на працягу году і г. д.

На сёнешні дзень пытаньнем рэгуляваньня ацёлаў у нас пакуль што ніхто не займаўся. Як у колгасах, саўгасах, так і ў адзінаасобных гаспадарках ацёлы мелі ярка выразнаны сэзонны характар—зімова-вясеньнія ацёлы. Станцыя прапрацавала гэта пытаньне і знаходзіць, што пераход стад з колгасаў і саўгасаў на роўнамерны ацёл магчыма зрабіць на працягу ня больш як 4-х год.

Што датычыцца да плямянных гаспадарак, то там лепш за ўсё орыентавацца на асеньні ацёл, бо там галоўнай продукцыяй зьяўляецца не малако, а маладняк. Асеньні-ж ацёл утварае больш спрыяючыя ўмовы для вырошчваньня маладняка.

Каб забясьпечыць з пачатку 2-й пяцігодкі плянавае разгортваньне племяннай работы ў БССР ужо ў 1932 годзе неабходна ажыцьцявіць наступныя мерапрыемствы:

а) зрабіць перакідку жывёлы плянавых парод у адведзеныя ім раёны, укомплектаваўшы племгасы племжывёлай;

б) завесьці ва ўсіх колгасах і МТФ вытворчыя і племянныя запісы;

в) правесьці ва ўсіх саўгасах і МТФ бонціроўку стад і выявіць больш дэталёва маючыйся ў нас племфонд жывёлы;

г) упарадачыць работу злучной сеткі, узмацніўшы кіраўніцтва і контроль за правядзеньнем кампаніі;

д) організаваць контрольную справу, утварыўшы куставую племянную інспэкцыю;

е) прыступіць да разгортваньня работы па контрактацыі племяннога маладняка.

Падкрэсьліваючы ўсё вышэйсказанае, мы павінны адзначыць, што падвышэньне продукцыйнасьці жывёлы ў 2-й пяцігодцы пойдзе, галоўным чынам, за кошт паляпшэньня ўмоў кармленьня і ўтрыманьня.

Проф. Сераброўскі на Ўсесаюзнай генэтычнай конфэрэнцыі ў сваім дакладзе аб задачах генэтыкі ў галіне жывёлагадоўлі на 2-ю пяцігодку адзначае, што важнейшым заданьнем для савецкіх генэтыкаў павінна зьявіцца падвышэньне мясной продукцыі за кошт генэтычных фактараў ня менш, як на 12 проц. па буйной рагатай жывёле і па шляху масьлянай і малочнай—дамагацца падвышэньня малочнасьці і тлушчамалочнасьці буйной рагатай жывёлы на 10 проц.

---

П. Кузьмянкоў

# Колгас імя Сталіна

Колгас імя Сталіна знаходзіцца ў Васілевічах, Васілевіцкага с/савету, Рэчыцкага раёну. Эканомічныя і прыродныя ўмовы гэтай мясцовасьці вельмі спрыяюць разьвіцьцю буйной социялістычнай гаспадаркі жывёлагадоўчага і тэхнічнага кірунку, аб чым яскрава сьведчыць шпаркае разьвіцьцё гэтых галін гаспадаркі ў колгасе і параўнаўча нізкі сабекошт продуктаў жывёлагадоўлі, Колгас імя Сталіна, такім чынам, дае яшчэ адзін з шматлікіх прыкладаў перавагі плянавай буйной социялістычнай гаспадаркі перад бясплянавай дробнай аднаасобнай і буйной капіталістычнай гаспадаркай.

Тэрыторыя колгасу знаходзіцца паабапал чыгункі з усходняга боку Васілевіч у $^1/_2$-1-кілёмэтравай адлегласьці ад чыгуначнай станцыі Васілевічы. Такім чынам, ня гледзячы на 45—50-кілёмэтравую адлегласьць колгасу ад раённага цэнтру—гораду Рэчыцы—ён добра зьвязаны як з Рэчыцай, так і з больш буйным прамысловым цэнтрам—Гомелем. З раённымі ўстановамі, асабліва з Рэчыцкім райколгассаюзам, у склад якога ўваходзіць колгас імя Сталіна. сувязь падтрымліваецца ня толькі праз пошту, ачабістыя паезокі колгасьнікаў, наведваньне прадстаўнікоў райколгассаюзу, а і праз тэлефон, якім забясьпечана канцылярыя колаасу імя Сталіна. Добрая сувязь, якая дазваляе сваечасова атрымліваць розныя дырэктыўныя ўказаньні вышэйстаячых органаў, зьяўляецца таксама неабходнай і абавязковай умовай нормальнага разьвіцьця колгасу. Такім чынам, і з гэтага боку колгас імя Сталіна знаходзіцца ў вельмі спрыяючых умовах.

Што датычыцца прыродных умоў, то аб іх магчыма сказаць наступнае. Клімат гэтай часткі Беларусі досыць мяккі, лета досыць доўўае, што дазваляе культываваць расьліны са значным пэрыодам вэгетацыі, значная колькасьць адпадкаў, роўная амаль бяз схілаў, тэрыторыя як самаго колгасу, так і наогул Васілевіцкага с/савету спрыяюць атрыманьню і накапленьню вады і ўтварэньню прыродных луґавых узгодзьдзяў. І сапраўды, як на тэрыторыі ўсяго с/савету, так і на тэрыторыі самога колгасу значная частка плошчы занята пад паказанымі ўзгодзьдзямі, Тэрыторыя колгасу складаецца з 700 га ворнай зямлі, 420 га лугу і 60 га балота. Само сабою зразумела, што вялікія плошчы прыродных лугоў і магчымасьць пры даных умовах культываваць кармовыя травы спрыяюць разьвіцьцю ў першую чаргу буйной рагатай жывёлы. Мяккі клімат і значныя плошчы кармовых траў

спрыяюць разьвіцьцю ільнаводзтва (лепшае месца для ільну—канюшынішча). Такім чынам, як эканомічныя, так і прыродныя ўмовы цалкам адпавядаюць абранаму колгасам кірунку—жывёлагадоўлі і тэхнічных культур. Гэтым-жа тлумачыцца і тое, што параўнача малады колгас імя Сталіна за кароткі тэрмін свайго існаваньня заняў адно з першых месц па Рэчыцкаму раёну.

Колгас імя Сталіна організаваўся ў пачатку 1929 году—датай афармленьня яго лічыцца 29/II-1929 г. Організаваны ён на надзельных і купленых землях. Бедната, якой асабліва цяжка было весьці сваю стратную дробную гаспадарку, яшчэ да 1929 году падумвала аб неабходнасьці організацыі колгасу, але афіцыйна гэтае пытаньне паўстала ў канцы 1928 году, калі прадстаўнікі ад раёну (рабземлесу і працасьветы) на спэцыяльна скліканым сходзе зрабілі даклады аб перавагах буйной колектыўнай гаспадаркі перад дробнай аднаасобнай, аб мерапрыемствах партыі і савецкай улады ў галіне колектывізацыі, аб неабходнасьці організацыі колгасу ў Васілевічах і г. д. Пасьля гэтага пачаліся частыя сходы як з удзелам прыежджых прадстаўнікоў раёну, так і бяз іх, на якіх кожны раз ставілася пытаньне аб організацыі колгасу. Сходы былі вельмі бурныя. З аднаго боку, пачаў організоўвацца бядняцка-серадняцкі актыў—ядро сучаснага колгасу, а з другога—кулацкая частка, якая ведала, што організацыя колгасу ня толькі пазбавіць яе батрацкіх рук, але закране і карэнныя яе інтарэсы. На чале бядняцка-серадняцкага актыву стаяў сакратар мясцовай парт'ячэйкі т. Сьмялоў, які і быў першым старшынёй колгасу. Ня гледзячы на ўсе перашкоды, якія ставіла колгасу варожа-кулацкая частка на шляху яго організацыі, бядняцка-серадняцкі актыў на чале з т. Сьмяловым організаваў і ўмацаваў колгас і да гэтага часу ідзе па шляху перамог у яго організацыйна-гаспадарчым умацаваньні.

Кулацтва ў першыя часы організацыі колгасу настолькі абнаглела, што адкрыта агітавала супроць колектывізацыі. Так, напрыклад, кулак Лаўшук Марка, спаткаўшы на дарозе колгасьніка Мучнікова, аблаяў яго пахабнымі словамі і пусьціў па адрасу колгасьнікаў рад пагроз. Колгасьнікі вечарамі баяліся нават хадзіць па вуліцы. Як ноччу, так і адкрыта ўдзень кулацтва травіла сваёю жывёлаю колгасныя пасевы і сенажаці. Аднак, большая частка кулацтва дзейнічала скрыта, падбухтораваючы выступаць супроць колгасу маласьвядомых беднякоў.

Ня гледзячы на ўсе труднасьці і перашкоды колгас быў організаваны і да веснавой сяўбы налічваў ужо звыш 50, аб'яднаных па статуту с.-г. арцелі, гаспадарак, сярод якіх каля 29 членаў—батракоў. На працягу вясны адбыўся вялікі прыліў у колгас. Зараз у колгасе налічваецца каля 60—70 гаспадарак. Пашыраная ў часе прыліву пасеўная плошча ня толькі ўтрымана колгасам, але паступова расьце і далей. Паданая ніжэй таблічка паказвае гаспадарчыя зрухі колгасу за тры гады яго існаваньня. (Гл. стар. 62).

Асабліва вялікія зьмены за гэтыя гады адбыліся ў машынізацыі колгасу і ў пабудове новых будынкаў. Машын па апрацоўцы глебы і па ўборцы ўраджаю хапае, а плугамі колгас дапамагае і аднаасобнікам. У 1930 г. аднаконных і параконных

| | 1930 г. | 1931 г. | 1932 г. |
|---|---|---|---|
| Ворнай зямлі | 730 га | 700 га | 800 га |
| Гароду | 20 „ | 20 „ | 20 „ |
| Саду | — | 25 „ | 25 „ |
| Лугу | 300 „ | 350 „ | 420 „ |
| Няўдобнай | 60 „ | 60 „ | 660 „ |
| Жыта | 15 „ | 120 „ | 250 „ |
| Пшаніцы | 1 „ | — | — |
| Аўсу | 137 „ | 40 „ | 125 „ |
| Ячменю | 102 „ | 40 „ | 60 „ |
| Грэчкі | 90 „ | 6 „ | 30 „ |
| Проса | 2 „ | — | 21 „ |
| Бульбы | 19 „ | 50 „ | 100 „ |
| Лёну | 11 „ | 20 „ | 35 „ |
| Канапель | 1,5 „ | 11 „ | 35 „ |
| Кораньплодаў | 5 „ | 10 „ | 12 „ |
| Канюшыны | 20 „ | 60 „ | 80 „ |
| Вікі | 19 „ | 25 „ | 50 „ |
| Іншых культур (махорка, сілосныя і г. д.) | 10 „ | 24 „ | 24 „ |

плугоў было 24; цяпер-жа двухлямешных—150. Барон было—18 простых драўляных з жалезнымі зубамі; цяпер маюцца і дыскавых і спружыноўкі, усяго такіх барон звыш 100. Калёс было 30, цяпер—199. Саней было 28, цяпер—100 і г. д. С.-г. машын раней ня было зусім, а цяпер ёсьць куп‘ярэзы, 11 абсыпнікаў, 2 складаных малатарні, 2 трыеры, канюшынная церніца, корнярэзка, 2 запарнікі, макухадрабілка, саламарэзка, сілосарэзка, „плянэтаў“ конных—2, ручных—2; сявалак: канюшынная—1, радковых—8, граблі конныя, апырсквальнік, малочны інвэнтар і г. д. Побач з хуткімі тэмпамі машынізацыі гаспадаркі разгортваецца і будаўніцтва ў колгасе. У першыя гады існаваньня колгасу колгасная жывёла знаходзілася ў дробных будынках, непрыстасаваных да вядзеньня буйной гаспадаркі і не адпавядаючых культурнаму ўтрыманьню жывёлы. Да гэтага часу ўжо закончаны 4 буйных будынкі, у бягучым годзе на будаўніцтва адпушчана 30.000 рублёў. Будуецца вялікі жывёльны двор на падставе апошніх дасягненьняў агрономічнай навукі.

Хутка растуць іншыя галіны гаспадаркі. Цягавая сіла, напрыклад, вырасла за апошнія гады: рабочыя коні з 78 да 125, маладняк з 12 да 30 штук. Павялічылася колькасьць іншай жывёлы і падвысілася продукцыйнасьць асобных галін гаспадаркі.

Для больш поўнай характарыстыкі росту гаспадаркі неабходна яшчэ адзначыць організацыю розных прадпрыемстваў па тэхнічнай перапрацоўцы продукцыі колгасу, рамонту інвэнтару і г. д. У колгасе маюцца наступныя тэхнічныя прадпрыемствы: два паравыя млыны, цыркулярка, крупадзёрка конная, алейня, ваўначоска, абутковая майстэрня, кузьня, сталярная майстэрня, завод па перапрацоўцы малака.

Інвэнтар і машыны рамантуюцца ў сваёй кузьні, досыць добра для гэтага прыстасаванай і абсталяванай. Апрача колгасу, кузьня рамантуе інвэнтар і аднаасобнікаў. Тут-жа пры кузьні маецца майстэрня, дзе праводзіцца рамонт драўляных частак с.-г. машын і дробнага інвэнтару. Тут-жа знаходзіцца і прымітыўны самадзельны такарны станок, на якім выточваюцца ступіцы для каткоў. (гл. мал).

Ня толькі колькасныя паказчыкі сьведчаць аб росьце колгасу за гады яго існаваньня, аб гэтым гавораць і паказчыкі якасныя: павялічылася ўдойнасьць кароў і колькасьць малочнай



Самадзельны такарны станок.

продукцыі. Палепшылася організацыя працы і разьмеркаваньне прыбыткаў. З першых часоў існаваньня колгасу і да гэтага моманту організацыя і ўлік працы, а таксама і разьмеркаваньне прыбыткаў з кожным годам паляпшаюцца. Першыя гады брыгад зусім ня было. Працадні залічваліся па колькасьці патрачанага колгасьнікам часу, ня ўлічваючы колькасьці і якасьці самой працы. Дзякуючы гэтаму стваралася магчымасьць для ўсякага роду непаразуменьняў пры разьмеркаваньні ўраджаю. Зараз організаваны брыгады, за якімі замацаваны тыя або іншыя галіны гаспадаркі, тыя або іншыя ўчасткі палёў на пэўны час. Брыгадзіры брыгад ўлічваюць ужо на толькі колькасьць часу, патрачанага колгасьнікам на тую або іншую работу, але і колькасьць і якасьць самое работы. Гэта зрабіла значны штуршок у справе падняцьця продукцыйнасьці працы. Аднак, колгас на гэтым ня спыніўся, а ўжыў цэлы рад іншых мерапрыемстваў, выцякаючых

з шасьці гістарычных умоў т. Сталіна. У колгасе пашыраецца ўдарніцтва, соцспаборніцтва, прэм'яваньне лепшых ударнікаў і г. д. Лепшымі ўдарнікамі ў колгасе лічацца: Маслак Т., Брэль П., Маніжонак Яўг., Брэль Каця, Шульга Матрона, Шульга Ксеня і іншыя. Асабліва трэба адзначыць ударніцу, старую колгасьніцу, брыгадзіршу жаночай прапалочнай брыгады, Шульгу Палагею, якая з сваёй брыгадай перавыконвае нормы праполкі ільну.

На час веснавой сяўбы, прапалачнай і ўборачнай кампаніі ня толькі організавана і функцыянуе колгасная сталоўка, але і наладжаны акуратны падвоз у тэрмосах гарачых абедаў на поле,



Абед на полі.

на месцы работ. Дзякуючы ўсім гэтым мерапрыемствам, колгас, ня гледзячы на тое, што пасеўная плошча гэтага году значна павялічылася ў параўнаньні з мінулым годам, веснавую сяўбу скончыў амаль у вызначаныя тэрміны. Ударніцтва разгорнута ня толькі ў паляводстве, а і ў іншых галінах гаспадаркі. Вось, напрыклад, даільшчыца Сохар Марыля расказвае: „У нас восем даільшчыц абслугоўваюць звыш 140 кароў, што ў паўтара разы перавышае вызначаныя нормы. Кожная з нас выдойвае па 18 кароў замест 12 па норме“. Працадзень даільшчыцы вызначаецца ня толькі колькасьцю абслугоўваемых кароў, а і колькасьцю надоенага малака ў адзін працадзень.

Організацыя пры колгасе дзіцячых ясьляў і пляцоўкі, апрача таго, што ставіць дзяцей у лепшыя, правільныя ўмовы выхаваньня, дае яшчэ магчымасьць лепш вырашыць пытаньне выкарыстаньня жаночай рабочай сілы ў колгасе ў летні час, што для

колгасу імя Сталіна мае асаблівае значэньне з прычыны значнага пашырэньня пасеўнай плошчы. Організацыя дзіцячых ясьляў у колгасе імя Сталіна вызваліла некалькі дзесяткаў жанчын для ўдзелу ў буйной соцыялістычнай с.-г. вытворчасьці. Ясьлі ў колгасе організоўваюцца на летні пэрыод ужо трэці год. У першым годзе было ахоплена імі 26 дзяцей, у другім—33 і ў гэтым годзе—42. Адпаведна павялічылася і колькасьць абслугоўваючага пэрсоналу: у першым годзе было 2 нянькі, кухарка, у другім—3 і ў гэтым годзе 4 нянькі і кухарка. Пры ясьлях маецца і дзіцячая пляцоўка на 20 дзяцей. Больш поўнаму ахопу дзяцей ясьлямі перашкаджае адсутнасьць належных памяшканьняў і недахоп абста-



Дзіцячыя ясьлі.

ляваньня. Нават і на ахопленых ясьлямі дзяцей не хапае сяньнікоў і халацікаў. Харчаваньнем дзеці забясьпечаны добра—бываюць часамі перабоі ў дастаўцы цукру і пшанічнай мукі.

З іншых відаў культурна-бытавога абслугоўваньня колгасьнікаў неабходна адзначыць наступнае: пры колгасе выпускаецца насьценная газэта, у якой адбіваюцца як недахопы, так і дасягненьні ў тых ці іншых галінах гаспадаркі, у працы брыгад, асобных колгасьнікаў і г. д. Кіно абслугоўвае адпачынак колгасьнікаў. Мэдсанітарнае абслугоўваньне наладжана праз мясцовы мэдпункт і больніцу. Пры колгасе-ж організавана колгасная цырульня. У выніку трэба сказаць, што культурна-бытавое абслугоўваньне колгасьнікаў у колгасе імя Сталіна стаіць на здавальняючай вышыні.

Што датычыцца выкананьня колгасам сваіх абавязкаў перад дзяржаваю, то трэба сказаць, што і ў гэтых адносінах колгас

сябе цалкам апраўдаў. Контрактацыя, напрыклад, выканана цалкам, за выключэньнем насеньня ільну, але за тое па ільнавалакну маецца перавыканьне на 120 проц. У адносінах да выкананьня вытворчых плянаў колгас таксама з ускладзенымі на яго абавязкамі спраўляецца. Плян засеву ў гэтым годзе, за выключэньнем бульбы, цалкам выкананы.

У заключэньне неабходна яшчэ сказаць, што колгас імя Сталіна зьяўляецца ня толькі добра організаванай, прыкладнай буйной колектыўнай гаспадаркай, але ён яшчэ дапамагае і ў падрыхтоўцы кадраў. З боку колгасу імя Сталіна былі вельмі добрыя адносіны да студэнтаў Рэчыцкага Белпэдтэхнікуму, якія адбывалі сельска-гаспадарчы вытворчы практыкум. Мэты і задачы практыкуму найлепш был і ўсьвядомлены праўленьнем і колгасьнікамі. У той час, калі іншыя колгасы скарыстоўвалі студэнтаў выключна як фізычную сілу, ня прытрымліваючыся навучальных програм тэхнікуму—колгас імя Сталіна змог поўнасьцю скарыстаць студэнтаў, ня выходзячы значна за рамкі гэтых програм. У выніку студэнты набылі ў колгасе грунтоўныя практычныя веды, а колгас, прапусьціўшы дзьве групы-брыгады па 30 чалавек на працягу 40 дзён, атрымаў значную дапамогу як у фізычнай, так асабліва і ў грамадзка-карыснай рабоце.

---





Т. Кулакоў

# У колгасе Новае жыцьцё (Тураўскі раён)

*(Кароткі нарыс)*

## Як арганізаваўся колгас

Колгас Новае жыцьцё знаходзіцца ў м. Тураве—раённым цэнтры Тураўскага раёну. Арганізаваны калгас на надзеленых сялянскіх землях у восень 1929 году. Ініцыятарамі арганізацыі колгасу былі: Базылевіч Трахім, бядняк-партызан грамадзянскай вайны, Рабірох Арцём, бядняк-партызан, Рак Янка, бядняк, Радзівонаў Тарас, серадняк і Ласко Ян, бядняк-служачы. Яшчэ з вясны 1929 г. група гэтых таварышоў пачала падрыхтоўчую работу да арганізацыі раздробненых бядняцка-серадняцкіх гаспадарак м. Турава ў буйную соцыялістычную колектыўную гаспадарку. Падрыхтоўчая работа заключалася ў растлумачэньні сярод беднаты і серадняцтва пастаноў XVII партконфэрэнцыі па пытаньню колектывізацыі сельскае гаспадаркі, у аб'яднаньні актыву з беднаты і лепшых сераднякоў і ў падачы заяў у раённыя ўстановы аб аказаньні дапамогі ў справе арганізацыі колгасу. Раённая партыйная арганізацыя Тураўшчыны, райвыканком і сельсавет падтрымалі ініцыятараў і аказалі ім належную дапамогу. У жніўні месяцы 1929 году на агульным сходзе сялян м. Турава ва ўсю шырыню было пастаўлена пытаньне аб арганізацыі колгасу. На гэтым-жа сходзе запісалася жадаючых увайсьці ў колгас 47 пераважна бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і 3 настаўнікі. Тут-жа, на сходзе, прынялі статут і далі назву колгасу „Новае жыцьцё," абралі праўленьне, рэвізійную камісію і прыступілі да абагульненьня цягавай сілы, інвэнтару, азімага насеньня і інш.

Мясцовае кулацтва і заможнікі са зьвярынай нянавісьцю сустрэлі арганізацыю колгасу і ўсімі мерамі і сродкамі імкнуліся перашкодзіць колгасьнікам прыступіць да работы. Некалькі раз рабілі спробы зрываць сходы колгасьнікаў, насьмяхаліся над організатарамі колгасу, абзываючы іх „лодырамі", „рабаўнікамі", якія „хочуць аўладаць чужым дабром". Кулакі і падкулачнікі распускалі розныя хлусьлівыя чуткі і плёткі, накіраваныя на развал колгаснага будаўніцтва. Яны страшылі вайной, паншчынай, канчынай сьвету, прыходам антыхрыста і разам з тым сталі занадта набожнымі. Поп — хаўрусьнік кулака — узмацніў сваю работу і пачаў служыць абедні і малебны амаль кожны дзень, але ўсё гэта не рабіла аніякага ўплыву на ініцыятараў організа-

ванага колгасу. Яны давалі рашучы адпор кулацкай агітацыі і ўпарта будавалі новую гаспадарку-колгас, працягваючы работу па вярбоўцы новых колгасьнікаў і аб'яднаньню колгаснага актыву. Колгас пачаў расьці. Далейшая яго гісторыя наступная: у кастрычніку 1929 году ў колгасе было 47 гаспадарак, у сакавіку 1930 г. у пачатку першай бальшавіцкай вясны—94 гаспадаркі, на 1 студзеня 1931 г. 127 гаспадарак і на 1 студзеня 1932 г.—180 гаспадарак. У такім складзе колгас пачаў падрыхтоўчую работу да 3 бальшавіцкай вясны, на чым мы спынімся больш падрабязна крыху ніжэй.

## Склад колгасу і яго маемасьць

Па нацыянальнасьці гаспадаркі ў колгасе падзяляюцца: беларускіх сем'яў 170 і яўрэйскіх 10. Па соцыяльнаму становішчу: бядняцкіх гаспадарак 47, серадняцкіх 54, саматужніцкіх 10 і служачых 69. Усяго насельніцтва ў колгасе 823 чал., з якіх мужчын 373 і жанчын 450; працаздольных мужчын 231 і жанчын 280. У адыходніцтве з колгасу на 1 студзеня 1932 году было 140 ч.— гэта рабочыя на прадпрыемствах і служачыя ў савецкіх і грамадзкіх установах. Партыйная праслойка ў колгасе—членаў і кандыдатаў КП(б)Б 7 і членаў ЛКСМ 28 чалавек.

Землеўпарадкаваньне колгасу праведзена ў 1931 годзе. Уся зямельная плошча колгасу займае 869 *га*, якая па ўгодзьдзям разьмяркоўваецца так: ворнае зямлі 414 *га*, сенажаці—395 *га*, выгану і інш. 60 *га*. Глеба пераважна суглінiстая. Сельска-гаспадарчы інвэнтар, машыны і прылады колгас мае наступныя: плугоў аднaлямешных 76, барон зіг-заг 16, барон жалезных 75, абсыпнікаў 16, сеялак радавых 2, сеялак для спэцкультур 5, жніврак (самаскідак) 2, сенакасілак 2, конных грабляў 2, малатарань з конным прыводам 1, трыер 1, сартыровак 1, веялак 2, ільномялак 1, саломарэзак і каранярэзак 16, калёс на жалезным хаду 109 і саней 100. Цягавая сіла складаецца з 120 рабочых коняй. Абагуленыя будынкі ў колгасе: 3 канюшні на 130 галоў, кароўнік і цялятнік, 2 спэцыяльна пабудаваныя сьвінарнікі на 400 галоў, сілосная вежа на 120 тон, 2 зернахранілішчы на 256 цэнтнэраў, і ільносушылка 1.

Складанымі сельска-гаспадарчымі машынамі, як трактарамі і комбайнам, колгас абслугоўваецца Тураўскай МТС.

## З бальшавіцкая вясна ў колгасе

Падрыхтоўчая работа да правядзеньня 3 бальшавіцкай вясны распачата яшчэ ў пачатку студзеня г.г. Гэтая работа заключалася перш за ўсё ў складаньні адпаведных плянаў, засыпцы насенных і страхавых фондаў, у падрыхтоўцы сельска-гаспадарчага інвэнтару—рамонту машын і прылад, броняваньні кармоў для рабочай жывёлы, ачысткі насеньня, організацыі спэцыяльных брыгад у колгасах. Усе гэтыя мерапрыемствы спачатку абгаварваліся і падрыхтоўваліся праўленьнем колгасу сумесна з актывам, а потым выносіліся на абгаварэньне агульных сходаў колгасьнікаў,

з шырокім прыцягненьнем сялян-аднаасобнікаў. Адначасова з гэтым праводзілася адпаведная растлумачальная работа сярод колгасьніцкай масы па давядзеньню да яе дырэктыў партыі і ўраду,



Сілосная вежа і сьвінарнік у колгасе Новае жыцьцё

накіраваных на організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгаснага будаўніцтва.

Фактычнае выкананьне засеву паасобных культур у параўнаньні з плянавымі меркаваньнямі колгасу характарызуецца наступным:

| Назва культур | Меркавалася засеяць па пляну | Фактычна засеяна | Перавыкананьне пляну | Недавыкананьне пляну |
|---|---|---|---|---|
| Авёс | 45 га | 52,9 га | 7,9 га | — |
| Ячмень | 22 „ | 52,6 „ | 30,6 „ | — |
| Проса | 10 „ | 14,9 „ | 14,9 „ | — |
| Гарох | 7 „ | 7,7 „ | 0,7 „ | — |
| Бульба | 100 „ | 42 „ | — | 58 га |
| Кораньплоды | 8 „ | 10,5 „ | 2,5 „ | — |
| Каноплі | 29 „ | 23 „ | — | 6 „ |
| Лён | 14 „ | 23 „ | 9 „ | — |
| Канюшына падсеўн. | 20 „ | 20 „ | — | — |
| Віка | 13 „ | 35 „ | 22 „ | — |
| Сілосныя культуры | 6 „ | 8,4 „ | 2,4 „ | — |
| Гародніна | 9 „ | 10 „ | 1 „ | — |

Такім чынам, як відаць з прыведзеных даных, па раду культур ёсьць перавыкананьне пляну засеву, але разам з гэтым ёсьць і недавыкананьне засеву бульбы і канапель. Гэта тлумачыцца недахопам насеньня паказаных культур. Плошча, не занятая гэтымі культурамі, засеяна іншымі і, такім чынам, плян засеву у асноўным выкананы з перавышэньнем. Пад засевам азімых у колгасе занята 148 *га* і апрача таго маецца засеў канюшыны 25 *га*.

На выкананьне пляну 3 бальшавіцкай вясны колгас мобілізаваў усе свае наяўныя сілы і ўнутраныя рэсурсы.

Уся рабочая сіла колгасу была разьбіта на сталыя брыгады, якім вызначаны былі пэўныя заданьні на ўвесь гаспадарчы год, выходзячы з агульнага вытворчага пляну. Паляводчых брыгад організавана 3: брыгада № 1 на чале з брыгадзірам Амельчынам у складзе 14 мужчын і 32 жанчын, брыгада № 2—на чале з брыгадзірам Страхам у складзе 14 мужчын і 42 жанчын, брыгада № 3 на чале з брыгадзірам Акулічам у складзе 20 мужчын і 40 жанчын. Для забесьпячэньня выкананьня пляну па будаўніцтву вылучана сцэцыяльная брыгада ў складзе 10 чалавек на чале з брыгадзірам Сядзельнікам Пятром. Для догляду за коньмі вылучана 3 чалавекі, на сьвіной фэрме стала працуе 1 загадчык і 6 даглядчыкаў, на скотным двары—3 чалавекі. У майстэрнях колгасу занята стала 6 чалавек, з якіх у кузьні 2, у стэльмашні 2 і бондар 1. Апрача ўсяго гэтага ў колгасе ёсьць спэцыяльна вылучаная брыгада рыбаловаў у складзе 9 асоб.

Кожная з пералічаных брыгад атрымала пэўнае вытворчае заданьне на ўвесь год і патрэбную колькасьць цягавай сілы, машын, прылад і інструмантаў. Усё гэта перадана асобным брыгадам па опісу, пад расьпіску старэйшага брыгадзіра. У брыгадзе цягавая сіла, машыны і прылады прымацаваны да паасобных колгасьнікаў пад іх адказнасьць для выкананьня работ. Гэта ў значнай меры садзейнічае ліквідацыі абязьлічкі і накладае адказнасьць на брыгаду ў цэлым і на паасобных колгасьнікаў за захаваньне даручанае ім маемасьці. У процэсе работы ўжо заўважана, як паасобныя колгасьнікі старанна даглядаюць прымацаваных да іх коняй: наглядаюць, каб яны былі накормлены, чысьцяць іх, у часе работы даюць адпачынак, ня б'юць іх, глядзяць, каб была падагнана збруя. Ужо не заўважаецца таго, што было ў мінулыя гады, калі кожны дзень пры выхадзе на работу можна было чуць крыкі, лаянкі пры разборы коняй, вазоў, плугоў і збруі, бо кожны тады імкнуўся ўзяць лепшае. Зараз кожны бярэ тое, што яму вызначана і пасьля работы здае яго ў вызначанае месца.

Уся работа ў колгасе пераведзена на зьдзельшчыну. Па ўсім відам зараней распрацаваны нормы выпрацоўкі, выходзячы з прыкладных норм Колгасцэнтру і сярэдніх норм выработкі лепшых колгасьнікаў-ударнікаў ў папярэднія гады. Выработка норм праводзілася праўленьнем колгасу пры ўдзеле актыву і потым шырока абгаварвалася на агульных сходах колгасьнікаў. Брыгада, атрымаўшы вытворчае заданьне на ўвесь год, разам з гэтым атрымлівала і нормы выработкі па асобных відах работы. Вытворчае

заданьне прапрацоўвалася на брыгадных нарадах, на якіх і адбывалася расстаноўка сіл для выкананьня пэўных відаў работы ўнутры брыгады. Тут-жа на нарадзе высьвятлялася пытаньне якасьці работы, аплаты ў працаднёх, парадак вучоту работы і іншае.

Правёўшы папярэдне такую работу, колгас практычна прыступіў да севу 25 красавіка—значна пазьней тэрміну, вызначанага НКЗ і Колгасцэнтрам БССР для паўднёвых раёнаў БССР, бо зацягнуўшаяся веснавая паводка раней гэтага рабіць не дазволіла. Да севу колгас прыступіў з энтузыязмам. Літаральна ўсё было пастаўлена, як гаворыцца, на ногі. Брыгады ў сваёй рабоце разгарнулі соцспаборніцтва і ўдарніцтва на сваечасовае і лепшае выкананьне сваіх плянаў.

Сяўба ў колгасе скончана ў першых чыслах чэрвеня. Па сканчэньні сяўбы брыгады разгарнулі работу па праполцы лёну, проса, гародных культур і абсыпаньню бульбы. Гэтай работай пераважна былі заняты жанчыны. Мужчыны былі перакінуты на сенаўборку. Уся плошча сенажаці і кармовых траў была разьмеркавана паміж трыма паляводнымі брыгадамі, выходзячы з наяўнасьці ў тэй або іншай брыгадзе рабочае сілы. Уборка сена пачалася 20 чэрвеня. Частка лугу скошана сенакасілкай пры скарыстаньні ў якасьці цягавай сілы трактара. Работа па ўборцы сена праводзілася ўдарнымі тэмпамі. Уся плошча ў 370 *га* была ўбрана да 10 жніўня.

Да ўборкі ўраджаю яравых і азімых культур колгас прыступіў 10 чэрвеня. Кожная брыгада праводзіла ўборку на вызначаных ёй участках. Для забесьпячэньня сваечасовага выкананьня пляну ўборкі даводзілася часамі папаўняць на некаторы час брыгады рабочай сілай за кошт будаўнічай і рыбалоўнай брыгад.

У рабоце па ўборцы ўраджаю прымалі ўдзел старыя мужчыны і жанчыны і дзеці, якія скарыстоўваліся ў якасьці нянек малых дзяцей, і выконвалі другія больш лёгкія работы.

Уборка ўраджаю яравых і азімых культур скончана ў асноўным да 15 жніўня.

Усё збожжа было зьвезена на гумны і складзена ў скірды ў сухім выглядзе. Частка жыта, ячменю, пшаніцы і проса была абмалочана для выдачы адпаведных авансаў колгасьнікам. Выдача авансаў праводзілася выходзячы з колькасьці выпрацаваных дзён—тым або іншым колгасьнікам, што ў значнай меры спрыяла палепшаньню організацыі работы ў колгасе, у сэнсе сваечасовага выхаду на работу, зьнішчэньня прагулаў, падвышэньня продукцыйнасьці работы і яе якасьці.

Вучот работы ў колгасе пастаўлены добра. Так, у брыгадах штодзённа брыгадзір складае сьпісы колгасьнікаў пры вызначэньні іх на работы і ўвечары правярае выкананьне работы з колькаснага і якаснага боку, выходзячы з прынятых норм выпрацоўкі і робіць адпаведныя запісы ў сьпіску. Потым праз кожную пяцідзёнку брыгадзір падагульвае праробленую работу ўсей брыгадай і кожным колгасьнікам асобна і падагуленую ведамасьць здае ў кантору. Згодна гэтых ведамасьцяў учоту работы кантора заносіць колькасьць выпрацаваных дзён паасобнымі кол-

гасьнікамі ў іх разьліковыя кніжкі і робіць адпаведныя запісы ў асабовых рахунках колгасьнікаў.

Разьліковыя кніжкі знаходзяцца на руках у кожнага колгасьніка і колгасьніцы.

Пастаноўка ўчоту наогул у колгасе здавальняючая. Гэтую работу выконваюць рахункавод і канторшчык з складу колгасьнікаў, вызваленых ад фізычнае работы.

## Жывёлагадоўля

Колгас мае пэўнае заданьне спэцыялізавацца ў кірунку разьвіцьця сьвінагадоўлі. Агульная колькасьць жывёлы зараз у колгасе наступная:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Коняй рабочых | 120 | Быкоў вытворцаў | 1 |
| „ маладняку | 13 | Сьвінаматак | 74 |
| Кароў | 13 | Хракаў | 3 |
| Нецяляў | 29 | Подсьвінкаў | 30 |
| Цялят | 10 | Парасят | 37 |

Прыведзеная лічба жывёлы далёка недастаткова, асабліва сьвіней, калі прыняць пад увагу, што колгас павінен спэцыялізавацца ў кірунку разьвіцьця сьвінагадоўлі. Трэба сказаць, што організацыя сьвіной фэрмы ў колгасе патрабуе надзвычайна вялікай увагі, бо тая колькасьць сьвіней, якая маецца зараз, у агульнай колькасьці 144 галоў далёка да выкананьня пляну комплектаваньня сьвінога статку, прадугледжанага на бягучы год. Да канца году паводле пляну агульны статак сьвіней павінен быць у 255 галоў, а г. зн. трэба павялічыць яго яшчэ на 111 галоў. Павялічэньне сьвінога статку мяркуецца за рахунак вырашчваньня маладняку. Работа ў гэтай частцы праводзіцца досыць энэргічна і адпаведныя ўмовы для гэтага ў колгасе ўжо створаны. Маюцца 74 добрыя сьвінаматкі, пабудаваны спэцыяльны сьвінарнік, організаваны догляд за сьвінямі і ўзяты напрамак на стварэньне патрэбнага кармовага фонду.

Работа па доглядзе над сьвінямі пераведзена на зьдзельшчыну, праўда, тут ёсьць яшчэ шмат недакладнясьцяў, няма кваліфікаваных работнікаў, але ў процэсе работы колгас здолее выпраўляць на ходу недахопы і забясьпечыць належную пастаноўку работы ў гэтай галіне.

Коні, як ужо адзначалася вышэй, складаюць цягавую сілу ў колгасе. Пераважна яны мясцовай пароды. Утрыманьне і догляд за коньмі пастаўлены здавальняюча: пабудавана стайня, дзе маюцца асобныя станкі, ясьлі і жалабы для кожнага каня. Выдача харчоў коням праводзіцца па норме і па строга вызначанаму раскладу. На корм скарыстоўваецца сена, канюшына, колас, а ў часе работы даецца авёс. Вясною і летам, у вольны ад работы час, коні пасуцца амаль цэлыя суткі.

Агульны статак рагатай жывёлы ў колгасе налічвае 52 галавы. Колгас бярэ напрамак на павялічэньне яго да 150 галоў у гэтым годзе. Работа ў гэтай частцы распачата, але пакуль што ідзе маруднымі тэмпамі. Спрыяючыя-ж умовы для пашырэньня

статку буйной рагатай жывёлы ў колгасе ёсьць—гэта наяўнасьць добрых натуральных лугавых угодзьдзяў, выпасаў, пашырэньне засеву кармовых траў і разгортваньне сілосаваньня, якое, да рэчы сказаць, колгасам пастаўлена на належную вышыню. Ужо на 10 ліпіўня ў колгасе засілосавана рознай зялёнай масы да 45 тон.

## Культурна-масавая работа

Сярод колгасьнікаў у асноўным скончана ліквідацыя няпісьменнасьці. Дзеці колгасьнікаў навучаюцца ў Тураўскай ШКМ, а моладзь у вячэрняй школе. У колгасе ёсьць клюб, чырвоны куток і невялічкая бібліотэка. У клюбе праводзяцца агульныя сходы, нарады, чытка газэт і гутаркі. З газэт колгасьнікі выпісваюць пераважна „Чырвоную Тураўшчыну“, „Колгасьнік Беларусі“, „Савецкую Беларусь“, „Зьвязду“ і „Чырвоную Зьмену“.

Наведваньне сходаў з боку колгасьнікаў і колгасьніц досыць акуратнае, яны бяруць актыўны ўдзел у абгаварэньні пытаньняў. Колгасьнікі і асабліва колгасьніцы пачынаюць вызваляцца ад рэлігійнага дурману, які ў Тураве, трэба сказаць, яшчэ мае свае традыцыйныя карані сярод адсталых груп насельніцтва. У большасьці кватэр колгасьнікаў няма абразоў; выхад на работу ў рэлігійныя сьвяты—зьявішча амаль агульнае для большасьці колгасьнікаў і колгасьніц. Замест рэлігійных сьвят колгасьнікі організавана прымаюць актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзеньні рэволюцыйных сьвят (гадавіна Кастрычнікаўскай рэволюцыі, Першае мая і інш.).

Горш справа абстаіць з разгортваньнем насьценнага друку ў колгасе. Насьценная газэта выдаецца нерэгулярна. Звычайна выданьне яе прыстасоўваецца да правядзеньня розных кампаній і ў выданьні яе прымае ўдзел вельмі нязначная колькасьць колгасьнікаў. У гэтых адносінах культурна-бытавая камісія не разгарнула належнай работы і не згуртавала адпаведны актыў вакол насьценнай газэты. Недастатковая ўвага гэтай справе аддаецца і з боку партыйнай і комсамольскай ячэек колгасу. Адсутнічае таксама плянавая і сыстэматычная работа грамадзкіх організацый у колгасе, а між тым умовы для разгортваньня работы тут ёсьць. Сярод колгасьнікаў ёсьць партыйцы, комсамольцы, настаўнікі, члены профсаюзу і пры належнай расстаноўцы гэтых сіл і рацыянальным скарыстаньні іх можа ўпаўне забясьпечыць разгортваньне работы грамадзкіх організацый, сыстэматычнае выданьне насьценнай газэты і ўзмацненьне наогул культурна-масавай работы ў колгасе, што ў сваю чаргу яшчэ больш будзе спрыяць організацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню колгасу. На гэты бок работы ў колгасе трэба зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу партыйнай, комсамольскай організацыі і праўленьню колгасу.

Я. М. Ярмашэвіч

# Організуем вывучэньне запасаў дубовага жалуда, як сыравіны для сьпірытусовай індустрыі

XVII Усесаюзная партконфэрэнцыя дала разгорнутую праграму барацьбы за завяршэньне першай пяцігодкі ў гэтым годзе. Разам з тым *„Аднэй з важнейшых задач прамысловага пляну 1932 г. зьяўляецца больш паскораны рост, чым у мінулым годзе лёгкай і харчовай прамысловасьці, мобілізацыя сыравінных рэсурсаў, разгортваньне вытворчасьці новых відаў сыравіны, рацыянальнае іх выкарыстаньне і палепшаньне якасьці выпускаемае продукцыі" (З рэзолюцыі XVII Усесаюзнай партконфэрэнцыі).*

Цьвёрдая дырэктыва партыі аб паскораным росьце продукцыі лёгкай і харчовай прамысловасьці ўжо знайшла сваё адбіцьцё ў разгортваньні сьпірытусовай індустрыі БССР у першай пяцігодцы і ў плянах на другую пяцігодку.

Па проектоўках першай пяцігодкі штогодні рост продукцыі сьпірытусовай прамысловасьці ў сярднім павінен быў раўняцца 25 проц.; фактычнае-ж выкананьне, уключаючы контрольныя лічбы 1932 г., складае ў сярэднім 98,8 проц. штогод. Якое разыходжаньне паміж намёткамі і выкананьнем!

Выходзячы з плянавых запатрабаваньняў народнае гаспадаркі на сьпірытус, на канец другой пяцігодкі запроектаваны рост выкуркі ў тры разы большы за контрольныя лічбы 1932 г.

У разрэзе другой пяцігодкі перад сьпірытусовай прамысловасьцю ставяцца вялізарнейшыя задачы. У другой пяцігодцы спажываньне сьпірытусу рэзка мяняецца. На першы плян выступае вытворчае і тэхнічнае спажываньне сьпірытусу. Рост спажываньня тэхнічнага сьпірытусу ў СССР з 1927 г. да 1932 г. складае 4930 проц. Агульная выпрацоўка да 1931 г. раўняецца толькі 674 проц. Можна беспамылкова сказаць, што і ў БССР у другой пяцігодцы амаль уся продукцыя сьпірытусовай індустрыі пойдзе на тэхнічныя і гаспадарчыя мэты.

Хто ў БССР будзе зьяўляцца спажыўцом тэхнічнага і гаспадарчага сьпірытусу?

Галоўным спажыўцом тэхнічнага сьпірытусу ў БССР ў другой пяцігодцы будзе наш агромністы аўто-Трактарны парк, авіо- і рачны транспорт.

Маскоўскім Навуковым Аўто-трактарным інстытутам былі прароблены досьледы па выкарыстаньню сьпірытусу, як гаручага для

аўтомобіля. Досьледы давялі, што сьпірытус зьяўляецца добрым моторным апалам.

За межамі даўно сьпірытус ужываецца, як гаручае для моторaў нутранога згараньня. Так, у 1928-29 г. у Германіі спалілі на маторах 280 тыс. гэкталітраў сьпірытусу (1 гекталітр=8,13 вядзёр). У Германіі Францыі, Чэха-Славакіі, Італіі і інш. краінах выдадзены спэцыяльныя законы, дзякуючы якім спірытус ужываецца, як гаручае.

Увядзеньнем у БССР сьпірытусу, як гаручага для аўто-трактарнага парку і авіа-рачнога транспорту ня толькі разгрузіцца наш транспорт, з'экономяцца транспортныя выдаткі па гаручаму, але і захаваецца многа бэнзіны, як высока-экспортнага продукту.

Другім галоўным спажыўцом сьпірытусу ў БССР у другую пяцігодку будзе хэмічная прамысловасьць.

З новых галін хэмічнай прамысловасьці, для якой сьпірытус зьяўляецца галоўнай сыравінаю, заслугоўвае асаблівае ўвагі прамысловасьць сынтэтычнага (штучнага) каўчуку, вытворчасьць якога дыктуецца шпаркімі тэмпамі аўтомобілізацыі СССР. У гэтым годзе ў СССР намечана будаўніцтва 3-х заводаў сынтэтычнага каўчуку. Заводы будуюцца магутнасьцю кожны па 10 тыс. тон. Сёлета мяркуецца атрымаць 12 тыс. тон продукцыі.

„У нас ёсьць усё, апроч каўчуку, але праз год-два і каўчук будзем мець у сваім распараджэньні" (Сталін). Словы вялікага правадыра зьдзейсьніліся. Сьмелая навукова-дасьледчая думка па вытворчасьці сынтэтычнага каўчуку ўпяршыню ажыцьцявілася ў СССР, а не ў капіталістычных краінах. Ужо ўступілі ў эксплёатацыю Яраслаўскі і Воронескія заводы штучнага каўчуку.

У недалёкім часе СССР будзе мець свой каўчук і зусім вызваліцца ад чужаземнай залежнасьці.

З ростам социялістычнага будаўніцтва многа патрабуецца сьпірытусу для ляка-фарбавай прамысловасьці, для мэдыцынскіх мэт і г. д.

Надзвычайна вялікае значэньне мае сьпірытус для абаоназдольнасьці краіны. Ніводная галіна с/г. індустрыі так ня ўзброївае армію сродкамі абароны, як сьпірытусовая індустрыя. *„Задачай першачарговай вартасьці зьяўляецца форсаваньне разьвіцьця галін прамысловасьці, якія падвышаюць абароназдольнасьць Савецкага Саюзу" (З рэзолюцыі XVI зьезду УсеКП(б).*

Як бачым, з пункту погляду социялістычнай гаспадаркі роля сьпірытусовай індустрыі павялічваецца з кожным днём. 1932 год ставіць перад сьпірытусовай ідустрыяй рад вялізарных задач.

Сьпірытусовая індустрыя БССР за апошнія гады дасягнула вялікіх посьпехаў. Але разам з посьпехамі на паасобных участках маецца рад недахопаў і прарываў. Прамысловасьць за апошнія гады ня выконвае сваіх гадавых прамфінплянаў. Тлумачыцца гэта пераважна тым, што некаторыя працаўнікі недаацэньваюць значэньне сьпірытусовай індустрыі для социялістычнай гаспадаркі, а таму і не вядуць рашучай барацьбы за плян. Трэба пабальшавіцку змагацца з такімі шкоднымі настроямі.

Вузлавым пытаньнем у выкананьні програмы сьпірытусовай індустрыі зьяўляецца сыравіна. Раней заводы забесьпячаліся

бульбаю переважна з кулацка-ўласьніцкай гаспадаркі, дзякуючы чаму яны былі зусім слаба нагружаны. Напружанае становішча з сыравінаю было ў 1931 г. Матар'ялы 1932 г. б'юць трывогу і ёсьць небясьпека, што контрольныя лічбы па выпуску сьпірытусу ня будуць выкананы. Такое ненормальнае становішча з забесьпячэньнем заводаў сыравінаю выклікала рад пастаноў па соцыялістычнай рэконструкцыі сыравіннай базы і організацыі загатовак.

Пастанова СНК БССР дае цьвёрдую дырэктыву па поўнаму забесьпячэньню бульбаапрацоўчай прамысловасьці сыравінаю, выходзячы з яе пляну разьвіцьця як шляхам вызначэньня пэўных раёнаў тэхнічнае пераапрацоўкі бульбы, так і вызначэньнем навакол заводу пэўнага ліку саўгасаў і колгасаў, якія спэцыялізуюцца ў кірунку разьвіцьця тэхнічнае бульбы.

Пастанова СНК СССР аб рэорганізацыі загатоўчага апарату ставіць індустрыю тварам да сыравіннае базы. Завод становіцца ня толькі спажыўцом, а і організатарам сваёй сыравіннай базы, барацьбітом за якасьць сыравіны, за організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў.

Можна прывесьці яшчэ рад докумэнтаў, якія даводзяць, што бульбаапрацоўчай прамысловасьці з боку цэнтральных урадавых і партыйных устаноў аддаецца надзвычайна вялікая ўвага.

Разам з гэтым партыйнымі і ўрадавымі ўстановамі шырока пастаўлена пытаньне аб мобілізацыі новых відаў сыравіны для прамысловасьці. Асаблівая ўвага аддаецца *нехарчовай сыравіне,* уключэньнем якой павялічваюцца сыравінныя рэсурсы і найбольш поўна выкарыстоўваюцца прыродныя багацьці краіны.

Навукова-дасьледчымі інстытутамі, опэрацыйнымі і гаспадарчымі ўстановамі і паасобнымі фабрыкамі і заводамі шырока разгорнута работа па адшуканьню новых відаў сыравіны для тэхнічнай пераапрацоўкі. Галоўная думка накіравана ў бок адшуканьня нехарчовых відаў сыравіны.

Перад сьпірытусовай індустрыяй СССР таксама некалькі год таму назад рубам пастаўлена пытаньне аб адшуканьні нехарчовых відаў сыравіны. На сёнешні дзень у гэтай справе ёсьць значныя зрухі. Сьпіс новых расьлін для выпрацоўкі сьпірытусу павялічыўся.

У сучасны момант аднэй з вялізарнейшых задач краязнаўчых організацый БССР зьяўляецца работа па выяўленьню і вывучэньню новых нехарчовых відаў сыравіны для нашай бурна-растучай сьпірытусовай індустрыі.

Якую новую, нехарчовую сыравіну ў БССР цяпер-жа можна скарыстаць для сьпірытусовай індустрыі?

Наяўнасьць дубовых масываў у БССР дае магчымасьць у першую чаргу ўключыць дубовы жолуд, як сыравіну для вырабу сьпірытусу.

Што з сябе прадстаўляе жолуд, як сыравіна? Як вядома, сьпірытус можна атрымаць з тых матар'ялаў, якія маюць крухмал або цукар. Тэхнічная бульба нашых колгасаў і саўгасаў утрымлівае 16-20 проц. крухмалу, а жолуд, дасьледваны лябораторыяй Беларускага навукова-дасьледчага ін-ту харчовай прамы-

словасьці, мае да 40 проц. крухмалу, г. зн. кілёграм жалудоў утрымлівае крухмалу ў 2 разы болей, чым кгр. тэхнічнай бульбы. Тэорытычна з аднэй вагавай адзінкі жалуда можна атрымаць у 2 разы болей сьпірытусу, чым з вагавой адзінкі бульбы.

Жалудом, як сыравінаю для выкуркі сьпірытусу, цікавіліся даўно. Паасобныя вінакуры ня раз прабавалі курыць сьпірытус з жалуда, але дзякуючы адсутнасьці дасканалых схем вытворчасьці, атрымліваліся малыя выхады. Навукова-дасьледчыя інстытуты выявілі недастаткова ініцыятывы па разьвязаньню гэтага пытаньня.

Беларускі навукова-дасьледчы інстытут харчовай прамысловасьці з першых дзён сваёй работы ўключыў тэму па вытворчасьці сьпірытусу з жалудоў; ён задаўся мэтаю ў найкарацейшы тэрмін аўладаць тэхнолёгічным процэсам, дабіцца высокіх выхадаў і дасягненьні перадаць прамысловасьці.

Ці варта перапрацоўваць жалуды на сьпірытус з пункту погляду экономіі ў параўнаньні з бульбаю?

У мінулым годзе Лесбел загатаўляў жалуды па 5 р. цэнтнер, а загатоўчая цана на бульбу была 3 рублі 60 кап. цэнтнер. Паколькі жолуды ўтрымліваюць крухмалу ў 2 разы болей, чымся бульба, то, выходзячы толькі з крухмалістасьці, трэба было-б ацаніць цэнтнер жалудоў у 7 р. 20 к. (колькі каштуюць 2 цэнтнеры бульбы). Розьніца ў 2 руб. 20 кап. на цэнтнер не ў карысьць бульбы.

Бяручы пад увагу загатоўчыя цэны мінулага і гэтага году як на бульбу, так і на жалуды, можна констатаваць поўную экономічную мэтазгоднасьць уключэньня жалудоў, як сыравіны для сьпірытусовай індустрыі.

Ці ёсьць у нас адпаведная база для наладжваньня выкуркі сьпірытусу з жалудоў? Так, ёсьць. З матар'ялаў Лесбелу відаць, што БССР мае пад дубовымі лясамі 124.013 га, з якіх дзяржаўнага значэньня—119.949 га, і мясцовага — 4.064 га. Лясы разьмешчаны ў 58 адміністрацыйных раёнах, так што ў сярэднім прыпадае на 1 раён 2.138 га.

Калі разьбіць раёны на групы пад дубовымі лясамі, то малюнак будзе мець наступны характар:

| | | |
|---|---|---|
| 30 | раёнаў маюць плошчу пад дубовымі лясамі | да 500 га. |
| 7 | " " " " " | ад 500 „ 2.000 „ |
| 9 | " " " " " | „ 2.000 „ 4.000 |
| 12 | " " " " " | больш 4.000 га. |

Як відаць, найбольшую групу складаюць раёны, якія маюць плушчу пад дубовымі лясамі да 500 га. Раёны першай групы знаходзяцца пераважна ў паўночнай частцы БССР. Раёны другой групы ў усходняй і заходняй, раёны 3-й групы—у сярэдня-паўднёвай. Апошняя група пачынаецца з Клічаўскага раёну, праходзіць праз Бабруйскі, Парыцкі раёны і ахоплівае амаль усю паўднёвую частку БССР.

Калі глянуць на карту дубовых лясоў і карту сьпірытусовых заводаў, то геаграфічнае разьмяшчэньне іх амаль супадае.

Якія рэсурсы жалудоў маюцца ў БССР? Прывядзем орыентовачны падлік. Па весткам Лесбелу 1 га дубовага лесу дае ўраджаю ў сярэднім 10 цэнт. жалудоў, а ў ўраджайныя гады нават і болей. Калі ўзяць сярэдні ўраджай, то пры добрай організацыі збору магчыма атрымаць 10 × 124.000 = 1.240.000 цэтнераў жалудоў. Па ўтрыманьню крухмалу гэта колькасьць жалудоў раўняецца 2.480.000 цэнтнераў бульбы. Каб атрымаць дадаткова столькі бульбы, трэба засеяць 25.000 га.

Перавёўшы сабраны ўраджай жалудоў на сьпірытус, можна атрымаць 6.200.000 вядзёр сьпірытусу ў 40°. Гэтая лічба складае 73 проц. ад програмы 1932 году.

Такім парадкам рад прыведзеных матар'ялаў паказвае, што ў нас ёсьць дастатковая база, што жолуд, як сыравіна для сьпірытусовай індустрыі, заслугоўвае вялікай увагі як з боку прамысловасьці, так і з боку мясцовых організацый.

Краязнаўчыя організацыі ня раз садзейнічалі цэнтральным і мясцовым органам разьвязваць рад практычных задач соцыялістычнага будаўніцтва. Мы глыбока перакананы ў тым, што закранутым намі пытаньнем на мясцох зацікавяцца краязнаўчыя організацыі. Нікому так ня зручна, як ім, заняцца вывучэньнем запасаў дубовага жолуду як навокал сьпірытусовых заводаў, так і ў раёнах знаходжаньня дубовых дрэвастанаў.

Які комплекс пытаньняў можна паставіць у сувязі з вывучэньнем запасаў жалудоў, як сыравіны для сьпірытусовай індустрыі?

Як агульнае правіла, програма па вывучэньню запасаў жалудоў складаецца краязнаўчай організацый або спэцыяльна вылучанай брыгадай. Програмныя пытаньні патрэбна ставіць у такой паступовасьці, каб яны адно другое папаўнялі.

Што датычыцца клясыфікацыі пытаньня па групам, то іх можна падзяліць на наступныя аддзелы:

1. Вывучэньне заводу.
2. Вывучэньне дубовых масываў.
3. Вывучэньне ўраджайнасьці жалудоў.
4. Вывучэньне організацыі збору жалудоў.
5. Вывучэньне спосабаў транспорту і захаваньня жалудоў.
6. Вывучэньне рэалізацыі жалудоў.

Пры запаўненьні програмы неабходна зьбіраць узоры жалудоў, малюнкі іх, фотографіі і г. д. Сабраны матар'ял паслужыць ня толькі для ілюстрацыі тэксту, але і зьявіцца экспонатамі для раённага музэю.

## Програма для вывучэньня запасаў жалудоў, як сыравіны для сьпірытусовай індустрыі

### *I. Вывучэньне заводаў*

1) Поўная назва сьпірытусовага заводу.

2) Назва ўстановы (трэсту, аб'яднаньня), у якую ўваходзіць завод.

3) Месцазнаходжаньне заводу, (раён, сельсавет, пункт, саўгас населішча).

4) Назва і адлегласьць заводу ў км ад: бліжэйшай чыгуначнай станцыі, прыстані, гораду, мястэчка.

5) Пад'язныя шляхі.

6) Адрас заводу.

7) Гадавая магутнасьць заводу ў дэкалітрах бязводнага сьпірытусу па гадох першай пяцігодкі.

8) Выкурка сьпірытусу па гадох першай пяцігодкі ў дэкалітрах.

9) Проектовачная магутнасьць заводу ў дэкалітрах бязводнага сьпірытусу па гадох другой пяцігодкі.

10) Колькі перaапрацавана бульбы па гадох 1-й пяцігодкі.

11) Колькі перaапрацавана завознай сыравіны і якой (па гадох першай пяцігодкі ў тонах).

12) Колькі патрабуецца сыравіны і якой (па гадох 2-й пяцігодкі ў тонах).

13) Галоўныя прычыны невыкананьня прамфінпляну па выкурцы сьпірытусу (па гадох першай пяцігодкі).

14) Лік рабочых на заводзе сталых і часовых у 1932 г. і па гадох другой пяцігодкі.

*II. Вывучэньне дубовых масываў*

1) Назва дубовых масываў, іх разьмер і дакладнае месцазнаходжаньне (раён, савет).

2) У склад якога лясьніцтва ўваходзяць.

3) Адлегласьць галоўных дубовых масываў ад сьпірытусовага заводу, гораду, мястэчка, ад чыгуначнай станцыі, прыстані.

4) Характарыстыка шляхоў, якія злучаюць завод, горад, мястэчка, станцыю і прыстань з дубовымі лясамі.

*III. Вывучэньне ўраджайнасьці жалудоў*

Пры вывучэньні ўраджайнасьці жалудоў трэба ўмовіцца, што спосабаў вызначэньня можа быць многа. На нашу думку, найбольш простым будзе такі. Перш заўсёды вызначаецца сярэдні ўраджай з аднаго дуба шляхам збору ўраджаю з некалькіх. Збор можа адбывацца пасьля першага і другога марозу, калі самі жалуды падаюць на зямлю. Для большай дакладнасьці можна абтрэсьці жалуды і сабраць.

Ведаючы сярэдні ўраджай з 1-го дуба шляхам пробных участкаў падлічыць ураджай з га.

Трэба мець на ўвазе, што ўраджай жалудоў бывае праз 2-3 гады і болей.

*IV. Вывучэньне організацыі збору жалудоў*

1) Назва сталых і часовых установ, якія займаюцца зборам жалудоў.

2) Як даўно яны вядуць сваю дзейнасьць.

3) Якая імі праводзіцца работа па падрыхтоўцы збору.

4) Ці праводзіцца кампанія па зборы жалудоў у мясцовым друку.

5) Ці маюцца спэцыяльныя асобы (брыгадзіры, інструктары па організацыі збору і адпаведны кадр зборшчыкаў).

6) Хто пераважна зьяўляецца зборшчыкам (дарослыя, старыкі, дзеці, колгасьнікі, аднаасобнікі, жанчыны, мужчыны).

7) Колькі кг жалудоў можа сабраць паасобная катэгорыя зборшчыкаў за 1-2-3 гадзіны ці за 8-гадзінны дзень.

8) Колькі кг жалудоў можа сабраць паасобны зборшчык за сэзон.

9) Калі пачынаецца і канчаецца сэзон збору жалудоў.

10) Ці меліся выпадкі організацыі спэцыяльных брыгад па збору жалудоў, іх склад і колькі імі сабрана жалудоў за сэзон.

11) Колькі сабрана жалудоў па паселішчам за рад ґадоў. Для гэтага трэба апытаць некалькі (10—5 колгасных сямей), якія займаюцца зборам, устанавіць проц. зборшчыкаў да ўсяго насельніцтва і вывесьці сярэдні збор па колгасу. Ведаючы збор жалудоў колгасу, можна ўстанавіць збор жалудоў па раёнам.

На падставе сабраных матар'ялаў пажадана скласьці карту збору жалудоў.

### *V. Вывучэньне спосабаў транспорту і захаваньня жалудоў*

1) Якая тара ўжываецца для розных відаў транспорту і якія страты бываюць пры перавозках.

2) Ці маюцца ў раёне спэцыяльныя хавальні для жалудоў, іх месцазнаходжаньне, адлегласьць ад заводу, гораду, мястэчка, станцыі і прыстані.

3) Разьмер хавальняў і іх кошт, каму яны належаць

4) Плян хавальняў і кароткае апісаньне толькі стандартных тыпаў.

5) Апісаньне розных спосабаў хаваньня, якія практыкуюцца ў раёне.

6) Страты жалудоў пры розных спосабах захаваньня і галоўныя з прычын, якія гэтыя страты выклікаюць.

7) Ці практыкуецца сушка жалудоў, якія маюцца стацыянарныя (сталыя і рухомыя) сушылкі, іх прапускная здольнасьць за 1 гадзіну ў цэнтнерах, кошт сушылак, месцазнаходжаньне.

### *VI. Вывучэньне рэалізацыі жалудоў*

1) Якой організацыі, колькі здана (прадана) жалудоў колгасам, паселішчамі па гадох. Для высьвятленьня гэтага пытаньня прыдзецца ісьці такім-жа шляхам, як і для высьвятленьня вынікаў збору.

2) Якія запатрабаваньні ставяцца ў адносінах да здаровага жалуда (здаровы, сьвежы, сухі, адборны і г. д.).

3) Ці маюцца на пунктах загатовак спэцыяльныя сартовачныя прылады.

4) Па якой цане здаюцца розныя гатункі жалудоў (за цэнтнер).

5) Ці практыкуецца выдача прамтавараў за зданыя жалуды і ў якой долі.

6) Ці маюцца ў мясцовых організацыях спэцыяльныя фонды для правядзеньня кампаній збору.

7) Колькі здаецца жалудоў і на якія заводы для тэхнічнай пераапрацоўкі, магутнасьць апошніх у цэнтнерах і род продукцыі, якая імі прапускаецца.

8) Колькі скармліваецца жалудоў жывёлаю і якою. Ці практыкуецца страўліваньне жалудоў жывёлай непасрэдна ў лесе.

9) Колькі спажываецца жалудоў для ўласных патрэб і якіх.

10) Даведацца ў загатоўчых канторах, колькі, куды і для чаго вывозіцца жалудоў.

Вось той рад пытаньняў, якія, на нашу думку, павінны быць уключаны ў програму. Нават і такая програма, як-быццам вялікая па зьместу, ня можа цалкам задаволіць краязнаўчыя організацыі. На мясцох, як пры праапрацоўцы самой програмы, так і ў часе збору трэба рабіць корэктывы. Ня трэба глядзець на програму, як на нешта нязьменнае.

Па ўсіх спрэчных пытаньнях програмы работы і збору матар'ялаў і іх апрацоўцы неабходна звярачацца ў ЦБ краязнаўства БАН і НДІ харчовай прамысловасьці.

Колектыў краяведаў, настаўнікі, лесаводы, агрономы, адміністрацыйна-тэхнічны пэрсонал і рабочая грамадзкасьць заводу, комсамол, піонэры, вучні, актыў саўгасьнікаў і колгасьнікаў поўныя энтузыязму, пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, ужываючы 6 умоў тав. Сталіна, з гонарам выканаюць дырэктыву аб мобілізацыі новых, нехарчовых відаў сыравіны для нашай соцыялістычнай прамысловасьці, якая шпарка расьце і разьвіваецца.

А. Ляўданскі

# Папярэднія вынікі работы археолёгічнай брыгады Палескай экспэдыцыі

Археолёгічная брыгада складалася з трох асоб: К. М. Палікарповіча, С. А. Дубінскага і А. Н. Ляўданскага (брыгадзір). Прымаў удзел у рабоце брыгады і краязнаўца настаўнік А. З. Каваленя. Працяг работы—з 13/VI па 30/VII-1932 г.

Навукова-дасьледчая работа праводзілася ў Тураўскім, Жыткавіцкім, Петрыкаўскім, Мазырскім і Юравіцкім раёнах, галоўным чынам, па берагох старых тэрас шырокай поймы Прыпяці, у пойменнай частцы яе і менш на прытоках Прыпяці.

Такім чынам, была абсьледавана р. Прыпяць ад самай савецка-польскай граніцы і да м. Юравіч. Абсьледваньні праводзіліся пераважна ў тых месцах, дзе раней ніякіх досьледаў нікім не рабілася. Трэба адзначыць, што басэйн Прыпяці да гэтага часу быў вельмі слаба абсьледваны ў археолёгічных адносінах; былі толькі папярэднія краязнаўчыя разьведкі і нязначныя раскопкі археолёгічных помнікаў Археолёгічнай Камісіяй БАН у Тураўскім раёне ў 1929 г. У дарэволюцыйныя часы на Прыпяці, калі ня лічыць раскапаных курганоў проф. Завітневічам у канцы мінулага стагодзьдзя, ніякіх археолёгічных досьледаў не рабілася.

У часе сваіх досьледаў брыгада перасоўвалася часткова параходам, лодкай і, галоўным чынам, пяшком.

Для больш пасьпяховага правядзеньня сваіх досьледаў брыгадай зараней былі сабраны ўсе архіўныя, літаратурныя, музэйныя і краязнаўчыя матар'ялы як аб месцазнаходжаньні тых або іншых археолёгічных помнікаў і паасобных выпадковых знахадак, так і аб усіх археолёгічных досьледах, якія рабіліся раней у вышэйпералічаных раёнах. На падставе ўсіх гэтых матар'ялаў была складзена археолёгічная карта маршруту экспэдыцыі, якая дазволіла з большай лёгкасьцю правесьці тыя або іншыя досьледы.

Апрача археолёгічных досьледаў, брыгадай вывучаліся і абсьледваліся і іншыя об'екты, аб чым будзе сказана ніжэй.

Разам з тым, археолёгічнай брыгадай была праведзена работа па організацыі фотоздымкаў па-магчымасьці для ўсёй экспэдыцыі

Археолёгічныя дасьледваньні праводзіліся як шляхам раскопак, так і шляхам абсьледваньня берагавых, дзюнных і іншых абгаленьняў, а таксама зьбіраўся матар'ял праз анкеты, апытаньні і агляд школьных і краязнаўчых музэяў.

У задачу археолёгічнай брыгады ўваходзіла высьвятленьне: 1) часу засяленьня чалавекам Палесься і прыродна-гістарычных

умоў краю; 2) вывучэньне ўсіх па-магчымасьці важнейшых і даступных для дасьледваньня астаткаў матар'яльнай культуры насельніцтва, пачынаючы ад самых ранейшых часоў прабываньня чалавека на тэрыторыі сучаснага Беларускага Палесься і да пачатку раньняга фэўдалізму. Такімі об'ектамі для вывучэньня зьяўляліся: палеолітычная стаянка (эпоха мамонта) у м. Юравічах, стаянкі эпохі нэоліту і бронзы, селішчы, гарадзішчы (умацаваныя цэнтры роду або радавой сям'і, а таксама і цэнтры фэўдала раньняга фэўдалізму), астаткі жыльля (зямлянкі і інш.),



Мал. 1. Досьледы першабытных зямлянак на Прыпяці, каля г. Петрыкава.

пахаваньні, як грунтавыя (пераважна трупаспаленьні на дзюнах), так і курганныя.

Апрача таго, брыгадай вывучаліся: а) гісторыя і тэхніка выплаўкі жалеза з мясцовай руды, а таксама месцазнаходжаньні старажытных жалезаплавільных заводаў і пакладаў руды; б) месцазнаходжаньні так званай па-мясцоваму „белай гліны“ (мэргелю) і выкарыстоўваньне яе насельніцтвам для сваіх гаспадарчых патрэб; в) месцазнаходжаньні пакладаў выкапальнага торфу і здабываньне з яго насельніцтвам жалезістай чырвонай фарбы; г) месцазнаходжаньні плястычнай гліны і інш.

Археолёгічная брыгада сваю работу цесна ўвязвала з досьледамі брыгад этнографіі і антрополёгіі.

У рэзультаце палявой работы археолёгічнай брыгады мы маем наступнае: дасьледвана 1 палеолітычная стаянка ў м. Юравічах, 30 стаянак эпохі нэоліту і бронзы, 10 селішч, 10 гарадзішч, некалькі курганных груп і грунтавых (дзюнных) месц пахаваньня шляхам трупаспаленьня, 3 зямлянкі (выкрыты ўпяршыню ў БССР) (мал. 1) і інш. рэштк жыльля эпохі радавой грамады.

Досьледы Юравіцкай палеолітычнай стаянкі яшчэ ня скончаны, па-першае, з прычыны, вялікай плошчы, якую яна займае, і, па-другое, з прычыны значнай глыбіні заляганьня самой стаянкі з вялікай колькасьцю рэштак касьцей мамонта і іншых выкапальных жывёл.

Пры абсьледваньнях і раскопках здабыты: рэшткі касьцей выкапаных жывёл, крамнёвыя прылады вытворчасьці, рэшткі хатніх і дзікіх жывёл, сельска-гаспадарчыя і інш. прылады вытворчасьці, кераміка розных часоў, вывучаны тыпы жыльля, іх пабудова, пабудова першабытных каменных і глінабітных печак і ачагоў, пабудова гарадзішч і іх прывызначэньне, спосабы выплаўкі жалеза з мясцовай балотнай руды, сабраны значны матар'ял для археолёгічнай карты і інш.

У зьвязку з разьведкамі па палеоліту К. М. Палікарповічам зроблены досьледы, якія мелі мэтаю ўстанаўленьне геолёгічнай будовы даліны Прыпяці, колькасьць і пабудова яе тэрас, абсьледваны карэнныя берагі Прыпяці ад Турава да паўночнай часткі Нараўлянскага раёну. Пры гэтым была агледжана канцовая марэна (рыскага ўзросту), якая цягнецца ад с. Загараны, Мазырскага раёну да ваколіц в. Проўсюкі. Нараўлянскага р. Апрача таго, агледжаны рэшткі канцовых марэні каля вв. Белая, Асяцішча і Рудня (ваколіцы м. Скрыгалава).

У галіне вывучэньня прыродных багацьцяў брыгадай абсьледваны і сабраны матар'ялы: па 7 старажытных жалезаплавільных прымітыўных заводах, па 5 мясцох пакладаў балотнай руды, па 10 пунктах пакладаў „белай гліны“ (мэргелю), па 1 пункту выкапальнага торфу, па 3 невялічкім прымітыўным цагельням (у Тураўшчыне і інш.). Але аб гэтым будзе сказана ніжэй.

Адносна Беларускага Палесься на падставе археолёгічных досьледаў можна зрабіць ужо наступныя папярэднія вывады:

1. Прабываньне чалавека на тэрыторыі, галоўным чынам, усходняга Беларускага Палесься ўстанаўліваецца пасьля вюрмскага аледзяненьня (у бюльскай стадыі). Паселішча (стаянка верхняга палеоліту) чалавека таго часу знаходзіцца ў м. Юравічах. Насельніцтва гэтага часу здабывала сабе яду паляваньнем, галоўным чынам, на буйных жывёл (мамонта, аленя і інш.).

2. У пазьнейшыя часы (тысяч 4-7 гадоў таму назад) тэрыторыя сучаснага Палесься прадстаўляла сабой пераважна бязьлесістую бедную наогул расьліннасьцю (вось чаму ў Палесьсі мы сустракаем вельмі мала торфу), багатую вадой і рыбай краіну. Насельніцтва было вельмі рэдка і жыло на пяшчаных (дзюнных) берагох шырокіх вадзяных басэйнаў вялізарных рэк і азёр. Мяркуючы на колькасьці стаянак нэолітычнай і бронзавай эпохі, колькасьць пасяленьняў чалавека была больш на левым баку Прыпяці, чым на правым і то ў пазьнейшыя часы (у эпоху бронзы). Заняткамі насельніцтва было пераважна рыбацтва, таму што дзічы (акрамя вадаплаваючай птушкі) было вельмі мала.

3. У больш пазьнейшыя часы (2-3 тысячы гадоў таму назад) насельніцтва ў Палесьсі таксама было рэдка. Але ў гэтыя часы мы ўжо назіраем тут зачаткі земляробства, асабліва з часу азнаё-

мленьня чалавека з жалезам. У якасьці земляробчых прылад знойдзены намі прымітыўныя невялічкія жалезныя сярпы.

4. Пачынаючы прыблізна з першых вякоў новай эры і да XI ст. колькасьць насельніцтва на тэрыторыі Палесься заметна і паступова павялічваецца. Мяркуючы па рэштках матар'яльнай культуры—гарадзішчам (якія зьяўляліся ўмацаванымі цэнтрамі роду або радавой сям'і, а ў пазьнейшыя часы цэнтрам фэўдалаў), селішчам, курганам і інш. помнікам таго часу, можна ўжо шляхам статыстычнага ўліку ўстанавіць густату пасяленьняў і прыблізную колькасьць насельніцтва ў старыя часы. Аднак, і ўсе гэтыя даныя сьведчаць аб тым, што насельніцтва і ў гэты час было вельмі рэдкім. Калі, напрыклад, параўнаць заселенасьць тэрыторыі Палесься з тэрыторыямі басэйнаў рэк Сажа, Дняпра, Іпуці і інш., пачынаючы з самых старажытных часоў і да XI ст. (і нават пазьней), дык вельмі рэзка кідаецца ў вочы рэдкасьць насельніцтва ў басэйне Прыпяці і густата яго ў вышэйадзначаных басэйнах.



Мал. № 2. Куча балотнай руды на полі каля пас. Ільліча пад г. Петрыкавым.

5. Ня спыняючыся на цэлым радзе іншых пытаньняў, якія патрабуюць распрацоўкі, можна яшчэ адзначыць наступны факт. Археолёгічныя даныя катэгорычна абвяргаюць раней выказануо думку з боку некаторых буржуазных вучоных, што Палесьсе нібыта зьяўлялася прарадзімай славян і адкуль нібы-та пачалося рассяленьне апошніх. Што датычыцца фізычнага тыпу насельніцтва старых часоў (1.000—3.000 гадоў таму назад), дык аб ім можна гаварыць пакуль што пачынаючы з IX-XI ст. нов. часу, бо раней на тэрыторыі сучаснага Палесься, таксама які ў другіх мясцох, існаваў абрад трупапаленьня, ад якога (трупапаленьня) рэштак цэлых касьцей чалавека не засталося. Пачынаючы-ж прыблізна з IX-XI ст. і пазьней костны матар'ял знойдзены ўжо ў значнай колькасьці. Пасьля распрацоўкі яго спэцыяльнай антраполёгічнай

брыгадай, якая вывучала фізычны тып сучаснага насельніцтва, можна будзе высьветліць цэлы рад пытаньняў, як, напрыклад, адносна зьмены росту насельніцтва, формы чарапоў і шмат інш.

Гэтыя матар'ялы, разам з рэшткамі матар'яльнай культуры, дазволяць абвергнуць цэлы рад буржуазных нацыяналістычна-шовіністычных „тэорый", якія высоўваліся і высоўваюцца як з боку нацдэмаў, так і польскіх фашыстаў.



Мал. № 3. Глыбы балотнай руды сярод пасеваў каля пас. Ільліча, пад г. Перыкавым.

Што датычыцца матар'ялаў сабраных адносна прыродных багацьцяў Палесься, дык аб іх можна сказаць пакуль што наступнае:

1. Пакладаў балотнай руды ў Палесьсі многа, але запасы яе далёка яшчэ ня толькі ня выяўлены, але і месцы вядомых пакладаў яшчэ грунтоўна не дасьледваны.

Што Палесьсе адно з багацейшых месц у БССР балотнай рудой, аб гэтым гавораць і гістарычныя даныя. Так, напрыклад, у Палесьсі ў эпоху пазьнейшага фэўдалізму (аж да XIX ст.) існавала многа прымітыўных жалезаплавільных заводаў, якія працавалі на мясцовай рудзе і драўляным вугалі. Сьведкамі існаваўшых заводаў зьяўляюцца як самі назвы сучасных паселішчаў з кораням „руд" (розныя рудні,—іх налічваецца некалькі дзесяткаў у Палесьсі), так і знаходжаньне каля гэтых паселішчаў рэштак шлакаў ад выплаўкі жалеза. Цяпер гэтыя шлакі насельніцтвам скарыстоўваюцца для ўмацаваньня гацяў. Але гэтыя даныя сьведчаць толькі аб нязначнай частцы месцазнаходжаньняў балотнай руды ў Палесьсі. Многа ёсьць яшчэ ня выкрытых месц балотнай руды, хаця і вядомых насельніцтву, якое скарыстоўвае руду (пліты і вялікія кавалкі) для сваіх гаспадарчых патрэб заместа

каменя. Археолёгічнай брыгадай выкрыты такія новыя месцы пакладаў балотнай руды пры вывучэньні фактаў скарыстоўваньня руды насельніцтвам 1.500—2.000 гадоў таму назад як для выплаўкі жалеза, так і для пабудовы з пліт руды прымітыўных першабытных печак, там дзе мала сустракаецца каменю. Адно з такіх месц знаходзіцца недалёка ад г. Петрыкава каля пас. Ільліча, на захад ад в. Макарычы. Тут плошча руды займае да 30 га. Паводле слоў старажылаў, раней тут мясцовы памешчык хацеў пабудаваць жалезаплавільны завод. Цікавіліся пакладамі



Мал. № 4. Здабываньне сялянамі „белай гліны" (мергеля) для пабелкі хат і печаў каля в. Сьнядзін пад г. Петрыкавым.

гэтай руды і немцы ў часы окупацыі Беларусі. Руда тут залягае даволі тоўстым пластом (месцамі звыш 30—50 см. у таўшчыню) пад самым глебавым слоем, так што перашкаджае араць поле плугам. Тут на полі выворваюцца вялікія кавалкі руды і скідваюцца на межы і равы, як каменьне (мал. 2.) Месцамі сяляне выкопвалі глыбы руды вагой да 10—15 п. для гаспадарчых патрэб (для падмуркаў хат і інш.) (мал. 3) *). Ёсьць паклады руды таксама і ў другіх месцах, але аб іх будзе сказана ў іншых артыкулах, пасьля распрацоўкі матар'ялаў і хэмічнага аналізу ўзораў руды, якая мае вельмі значную ўдзельную вагу, што сьведчыць аб значным процанце жалеза ў рудзе.

Можна сказаць, што пры наліччы ўжо вядомых пакладаў балотнай руды мог-бы працаваць завод па выплаўцы жалеза. Гэты завод можна было-б пабудаваць, напрыклад, дзе-небудзь на Прыпяці і недалёка ад чыгункі з тым, каб можна было руду і іншую сыравіну дастаўляць па вадзе і па чыгунцы.

*) Жалеза ў гэтай рудзе дасягае да 45—50 проц.

2. Наліччa запасаў ў розных месцах Палесься так званай па мясцоваму „белай гліны“ (мэргеляў) дазваляе пашырыць скарыстаньне яе як для пабелкі хат і печаў, так і, галоўным чынам, для вапнаваньня глебы (мал. 4). Але гэта справа з мэргелямі ў нас на Палесьсі яшчэ зусім ня вывучана. А якасьць мэргеляў месцамі настолькі высокая, што, напрыклад, мясцовыя сяляне ня толькі ня купляюць мелу для пабелкі сваіх хат і печаў, а нават вывозяць мэргель для продажу ў выглядзе галушак далёка за межы свайго раёну. Так, напрыклад, сяляне в. Сьнедзін пад Петрыкавым,



Мал. № 5. Выхады торфу на Прыпяці паміж вёскамі Лясковічы і Дарашэвічы.

дзе мэргель славіцца сваёй бялізной, вывозяць яго на базар і ў Петрыкаў і вязуць аж у Слуцак для продажу і абмену. Мэргель з вёскі Буразі пад Туравам нават пабіў сваёй бялізной мел, які быў прывезены коопэрацыяй у Тураў; так і застаўся ляжаць у крамах ня куплены мел.

3. У Тураўскім раёне ёсьць многа пры колгасах і савгасе цагельняў. Некаторыя з іх працуюць, а некаторыя не працуюць. Таму патрэбна было-б пабудаваць адзін вялікі цагельны завод, які-б быў больш рэнтабельным. Але справа гэта ўпіраецца ў няведаньне запасаў гліны, і яе якасьці. Ніякіх грунтоўных досьледаў ў гэтым кірунку не рабілася. З-за адсутнасьці ў складзе Палескай экспэдыцыі геолёгаў гэта справа не магла быць вырашана, ня гледзячы на запатрабаваньні з боку мясцовых раённых організацый.

Паміж вёскамі Лясковічы і Дарашэвічы, у левым абрывістым беразе выступаюць значныя вялікія паклады выкапальнага торфу

(мал. 5). Торф гэты, зразумела, нікім не скарыстоўваецца, ня гледзячы на добрую якасьць яго. Ён цэлымі месяцамі, высахшы на сонцы гарыць у абрывах. Торф сяляне часамі паляць з тым, каб з яго чырвонага попелу (бо торф мае значную прымесь жалеза) атрымаць чырвоную фарбу, якой малююць вокны, дзьверы і нават падлогі.

Сабраны пры досьледах матар'ял па гісторыі матар'яльнай культуры дазваляе ў даволі значнай меры вырашыць пастаўленыя экспэдыцыяй раней пытаньні.

Адносіцца гэта таксама часткова і да прыродных багацьцяў (руды, мэргеляў) Палесься.

Намечаная раней па пляну програма дасьледваньня ў галіне гісторыі матар'яльнай культуры, а таксама па абсьледваньню старых жалезаплавільных заводаў, у поўнай меры ня выканана з тэй прычыны, што не хапіла сродкаў.

Такім чынам, праведзеныя досьледы па вышэйазначаным галінам, могуць прынесьці вялікую карысьць для соцыялістычнага будаўніцтва. Могуць і павінны прынесьці таксама карысьць для соцбудаўніцтва і досьледы ў галіне гісторыі матар'яльнай культуры. Досыць сказаць, што бяз гэтых досьледаў мы ня зможам напісаць нават невялічкага падручніка па гісторыі матар'яльнай культуры Беларусі. А апошні прадмет, як вядома, уводзіцца цяпер ў програму кожнай сямігодкі, пачынаючы з 4-5 году навучаньня.

Брыгадай у часе сваёй работы на месцах праведзена досыць значная грамадзкая работа. Былі зроблены даклады аб паходжаньні чалавека і гісторыі матар'яльнай культуры на Палесьсі, праведзены гутаркі аб старых жалезаплавільных заводах, якія працавалі раней ў тэй або іншай мясцовасьці на Палесьсі, аб старажытных помніках матар'яльнай культуры і інш.

У тых мясцох, дзе праводзіліся намі досьледы, адносіны як з боку мясцовых організацый, так і з боку насельніцтва былі вельмі добрыя: усюды брыгадзе аказвался дапамога.

Што датычыцца наогул недахопаў у рабоце Палескай экспэдыцыі, дык яны заключаюцца ў наступным: 1) адсутнасьць брыгады па вывучэньню прыродных багацьцяў і наогул геолёгічнай пабудовы Палесься; 2) дрэнная якасьць фотоапаратуры і яшчэ больш дрэнная падрыхтоўка (вярней, адсутнасьць апошняй) у справе фотографаньня большасьці тых работнікаў, якія мелі фотоапараты ў той або іншай брыгадзе абедзьвюх Акадэмій. Некаторыя добрыя фотоапараты па паказанай прычыне ня былі скарыстаны ў належнай ступені. Вынікам усяго гэтага зьявілася тое, што брак фотоздымкаў у некаторых брыгадах дасягаў звыш 50 проц.; некаторыя брыгады нават ня ведалі, што ім трэба было фотографаць і інш. Усе гэтыя недахопы павінны быць улічаны з тым, каб у будучых экспэдыцыях яны былі зжыты.

**Т. Кулакоў, В. Самцэвіч**

# Досьледы па культуры вінаграду ў БССР

Вінаград, як вядома, зьяўляецца расьлінаю цёплага клімату, але пры належных умовах ён можа расьці і даваць зусім сьпелыя ягады і ў нас, у БССР, як гэта мы бачым з шматгадовых досьледаў па разьвядзеньню вінаграду ў Рагачове настаўнікам Рагачоўскага пэдтэхнікуму Ў. Ю. Руткоўскага. Сваю работу па разьвядзеньню вінаграду ў Рагачове т. Руткоўскі пачаў яшчэ ў 1904 г. і спачатку разводзіў толькі адзін гатунак—*шасьля белы.* Дабіўшыся пэўных вынікаў, ён у 1928 годзе пачаў вопыты над вырошчваньнем пяці новых гатункаў вінаграду: *шасьля цёмна-ружовы, дыямэнт-траўб'е, лідзія, мадэлен-анжэвін* і *мускат жоўты.* Досьледы над гэтымі гатункам таксама далі добрыя вынікі і ў 1930 годзе ягады з вінаградніку т. Руткоўската былі прадстаўлены на Ўсебеларускую селькагаспадарчую і прамысловую выстаўку ў Менску, і яму за культуру вінаграду ад выставачнага камітэту выданы ганаровы дыплём за № 537. Пасьля гэтага т. Руткоўскі яшчэ з большай энэргіяй узяўся за разьвядзеньне вінаграду, прыцягваючы да гэтай справы краязнаўчую ячэйку Рагачоўскага пэдтэхнікуму. Аднак, вынікі досьледу т. Руткоўскага ў БССР да гэтага часу не папулярызаваны. Аб іх ня ведае пролетарская грамадзкасьць БССР. Практыка нікім не перанята.

Зараз вінаграднік Руткоўскага займае плошчу ў 700 кв мэтраў, на якой пасаджана 120 кустоў вінаграду паказаных вышэй гатункаў. Вінаграднік знаходзіцца ў Рагачове (па Савецкай вуліцы). Плошча, занятая вінаграднікам, мае паступовы схіл на поўдзень,—паўночна-ўсходняю бокі, заняты будынкамі, якія абараняюць вінаграднік ад халодных паўночна-ўсходніх вятроў. Глеба пад вінаграднікам пяшчаная, лёгкая, угнойваецца компастам, перагною з розных адкідаў (лісьце, сьмецьце, быльнёг) з дамешкаю сухое вапны, якая патрэбна пры пасадках зрэзкай вінаграду ў грунт. Рассаджаны кусты вінаградніка рэдка, на адлегласьці 1½ мэтра адзін ад аднаго.

Разводзіцца вінаград адводкамі і зрэзкамі з адным вочкам. Перад пасадкаю ў грунт зрэзкі ў лютым месяцы прарошчваюцца ў пакоі каля печы або ў парніку пры тэмпэратуры ў 25° С. З вочка вырастае адзін парастак, які ў восень зразаецца, так што на ім застаецца два вочкі, з якіх у наступным годзе разьвіваюцца два парасткі. Ягады звычайна вырастаюць на трэці год. На зіму, калі наступяць першыя маразы, кусты вінаградніку прыгінаюцца да зямлі і прысыпаюцца пластом зямлі да 10 см. У красавіку, з нады-



ходам цёплых дзён, кусты адкапваюцца і падвязваюцца да нацягнутага паміж слупамі, або каламі дроту.

Гадавыя парасткі ў вінаградніку Руткоўскага дасягаюць даўжыні да 4-х мэтраў. Ураджай ягад з аднаго 4-5-гадавога куста



5-гадовы куст вінаграду „Мадлен Анжэвін" на дасьледчым участку У. Ю. Руткоўскага ў г. Рагачове, БССР. Засьняты 20/VIII 1932 г.

атрымліваецца кожны год ад 2,5 да 3 кілёграм, асобныя гранкі важаць да 400—500 г, вага некаторых ягад дасягае 6—8 г. Па свайму выгляду і смаку ягады ня ўступаюць крымскаму віна-

граду. Дасьпелі паасобная гатункі вінаграду ў бягучым годзе ў наступныя тэрміны: маленгр раньні—5 жніўня, мадэлен-анжэвін—15 жніўня, шасьлябелы—26 жніўня, шасьля ружовы і дыямэнт-траўб'е— у пачатку верасьня. Ягады паказаных гатункаў т. Руткоўскім дасланы Цэнтральнаму бюро краязнаўства пры Беларускай Акадэміі Навук, якім організавана выстаўка вінаграду. Выстаўку аглядаў цэлы рад спэцыялістаў і навуковых работнікаў, якія знайшлі ягады зусім сьпелымі, нормальнай велічыні і выказ-



ваюць думку аб мэтазгоднасьці пашырэньня разьвядзеньня вінаграду на Беларусі.

Каштоўныя досьледы т. Руткоўскага павінны зьвярнуць на сябе належную ўвагу адпаведных гаспадарчых організацый і вывучаны ў практычных мэтах. Пытаньнем вывучэньня ўмоў разьвядзеньня вінаграду ў БССР павінны заняцца Колгасцэнтр, Белплодагароднае аб'яднаньне, цэнтральная і раённыя маладзёжныя станцыі, краязнаўчыя ячэйкі ў колгасах і пры школах.

Цэнтральная маладзёжная станцыя павінна організаваць вывучэньне досьледаў т. Руткоўскага і паставіць гэтыя досьледы ў раёнах, стаць на чале гэтае справы, якая мае значныя пэрспэктывы. Краязнаўчыя ячэйкі ў колгасах таксама павінны заняцца вывучэньнем ўмоў і магчымасьцяў разьвядзеньня вінаграду ў БССР. Мы лічым далей, што самую сур'ёзную ўвагу на гэту справу—дасьледваньне і вывучэньне вінаграду—павінны зьвярнуць

і нашы школы. Досьледы па разьвядзеньню вінаграду школы могуць і павінны шырока выкарыстаць як у вучэбна-выхаваўчых, так і ў практычных мэтах.

Урэшце, неабходна, каб наша пэрыодычная прэса ўдзяліла належную ўвагу выяўленьню дасьледчай практыкі краязнаўчых і наогул масавых дасьледчых арганізацый, асьвятляючы гэтую практыку на сваіх старонках і папулярызуючы яе сярод шырокіх працоўных мас.

Проф. Л. П. Розанаў

# Дрожджы, як вельмі карысны сродак харчаваньня

Паводле даных 1931 г., надрукаваных у „Экономіка-статыстычным даведніку БССР“, агульная колькасьць насельніцтва БССР складае 5.248.355 асоб. Фізыолёгія харчаваньня вучыць, што кожнаму чалавеку патрэбна ў дзень каля 80—120 гр *) бялкоў, 56 гр тлушчу і каля 500 гр вугляводаў. Пагутарым зараз аб бялкох, як аб дарагім і ў першую чаргу патрэбным продукце. 100 гр бялку роўны 500 гр мяса. Але такая колькасьць мяса непатрэбна, бо ў хлебе, бульбе і інш. ёсьць некаторая колькасьць бялкоў. Бялкі зьяўляюцца дарагім прадуктам і таму кожная крыніца поўнакаштоўнага бялку павінна быць выкарыстана і даведзена да насельніцтва. Па досьледам, зробленым у кіруемых мною лябораторыях Беларускага дзяржаўнага мэдінстытуту і Беларускай Акадэміі Навук у 1930 і 1931 гг. маладыя цёплакроўныя сысуны (вопыты былі зроблены на пацукох) ня могуць жыць на адным чорным хлебе, бульбе і тлушчы, але могуць быць на хлебе і дрожджах. Калі карміць маладых пацукоў толькі хлебам, бульбай і рыб'ім тлушчам, дык прыблізна праз 110 дзён яны гінуць. Пры дачы-ж ім харчоў з дастатковаю колькасьцю дрожджаў яны жывуць і добра растуць. Таму трэба рашуча ўзяцца за выраб танных бялкоў у выглядзе дрожджаў. У якім выглядзе даваць іх у харчы людзям і ў якой колькасьці? У 1930 г. мы далі мэтод консэрваваньня дрожджаў засолкаю, прычым дрожджы набываюць пах і смак, падобныя голяндзкаму або швайцарскаму сыру. У 1932 годзе навуковы працаўнік нашай лябораторыі А. П. Поляк зрабіў зусім добры сыр з роўных частак творагу і дрожджаў. У гэтым выглядзе дрожджы могуць заняць пачэснае месца ў мэню кожнага чалавека. Спэцыяліст па дыэтыцы д-р Моносзон выказаў нават думку, што гэты сыр зусім прыгодны для падняцьця харчаваньня дзяцей і хворых: ён мае добры смак, выклікае апэтыт, і яго вялікая харчовая вартасьць бясспрэчна. Колькі трэба нам дрожджаў? Я думаю, што на першы час можна прыняць, каб у выглядзе дрожджаў чалавек атрымаў 25 гр бялкоў. Гэта адпавядае прыблізна 200 гр прэсаваных дрожджаў у дзень.

Паводле даных „Даведніка“ на працягу 1930 году ў БССР продукцыя дрожджаў складала 5.851 тон. Кругла мы можам

*) Гэтыя нормы лічацца шмат якімі замежнымі фізыолёгамі надта вялікімі, але мы імкнемся даваць больш, а не менш.

прыняць 6 тыс. тон. Па даным Дражджовай конвэнцыі ў СССР за 1927/28 гг. менскі завод „Чырвоная зара" даў 1.816 тон і стаіць на 3 месцы ў Саюзе пасьля Маскоўскага заводу „Моссельпром", які даў 3.348 тон і Кіеўскага, які даў 2.211 тон. У прыватных гутарках часта прыходзіцца сустракацца з распаўсюджанай думкай, што мы маем настолькі разгорнутую дражджовую прамысловасьць, што можам „закідаць рынак дрожджамі нават для корму жывёлы". Ці сапраўды гэта так? Зробім арытмэтычны падлік. Калі прыняць 200 гр у суткі дрожджаў на чалавека і 5.250.000 насельніцтва ў БССР, то патрэбна прыблізна 380 тысяч тон дрожджаў у год. Ці могуць нашы заводы падвысіць продукцыю з 6 тыс. тон у год да 380 тысяч тон?

Пры гэтым мы яшчэ ня ўлічваем патрэбы на корм жывёлы.

Зразумела, што адначасова, з падвышэньнем продукцыі дрожджаў трэба паралельна весьці выраб з іх сыру і іншых продуктаў, каб ня было няўвязкі паміж продукцыяй і спажываньнем.

З пункту погляду фізыолёгіі, гігіены, рэкамандуемая мной мера шырокага ўжываньня дрожджаў дасьць вялікія вынікі ў выглядзе *палепшаньня прыросту насельніцтва, здароўя, разумовай і фізычнай працаздольнасьці, продукцыйнасьць працы, абароназдольнасьці і г. д.*

Я лічу, што нават і з боку гаспадарчага разьліку, калі мы будзем улічваць *толькі выгоднасьць продукцыі* дрожджаў, мы атрымаем нават і тады добры балянс. У 1930 г. у БССР было 3 дражджовых заводы з валавой продукцыяй на 5.851,62 тыс. рублёў пры 251 рабочым (без малодшага абслугоўваючага пэрсоналу). Па даным Р. Б. Гівартоўскага (артыкул у „Тэхнолёгія бузаваньня". 1930 г., выд. ГІЗ. ГлаВТУЗ) дрожджы абкладзены акцызам у 64 кап. за кг. Значыць, дзяржава атрымлівае ад дражджовай прамысловасьці БССР у выглядзе акцызу значны прыбытак—каля трох мільёнаў рублёў у год. Калі захаваць акцыз і пасьля ўвядзеньня дрожджаў ва ўсеагульнае ўжываньне ў якасьці харчоў, дык даход ад акцызу па аднэй толькі БССР будзе складаць каля 200 мільёнаў руб. у год. Пры гэтым дрожджы ўсё-ж такі застануцца танным продуктам; калі-ж адмовіцца ад акцызу, дык гэта будзе зусім танны продукт. Зразумела, магчыма, што па меры росту сельскай гаспадаркі дрожджы будуць выціскацца з харчоў людзей мяснымі і малочнымі продуктамі, але тады дрожджы будуць пераходзіць у харчы для жывёлы і, даваць магчымасьць павялічваць пагалоўе жывёлы пры экономіі зялёных і зернавых кармоў, што ў сваю чаргу дасьць магчымасьць павялічыць плошчы засеву важных тэхнічных культур (лён і г. д.).

---

# Інструкцыя

## па арганізацыі работы мясцовых камісій садзейнасьці па зьбіраньню і апрацоўцы матар'ялаў для Гісторыі грамадзянскай вайны на Беларусі*)

1. Бальшавіцкая „Гісторыя грамадзянскай вайны на Беларусі“ можа быць напісана толькі пры ўмове ўдзелу ў гэтай рабоце і актыўнай садзейнасьці ёй з боку шырокіх працоўных мас, асабліва былых актыўных удзельнікаў грамадзянскай вайны (чырвонагвардзейцаў, чырвоных партызанаў, чырвонаармейцаў, камандзіраў, політработнікаў і г. д.)

2. Для аб'яднаньня і кіраўніцтва ўсёй гэтай работай на мясцох, паводле рашэньня ЦК КП(б)Б, ствараюцца камісіі садзейнасьці ў складзе: прадстаўніка райкому і гаркому КП(б)Б, політорганаў РСЧА, архіву, мясцовай партызанскай камісіі і аддзяленьня Асоавіяхэму.

3. У задачу камісіі садзейнасьці ўваходзіць:

а) дапамога рэдакцыі ў распрацоўцы асобных разьдзелаў або частак „Гісторыі“;

б) кіраўніцтва зьбіраньнем выданай мясцовымі організацыямі і часьцямі Чырвонай арміі літаратуры па гісторыі грамадзянскай вайны;

в) кіраўніцтва па выяўленьню, вучоту і сыстэматызацыі архіўных і музэйных матар'ялаў, што маюцца на мясцох;

г) выяўленьне і збор матар'ялаў па гісторыі грамадзянскай вайны ў архівах устаноў і паасобных асоб;

д) організацыя вечароў успамінаў удзельнікаў грамадзянскай вайны па пытаньням ГГВ па пляну выданьня „Гісторыі“, а таксама паасобным выданьням сакратарыяту рэдакцыі, са стэнографаваньнем або падрабязным запісам усіх выступленьняў;

е) організацыя консультацыйнай дапамогі ўдзельнікам грамадзянскай вайны, што працуюць над успамінамі. Мясцовыя камісіі павінны організаваць дапамогу ў рабоце над успамінамі тым таварышом, для якіх пісьмовае выкладаньне думак становіць цяжкасьць;

ж) складаньне сьпісаў і жыцьцёпісаў актыўных удзельнікаў грамадзянскай вайны і па барацьбе з бандытызмам;

з) організацыя куткоў „Гісторыі грамадзянскай вайны на Беларусі“ ў клюбах, хатах-чытальнях, школах і г. д. і аддзелаў у існуючых музэях на мясцох;

*) У аснову гэтай інструкцыі палеглі кіруючыя матар'ялы сакратарыяту іспаноўнай рэдакцыі агульнасаюзнай „Гісторыі грамадзянскай вайны“.

і) арганізацыя на фабрыках, заводах, саўгасах, колгасах, часьцях РСЧА, ВНУ і ўстановах ячэек і гурткоў самадзейнасьці і вывучэньня „Гісторыі грамадзянскай вайны на Беларусі“.

4. Усе сабраныя і апрацаваныя мясцовымі камісіямі садзейнасьці „Гісторыі“ матар'ялы: дакумэнты, фотографіі, плякаты, успаміны, дзеньнікі і г. д. дасылаюцца ў сакратарыят „Гісторыі грамадзянскай вайны на Беларусі“ (адрас: Менск, вул. К. Маркса 14, Гістпарт, Сакратарыят ГГВ).

5. Дасылаемыя матар'ялы па ГГВ сакратарыятам аплачваюцца. Друкуемыя матар'ялы аплачваюцца па дагаворанасьці ўласьніка матар'ялу з сакратарыятам ГГВ. Рукапісныя матар'ялы (успаміны, дзеньнікі і г. д.) будуць аплачвацца па меры іх выкарыстаньня ў „Гісторыі“ пасьля надрукаваньня ў зборах.

6. Мясцовым камісіям патрэбна зьвярнуць увагу на тое, каб успаміны ўдзельнікаў адлюстроўвалі сапраўдны малюнак грамадзянскай вайны. Часамі ва ўспамінах грамадзянская вайна даецца як нясупынны рад перамог Чырвонай арміі і няма ні малейшага намёку на тыя ахвяры, тое напружаньне сіл, цяжкія няўдачы і паражэньні, праз якія прайшла армія пролетарыяту перш чым дабіцца канчатковай перамогі.

7. Прыцягнуць да напісаньня ўспамінаў былых удзельнікаў і дзеячоў лягеру контррэволюцыі (членаў контррэволюцыйных нацыяналістычных, буржуазных і дробнабуржуазных партый, як-та: меншавікоў, эсэраў, Бунд, БСГ і інш., салдат і камандзіраў белых армій, удзельнікаў розных банд і інш.). „Апошнім трэба памятаць, што іх запрашаюць ня каяцца ў старых грахох, а толькі дапамагчы асьвятліць гістарычныя здарэньні“ (Максім Горкі).

8. Па зьместу матар'ялы па гісторыі грамадзянскай вайны павінны ахапіць, прыкладна, наступнае кола пытаньняў:

а) соцыяльна-экономічныя ўмовы грамадзянскай вайны і асноўныя політычныя здарэньні пэрыоду. Экономіка раёну, клясавая характарыстыка, нацыянальныя асаблівасьці, палажэньне пролетарыяту, розных пластоў сялянства, рабочы і сялянскі рух, нацыянальна-вызваленчы рух, мясцовая буржуазія, яе арганізацыя, роля нацыянальнай буржуазіі;

б) роля парторганізацый. Чырвоны тыл. Гісторыя парторганізацыі, яе склад, кіраўнікі, работа камітэтаў. Роля жанчын, комсамолу, дзяцей. Дзейнасьць саветаў, рэвкомаў, ЧЭКА, асобых аддзелаў. Жыцьцё і работа на заводзе, на вёсцы, на чыгунцы. Барацьба за транспорт, апал, хлеб. Комуністычныя суботнікі і г. д. Работа продатрадаў, войска ўнутранай службы і г. д.;

в) соцыяльна-экономічная політыка савецкай улады і партыі ў пэрыод „Ста дзён“, Літоўска-Беларускай Савецкай рэспублікі і ў неокупаваных частках Беларусі ў часе нямецкай і белапольскай окупацыі. Ваенная работа. Барацьба з унутранай контррэволюцыяй. Памылкі асобных работнікаў і мясцовых арганізацый у нацыянальным і аграрным пытаньнях;

г) дзейнасьць Чырвонай арміі і чырвоных партызанаў. Фармаваньне атрадаў Чырвонай гвардыі, партызанаў вайсковых частак. Крыніцы комплектаваньня іх. Снабжэньне, узбраеньне, баявая

падрыхтоўка. Політработа ў часьцях, работа політаддзелаў, політработнікаў. Характарыстыка камандзіраў, камісараў, начальнікаў партызанскіх атрадаў, дзейнасьць штабаў. Роля парторганізацый, саветаў, профсаюзаў, асобных пролетарскіх цэнтраў і раёнаў і г. д. у стварэньні рэгулярных партызанскіх часьцей, іх папаўненьне, мобілізацыі на фронт. Баявыя дзействы Чырвонай арміі, дывізій, палкоў, рот, атрадаў.

Пры апісаньні ваенных дзействаў неабходна дакладна ўказваць назву часьцей, атрадаў, буйныя аб'яднаньні, куды часьць уваходзіла, род зброі. Баяздольнасьць, клясавая сьвядомасьць, дысцыпліна. Социяльны склад, умовы фармаваньня, забесьпячэньне. Пры апісаньні баявых эпізодаў патрэбна ўказаць час і месца дзействаў. Пастаноўка выведкі, ахаваньне, сувязь. Якія манэўры былі ўжыты з абодвых змагаючыхся бакоў. Выпадкі героізму, находлівасьці. Трофэі, страты. Прычыны посьпеху і няпосьпеху. Дапамога і перашкоды з боку насельніцтва і г. д.

д) работа падпольных рэволюцыйных арганізацый. Работа і паўстаньне ў тылу ў белых. Узьнікненьне падпольных арганізацый на фабрыцы, заводзе, вёсцы, установе; склад, формы і мэтоды работы, консьпірацыя. Работа па разлажэньню войск белых і бандыцкіх атрадаў, інтэрвэнтаў і г. д. Геройства арганізацый, асобных ліц, ахвяры барацьбы. Сувязь з цэнтрам, з Чырвонай арміяй. Работа іншых рэволюцыйных партый і груп, іх узаемаадносіны з бальшавіцкімі арганізацыямі. Падрыхтоўка ўзброеных выступленьняў, іх ход, вынікі, значэньне;

е) барацьба з адмоўнымі бакамі ў жыцьці чырвонага тылу і фронту. Праяўленьні шкурніцтва, працоўнае дэзэртырства, дэзэртырства з фронту і г. д., іх прычыны, разьмеры, характар. Работа партыйных, савецкіх і профорганізацый па барацьбе са шкурніцтвам, дэзэртырствам. Мэтоды работы, організацыйныя мерапрыемствы, друкаваная і вусная агітацыя, суд, работа атрадаў па барацьбе з дэзэртырствам і бандытызмам;

ж) контррэволюцыйныя змовы, паўстаньні ў тыле, на фронце, факты саботажу, здрадніцтва, здрада ў тылу і на фронце. Дзейнасьць белых арганізацый, памешчыкаў і буржуазіі. Роля духавенства розных веравызнаньняў, сувязь яго з белымі, інтэрвэнтамі, кулацтвам, удзел у змовах, контрэволюцыйная агітацыя. Контррэволюцыйная дзейнасьць меншавікоў, эсэраў, анархістаў, нацыяналістычных партый і груп. Узброеныя паўстаньні, дывэрсійныя акты. Бандытызм. Барацьба з узброенымі выступленьнямі белых і бандытызмам. Выкрыцьцё змоваў, ліквідацыя выступленьняў і г. д.;

з) дзействы белых армій, белых урадаў. Фронт і тыл белых. Социяльна-экономічныя і політычныя прадпасылкі контррэволюцыі ў раёне. Фармаваньне белых часьцей, атрадаў, іх вярбоўка, склад, узбраеньне, падрыхтоўка. Нацыянальнае фармаваньне белых. Адборныя клясавыя часьці. Армія інтэрвэнтаў, склад, настроі і адносіны да белых і чырвоных, да насельніцтва, комсастаў і салдацкая маса. Рабочая, зямельная і нацыянальная політыка окупантаў, нацыяналістычных, буржуазных і дробна-буржуазных партый. Карныя дзействы, белы тэрор, грабеж, разбу-

рэньне, падпальваньні, пагромы на яўрэяў і інш. нац. меншасьці. Хабарства, оргіі. Разлажэньне белых і інтэрвэнтаў, выпадкі перабежак, здачы, паўстаньняў, братаньне, выдачы комскладу;

і) нацыяналістычная контррэволюцыя. Роля анарха-бандыцкага руху. Роля антысавецкіх груп у іх стварэньні і кіраўніцтве. Прамая і ўскосная сувязь з белымі. Дзействы белых партызанаў. Адносіны да розных слаёў насельніцтва. Разлажэньне бандыцкага руху.

9. Камісіям і ячэйкам садзейнасьці „Гісторыі“ асаблівую ўвагу неабходна зьвярнуць на збор матар'ялаў (докумэнтаў, успамінаў і інш.) пра Кастрычніцкую рэволюцыю на Беларусі. Пажадана, каб зьмест докумэнтаў і ўспамінаў ахопліваў па гэтаму пэрыоду, прыкладна, наступныя пытаньні: Лютаўская рэволюцыя на Беларусі і на Заходнім фронце, процэс перарастаньня буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў соцыялістычную ва ўмовах Беларусі, рабочы, сялянскі і нацыянальна-вызваленчы рух. Кастрычнік у горадзе і на вёсцы, барацьба клясаў і партый у дакастрычніцкія і кастрычніцкія дні, барацьба з нацыяналістычнай контррэволюцыяй, стварэньне і дзейнасьць атрадаў Чырвонай гвардыі і Саветаў на Беларусі і г. д.

10. Матар'ялы па Гісторыі грамадзянскай вайны трэба зьбіраць ня толькі аб здарэньнях, якія адбываліся на тэрыторыі БССР, але і ў іншых мясцовасьцях СССР. Усе матар'ялы, не скарыстаныя пры выданьні „Гісторыі грамадзянскай вайны на Беларусі“, будуць адасланы ў Галоўную рэдакцыю для агульнасаюзнай „Гісторыі грамадзянскай вайны“.

11. Пры напісаньні ўспамінаў найбольш мэтазгодна карыстацца формай гістарычнай хронікі—даваць пасьлядоўнае, разьдзельнае апісаньне здарэньняў. Для „Гісторыі“ неабходна даваць „як мага больш жывых, праўдзіва расказаных фактаў“.

12. Работу па зьбіраньню і апрацоўцы матар'ялаў неабходна весьці ўдарным парадкам і закончыць да 1-га мая 1933 году.

*Сакратарыят „Гісторыі Грамадзянскай вайны на Беларусі“.*

В. Самцэвіч

# Як арганізаваць краязнаўчую ячэйку на фабрыцы і заводзе

Асноўнай задачай ў разгортваньні краязнаўчага руху на даным этапе зьяўляецца разгортваньне сеткі краязнаўчых ячэек на прамысловых прадпрыемствах, колгасах і саўгасах і іх арганізацыйнае замацаваньне. Існуючая яшчэ недаацэнка арганізацыйнай работы, арганізацыйнага афармленьня і замацаваньня краязнаўчага руху сярод рабочых і колгасных мас зьяўляецца шкоднай для разгортваньня краязнаўчага руху і соцыялістычнага будаўніцтва.

На кожным прадпрыемстве ёсьць усе належныя прадпасылкі для разгортваньня краязнаўчай работы і арганізацыі краязнаўчых ячэек. Соцспаборніцтва і ўдарніцтва, вытворчыя нарады, рабочае вынаходніцтва і работа рабкораў, удзел рабочых мас у навукова-дасьледчычным руху, разгортваньне культмасавай работы—ствараюць усе падставы для арганізацыі і разгортваньня работы краязнаўчай ячэйкі на кожным прадпрыемстве.

Для арганізацыі краязнаўчай ячэйкі на фабрыцы ці на заводзе перш за ўсё трэба шырока популярызаваць сярод рабочых задачы савецкага краязнаўства, высьвятліць яго практычнае значэньне для соцыялістычнага будаўніцтва наогул, для разьвіцьця нашай прамысловасьці і асабліва для соцыялістычнага будаўніцтва данага прадпрыемства. У мэтах популярызацыі краязнаўчай работы сярод рабочых трэба паказаць практычныя вынікі ўжо праробленай краязнаўчай работы на адным з мясцовых прадпрыемстваў—вывучэньне сыравіннай базы, шляхоў пашырэньня вытворчасьці, рацыяналізацыі, гісторыі прадпрыемства, рэвалюцыйнага руху рабочых на прадпрыемстве, разгортваньня соцспаборніцтва і ўдарніцтва на заводзе і інш., наладзіць краязнаўчую выстаўку, якая-б, напрыклад, адлюстроўвала барацьбу за выкананьне прамфінпляну, вынікі рабочага вынаходніцтва і інш., вывесіць у чырвоным кутку адпавядаючыя лёзунгі, плякаты, дыяграмы і інш. Работу трэба праводзіць па цэхах і пазьменна, у залежнасьці ад мясцовых умоў, у поўнай дагаворанасьці з адміністрацыяй, партыйным і профсаюзным кіраўніцтвам. Для популярызацыі савецкага краязнаўства, яго ролі і значэньня ў соцыялістычным будаўніцтве, у выкананьні прамфінпляну неабходна таксама шырока выкарыстаць завадзкую шматтыражку і цэхавыя насьценныя газэты.

Пры організацыі краязнаўчай ячэйкі на прадпрыемстве ў першую чаргу неабходна абаперціся на фабрычна-завадзкую ячэйку інжынэрна-тэхнічнага складу, рацыяналізатараў і вынаходцаў, на культасьветных працаўнікоў прадпрыемства і на актыўных працаўнікоў вытворчых брыгад, рабкораў і інш. Усю організацыйную работу лепш праводзіць праз культсэктар фабзавкому, пры актыўнай дапамозе мясцовай краязнаўчай організацыі (гарадзкога, раённага бюро краязнаўства і інш.).

Калі ўся падрыхтоўча-організацыйная работа сярод рабочых будзе праведзена і будзе выяўлена зацікаўленасьць краязнаўчай работай з боку рабочых, неабходна прыступіць да організацыі краязнаўчай ячэйкі. Для гэтага трэба правесьці організацыйны сход, абраць бюро ячэйкі (паводле палажэньня аб краязнаучых ячэйках), распрацаваць і зацьвердзіць конкрэтны плян работы, прычым на першых часох плян гэты павінен быць невялікім, простым, тэмы для работы ячэйкі трэба браць найбольш блізкія для рабочых, актуальныя, напрыклад: „Гісторыя нашага заводу“, „Быт рабочых нашага заводу“, „Выкананьне пяцігадовага пляну нашага заводу“, „Соцспаборніцтва і ўдарніцтва на нашым заводзе“ (фабрыцы), „Ажыцьцяўленьне 6 ўмоў тав. Сталіна на нашым заводзе“ і г. д. Кожная з гэтых тэм, зразумела, павінна распрацоўвацца з улікам конкрэтных мясцовых асаблівасьцяў. Павінен быць вызначаны тэрмін выкананьня кожнай тэмы і адказныя выканаўцы. Паасобныя тэмы лепш за ўсё распрацоўваць асобнымі брыгадамі, якія можна выдзеліць з ячэйкі, задачай якой зьяўляецца ўсебаковае вывучэньне свайго прадпрыемства і прылягаючага раёну[1]. Бюро краязнаўчай ячэйкі на заводзе (фабрыцы) павінна паставіць сваёй задачай і імкнуцца да ўцягненьня ў краязнаўчую работу магчыма большага ліку рабочых і ў першую чаргу ўдарнікаў, рабкораў, працаўнікоў вытворчага і культурна-масавага сэктару, вынаходцаў, інжынэрна-тэхнічны склад. Пасьля організацыі ячэйкі на прадпрыемстве неабходна неадкладна-ж наладзіць самую цесную сувязь з гарадзкім ці раённым бюро краязнаўства, заводзкай лябораторыяй, мясцовым краязнаўчым музэем і ўсімі організацыямі свайго прадпрыемства і прыступіць да дасьледчай работы.

Дасьледчая работа краязнаўчай ячэйкі на фабрыцы ці заводзе павінна заключацца ў монографічным апісаньні свайго прадпрыемства, распрацоўцы паасобных з вышэйпералічаных актуальных тэм социялістычнага будаўніцтва, зьбіраньні матар'ялаў па гісторыі свайго заводу і гісторыі грамадзянскай вайны, карыстаючыся спэцыяльнымі програмамі і інструкцыямі па гэтаму пытаньню. Дасьледчая работа можа весьціся брыгадамі і індывідуальна.

Фабрычна-заводзкая ячэйка павінна прымаць актыўны ўдзел па складаньню прамфінпляну і пяцігадовага пляну, карыстаючыся вынікамі сваёй дасьледчай работы і ўносячы ініцыятыўныя, навукова-абгрунтаваныя прапановы.

---

[1] Ячэйка павінна працаваць на аснове „Статуту краязнаўчай ячэйкі“, зацьверджанага прэзыдыумам БАН 19/II-32 г.

Краязнаўчая ячэйка на фабрыцы або заводзе павінна быць перадавой грамадзкай арганізацыяй у правядзеньні гаспадарча-палітычных кампаній, карыстаючыся мэтодамі краязнаўчай работы. На падставе знаёмства з асаблівасьцямі свайго раёну і свайго прадпрыемства і вывучэньня практыкі мінулых гадоў краязнаўчая ячэйка павінна забясьпечваць найбольш пасьпяховае правядзеньне ўсіх гаспадарча-палітычных кампаній, якія праводзяцца партыяй і ўрадам.

# Рэцэнзія

Р. Рак

## Рубільнік—„Некаторыя даныя аб культуры і быце колгасаў БССР“—выданьне БАН, 1931 г. стар. 42, тыр. 3000.

Пытаньне культуры і быту ў колгасах зьяўляецца адным з вельмі актуальных пытаньняў сёнешняга дня. Работы ў гэтым кірунку шмат і сама работа зьяўляецца надзвычайна ўдзячнай. Аўтарам сабрана значная колькасьць досыць цікавага матар'ялу. Аднак, тав. Рубільнік з узятаю на сябе задачаю ня справілася. Ёю дапушчаны рад буйнейшых памылак і непрадуманых формулёвак. Статыстычны матар'ял паданы неахайна. Ніжэй мы адзначым толькі некаторыя з гэтых памылак.

На старонцы 21 вытворчае навучаньне вучняў разглядаецца з пункту гледжаньня выкарыстоўваньня іх ў рабоце колгасаў, што зусім супярэчыць дырэктывам партыі па гэтаму пытаньню.

Надзвычайна путана, а ў радзе месц і зусім няправільна, тлумачацца задачы і сутнасьць політэхнічнае школы.

На стар. восьмай аўтар дагаварыўся да права-опортуністычнага сьцьверджаньня, што ў колгасах, дзе організавана бедната, кулацтва ня можа дзейнічаць супроць колектывізацыі. „У тых месцах, дзе організавана бедната і батрацтва, з імі разам і серадняк, кулацтва ўжо ня толькі ізолявана, але і паралізавана ў сваёй дзейнасьці супроць колектывізацыі“. І далей ні слова—ніякага тлумачэньня данага сказу.

У выніку пасьлядоўнага правядзеньня генэральнае лініі партыі на соцыялістычную рэконструкцыю сельскай гаспадаркі кулацтва разьбіта, з-пад яго выбіта экономічная база. Аднак, гэта ня значыць, што яно зьнішчана, ня значыць, што яно паралізавана ў сваёй дзейнасьці супроць колектывізацыі. Рэшткі разьбітага кулацтва актыўна вядуць барацьбу супроць колектывізацыі як па-за колгасамі, так і ў саміх колгасах. Аналіз дрэннай работы паасобных колгасаў заўжды паказвае, што бяз удзелу кулакоў або іх агентаў ў падобных выпадках справа не абыходзіцца. Кулацтва без барацьбы сваіх позыцый не здае. Таму гаварыць, што пры організаванасьці беднаты кулацтва паралізавана ў сваёй дзейнасьці супроць колектывізацыі, значыць, змазваць сутнасьць справы — адмаўляць наяўнасьць клясавай барацьбы, на справе дапамагаць клясаваму ворагу.

З толькі што разгледжанай вытрымкі аўтар робіць вельмі недарэчны вывад. Ён зазначае, што „наогул выкананьне задач соцыялістычнай рэконструкцыі залежнць ад організаванасьці беднаты, батрацтва і колгасьнікаў“. Зразумела—залежыць, але ў якой ступені? Як гэта залежнасьць зьдзяйсьняецца? Вось што трэба паказаць. А аўтар-жа нідзе ніводным словам не ўпамінае што асноўнай базай соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі зьяўляецца цяжкая прамысловасьць і што без station-ўчага вырашэньня яе нельга гаварыць аб соцрэконструкцыі сельскае гаспадаркі.

Падобнага характару формулёўка маецца і на першай старонцы. Тут мы чытаем: „Толькі такім шляхам—падвышаючы свой культурны ровень, аграмаджаны сэктар скрозь атрымлівае перамогу над сэктарам прыватна-гаспадарчым, дробна-таварным і капіталістычным.“ Перш за ўсё трэба адзначыць, што аўтар напэўне ня ведае значэньня ўжытых ім тэрмінаў „прыватна-гаспадарчы, дробна-таварны і капіталістычны“. Дзікая клясыфікацыя!

Сьцьвярджэньне аўтара зьяўляецца памылковым і па сутнасьці. Наяўнасьць пролетарскай дзяржавы. наліччa ўлады ў руках пролетарыяту і пасьлядоўнае правядзеньне ленінскай політыкі ва ўсіх галінах будаўніцтва соцыялізму—вось, што дало магчымасьць вырашыць пытаньне „хто-каго“ на карысьць соцыялізму як у горадзе, так і ў вёсцы. Зразумела, мы не адмаўляем значэньня падвышэньня культурнага роўню ў справе соцыялістычнага будаўніцтва, але з усёй рашучасьцю зазначаем, што лічыць гэты момант рашаючым, адзіным ёсьць недарэчнасьць.

Прыкладам блытаніны, супярэчнасьці зьяўляецца чацьвертая старонка. У першых радкох гэтае старонкі пішацца, што соцыялістычны наступ па ўсяму фронту стварыў рашаючую перамогу соцыялістычных элемэнтаў над капіталістычнымі ва ўсіх галінах народнае гаспадаркі.

Наступны-ж радок гаворыць зусім аб іншым. Тут мы чытаем: „У сельскай гаспадарцы, дзе яшчэ пераважае дробная індывідуальная таварная гаспадарка, якая параджае капіталізм... і г. д.“

Далей гаворыцца аб неабходнасьці рашучага змаганьня з капіталістычнымі элемэнтамі і, нарэшце, аўтар зазначае: „Клясавы вораг— кулак—з новай сілай і злосьцю спрабуе даваць адпор нябачанаму дагэтуль руху, які цяпер і прывёў да карэннай зьмены суадносін клясавых сіл ў краіне“. Аб тым, у які бок зьмяніліся клясавыя суадносіны—нічога не гаворыцца. Пачатак-жа абзаца, адкуль узята цытата, гаворыць аб перавазе ў сельскай гаспадарцы не соцыялістычных элемэнтаў. У выніку напрашваецца зусім недарэчны вывад. Нарэшце, з тэксту зусім ня відаць хто прывёў да карэннай зьмены суадносін—клясавы вораг, кулак або нябачны дагэтуль рух. Падобная пісаніна недапушчальна.

У брошуры ёсьць многа недакладных формулёвак і супярэчлівых месц (гл. ст. ст. 4, 5, 6, 7, 8, 12 і інш.).

Толькі неахайнасьцю можна растлумачыць сьцьвярджэньне аўтара, што ў 1921-м годзе існавала „Расія“. (стар. 5).

У радзе месц маюцца формулёўкі паклёпніцкага, контррэволюцыйнага характару (гл. ст. 26, 29, 39). На стар. 39 аўтар прыводзіць

заўвагу напэўна якой-небудзь адсталай комунаркі, а мо' і клясавага ворага і гэту заўвагу абагульняе—распаўсюджвае на ўсіх комунарак. У выніку атрымліваецца наступная рэч: „Ва ўсім іншым (раней гаварылася аб тым, што комунаркі атрымліваюць 2-х месячны адпачынак па цяжарнасьці, чаго ня маюць жанчыны індывідуальных гаспадарак),—*Р.Р.*) скардзяцца комунаркі—становішча ня толькі не палепшылася, але нават пагоршылася, з прычыны таго, што апрача агульных работ нам прыходзіцца яшчэ мець справу з кухняю і сям'ёю". Падобнага характару разважаньні зусім не адпавядаюць сапраўднасьці і зьяўляецца вельмі шкоднымі. Ужо адзін факт росту дзіцячых установ ў абагуленым сэктары, рост грамадзкага харчаваньня і іншыя моманты, што адзначаны ў розных месцах і самім аўтарам, гаворыць аб неадпаведнасьці прыведзеных слоў сапраўднасьці. Замест таго, каб пакаваць клясавую сутнасьць падобных развважаньняў, аўтар паплёўся ў хвасьце.

У брошуры прыведзены рад табліц. Пры гэтым трэба адзначыць, што належных вывадаў з іх ня зроблена. У паасобных выпадках вывады не адпавядаюць фактычным даным (стар. 6-7). На стар. 14 маецца вывад, процілеглы фактычнаму матар'ялу. Табліца на стар. 8 прадстаўляе з сябе прыклад недарэчнасьці. У адной і той-жа табліцы напісана, што ў БССР маецца 306 і 4.862 яўрэйскіх колгасаў і, што ў гэтых колгасах налічваецца 1.732 яўрэйскіх сям'і. Колгасных сем'яў ў аўтара вышла менш, чым самых колгасаў.

Нарэшце, мы ня можам не адзначыць і раду недахопаў з боку мовы. Маюцца досыць недарэчныя новатворы, як напрыклад, „завадыяшы", замест „ініцыятары". Дзеці „дакладаюцца да дысцыпліны" замест „дысцыплінуюцца" або прывучаюцца да дысцыпліны і інш. Шмат маецца стылістычна не апрацаваных сказаў, дзякуючы чаму прыходзіцца дагадвацца аб сэнсе таго ці іншага сказу.

У выніку трэба констатаваць, што напісаная т. Рубільнік брошура зьяўляецца шкоднай і выданьне яе трэба лічыць палітычнай памылкай.

# ОФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

## Усім начальнікам геолёгаразьведачных партый і атрадаў, раённым бюро краязнаўства, райсаветам Т-ва пролетарскага турызму

Вывучэньне мінэральнай сыравіны для прамысловасьці другой пяцігодкі зьяўляецца баявой і ўдарнай задачай усіх краязнаўчых організацый і організацый пролетарскага турызму. Ударнасьць гэтае работы выцякае з пастаноў XVII партконфэрэнцыі і пастановы СНК БССР і ЦК КП(б)Б пра асноўныя ўстаноўкі па складаньню плянаў другой пяцігодкі. Усім краязнаўчым організацыям і організацыям пролетарскага турызму БССР даны конкрэтныя ўказаньні і заданьні па разгортваньню масавай дасьледчай работы, па вывучэньню мінэральнай сыравіны ў сваім раёне і аб уцягненьні шырокіх мас краяведаў, турыстаў, комсамольцаў, настаўнікаў, студэнцтва, вучняў, школ у масавы Усесаюзны дасьледчы паход, які праводзіцца ў гэтым годзе. Між тым, да гэтага часу ні організацыі пролетарскага турызму, ні краязнаўчыя організацыі не разгарнулі шырокай работы па ўцягненьню мас у дасьледваньне мінэральнай сыравіны. Толькі асобныя організацыі Т-ва пролетарскага турызму (Віцебск, Менск, Гомель) выслалі па аднэй-дзьве дасьледчай групе па намечаным маршрутам. Такое становішча пагражае зрывам у справе вывучэньня мінэральнай сыравіны БССР.

Белгеолёгаразьведка, Цэнтральнае бюро краязнаўства і Беларускі савет Т-ва пролетарскага турызму ставяць перад краязнаўчымі організацыямі і організацыямі пролетарскага турызму задачу мобілізаваць усе сілы для неадкладнага вывучэньня сыравіны ў сваіх раёнах, для чаго: а) усе геолёгаразьведачныя органы на мясцох, бюро і ячэйкі краязнаўства, райсаветы і ячэйкі пролетарскага турызму павінны зараз-жа наладзіць самую цесную сьвязь у справе організацыі вывучэньня мінэральнай сыравіны; б) на падставе дырэктыў партыі, пастановы СНК БССР і інш. неадкладна паставіць пытаньне перад РВК, РК КП КП(б)Б, РК ЛКСМБ, райпрофсаветам і інш. організацыямі аб фактычнай дапамозе ў справе правядзеньня дасьледчага паходу (груп, брыгад, дасьледчых масовак); в) правесьці ў бліжэйшы час дасьледчы паход (дасьледчыя экспэдыцыі групамі, брыгадамі і г. д.) па вызначаным Белгеолёгаразьведкай, ЦБК, Белсаветам Т-ва пролетарскага турызму маршрутам, асабліва па р. Сож (організацыі Гомелю, Веткі, Кармы, Прапойску, Чэрыкава, Крычава і інш.), Дняпру (організацыі Дуброўны, Воршы, Шклова, Магілева, Быхава, Рагачова, Жлобіна, Рэчыцы) і р. Пціч (організацыі: Асіповіцкая, Ст.-Дароская, Глуская, Капаткевіцкая, Менская і інш.); г) наладзіць сувязь з адпаведнымі цэнтральнымі установамі (Белгеолёгаразьведка, ЦБК, Белсавет ТПТЭ), куды даслаць усе інформацыі, узоры, справаздачы і г. д. і куды можна зварачацца за ўсімі запытаньнямі і за консультацыяй: д) начальнікі геолёгаразьведачных партый на мясцох павінны аказваць усякую дапамогу краязнаўцам і турыстам у організацыі вывучэньня мінэральнай сыравіны ў адпаведных раёнах, дапамагаючы ім матар'яльна.

Белгеолёгаразьведка, ЦБК і Белсавет ТПТЭ упэўнены, што мясцовыя організацыі ацэняць усю важнасьць і тэрміновасьць вывучэньня мінэральнае сыравіны ў кожным раёне БССР і выканаюць вялікую задачу разьведкі сыравінных рэсурсаў нашай краіны, вызначаную партыяй і ўрадам.

Лепшыя дасьледчыя групы і лепшыя дасьледчыкі будуць прэміяваны, а найбольш выявіўшыя сябе ў дасьледчым паходзе таварышы будуць накіраваны за кошт Белгеолёгаразьведкі ў Геолёгаразьведачны ін-т і ў завочны Геоэразьведачны ін-т.

Белгеолёгаразьведка

Цэнтральнае Бюро Краязнаўства

Беларускі савет Т-ва пролетарскага турызму і экскурсій.

# Усім краязнаўчым арганізацыям

Дарагія таварышы!

Набліжаецца XV гадавіна Кастрычнікаўскай рэволюцыі. Краязнаўчыя арганізацыі, як масавыя пролетарскія арганізацыі, павінны неадкладна ўключыцца ў падрыхтоўку рабочае клясы і ўсіх грамадзкіх арганізацый да сьвяткаваньня вялікай гадавіны. Падрыхтоўка гэта павінна праводзіцца пад лёзунгам актыўнага ўдзелу ўсіх краязнаўчых арганізацый (РБК, ячэек, музэяў) і кожнага краяведа паасобку ў пасьпяховым завяршэньні 4-га заключнага году першай пяцігодкі, у барацьбе за выкананьне і перевыкананьне прамфінпляну свайго прадпрыемства, саўгасу, колгасу і плянаў соцыялістычнага будаўніцтва свайго раёну, за ўзмацненьне абароназдольнасьці краіны, за актыўны ўдзел у плянаваньні, у вывучэньні энэргетычных і сыравінных рэсурсаў свайго раёну для прамысловасьці 2-ой пяцігодкі, за максымальнае разгортваньне краязнаўчага руху і поўнае выкананьне плянаў сваёй работы на аснове соцыялістычных мэтодаў работы.

Плян падрыхтоўкі і правядзеньня XV гадавіны Кастрычніка кожнай краязнаўчай арганізацыі павінен быць узгоднены і ўключаны ў плян сьвяткаваньня на прадпрыемстве, у саўгасе, колгасе, школе, раёне.

Кожная краязнаўчая ячэйка і краязнаўчы музэй павінны:

а) прыняць актыўны ўдзел у правядзеньні ўдарных гаспадарча-палітычных кампаній г.г.: уборачнай, загатоўчай, пасяўной і інш., карыстаючыся мэтодамі краязнаўчай работы;

б) уключыцца ў правадзімую ўсебеларускую вытворчую пераклічку к XV гадавіне Кастрычніка, выявіць усе магчымасьці і дабіцца выкарыстаньня мясцовых рэсурсаў для поўнага выкананьня і перавыкананьня прамфінпляну свайго прадпрыемства, саўгасу, папулярызаваць і перанесьці практыку і дасягненьні лепшых заводаў, цэхаў, брыгад, саўгасаў у іншыя прадпрыемствы;

в) арганізаваць лекцыі, даклады, якія-б паказалі на мясцовым конкрэтным матар'яле героічную барацьбу пролетарыяту за заваяваньне і ўтрыманьне пролетарыятам улады, дасягненьні ў гаспадарчым і нацыянальна-культурным будаўніцтве краіны і мобілізавалі працоўныя масы на далейшае выкананьне задач, пастаўленых партыяй і ўрадам;

г) правесьці краязнаўчыя вечары і зьлёты на прадпрыемствах, у колгасах, саўгасах, часьцях Чырвонай арміі, школах у мэтах папулярызацыі ролі і задач савецкага краязнаўства ў вырашэньні вялізарнейшых задач другой пяцігодкі, выкарыстоўваючы гэтыя вечары і зьлёты для арганізацыі краязнаўчых ячэек і замацаваньня іх;

д) арганізаваць і ўзмацніць вывучэньне энэргетычных і сыравінных рэсурсаў раёну і розных галін соцыялістычнага будаўніцтва свайго прадпрыемства, колгасу, раёну і паказаць дасягненьні ў насьценных газэтах, шматтыражках, раённым і цэнтральным пэрыодычным друку;

е) для надрукаваньня ў „Савецкай Краіне", асобнымі выданьнямі і зборнікамі падрыхтаваць матар'ялы, якія-б характарызавалі дасягненьні ў соц. будаўніцтве свайго раёну к XV гадавіне (у прыватнасьці дасягненьні ў разгортваньні краязнаўчага руху).

ЦБК ставіць абавязкам кожнай краязнаўчай арганізацыі—кожнай ячэйкі, музэю, раённага бюро—прыняць актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзеньні XV гадавіны Кастрычнікаўскай рэволюцыі—вялікага сьвята рабочае клясы і ўсёй пролетарскай грамадзкасьці.

К 21 лістапада ўсе РБК павінны прыслаць у ЦБК справаздачы аб удзеле краязнаўчых арганізацый у сьвяткаваньні XV гадавіны Кастрычнікаўскай рэволюцыі.

ЦБК будзе выданы сцэцыяльны юбілейны нумар „Савецкай Краіны", матар'ялы для якога трэба безадкладна даслаць у рэдакцыю часопісу.

Старшыня ЦБК Шырай

Навуковы Сакратар В. Самцэвіч

# ХРОНІКА

## Работа ЦБК у ліпні — верасьні 1932 году

На працягу ліпня—верасьня месяцаў у ЦБК праведзена наступная работа:

1. Праведзена абсьледваньне і інструктаваньне краязнаўчай работы ў Койданаўскім, Дубровенскім, Аршанскім, Шклоўскім, Рагачоўскім, Жлобінскім, Лёзьненскім, Сураскім і Гарадокскім раёнах. На мясцох аказана належная дапамога ў складаньні конкрэтных плянаў работы РБК, у організацыйным аформленьні і замацаваньні нізавой краязнаўчай сеткі і разгортваньні плянавай сыстэматычнай масавай навукова-дасьледчай краязнаўчай работы ў адпаведнасьці з практычнымі задачамі соцыялістычнага будаўніцтва.

2. На настаўніцкіх конфэрэнцыях у Чэрвеньскім, Вузьдзенскім і Копыльскім раёнах прадстаўнікі ЦБК зрабілі даклады аб зьмесьце і формах краязнаўчай работы ў школах і апрача таго правялі інструктаваньне раённых бюро краязнаўства ў пералічаных раёнах.

3. ЦБК прыняла ўдзел у работах Палескай комплекснай экспэдыцыі, праведзенай Усесаюзнай і Беларускай Акадэмямі Навук на тэрыторыі Петрыкаўскага, Тураўскага, Жыткавіцкага і Лельчыцкага раёнаў. У складзе экспэдыцыі ад ЦБК прымаў удзел т. Кулакоў, які займаўся вывучэньнем краязнаўчага руху і нацыянальна-культурнага будаўніцтва.

4. Распрацаваны проект пастановы Колегіі НКА БССР па разгортваньню школьнага краязнаўчага руху.

5. Распрацаваны і разасланы на месцы інструкцыйны матар'ял адносна ўдзелу краязнаўчых організацый у падрыхтоўцы і сьвяткаваньні XV гадавіны Кастрычніцкай рэволюцыі.

6. У мэтах выяўленьня практыкі работы раённых бюро краязнаўства і краязнаўчых ячэек на прадпрыемствах, у колгасах, савгасах і школах і шырокай популярызацыі савецкага краязнаўства сярод шырокіх працоўных мас, а таксама ўзмацненьня краязнаўчай работы на мясцох—абвешчаны па БССР двухтыднёвік (у верасьні) агляду краязнаўчай работы. Раённым бюро краязнаўства даны адпаведныя паказаньні ў гэтым кірунку.

7. Праведзена дасьледваньне вынікаў культуры вінаграду ў Рагачове настаўнікам краяведам У. Ю. Руткоўскім. У ЦБК была організавана выстаўка 6 гатункаў вінаграду, вырашчанага т. Руткоўскім. Вынікі досьледаў популярызаваны праз цэнтральны друк БССР (газ. „Савецкая Беларусь", „Чырвоная Зьмена").

8. Выданы зборнік program і інструкцый па краязнаўству, у якім зьмешчана палажэньне аб раённым краязнаўчым бюро, статут краязнаўчай ячэйкі і 11 програм і інструкцый па актуальным пытаньням краязнаўчай работы.

9. ЦБК прыступіла да організацыі сталых краязнаўчых бібліотэк пры Рагачоўскім, Сіроцінскім, Тураўскім, Віцебскім і Петрыкаўскім РБК. З паказанымі РБК будуць заключаны адпаведныя дагавары на сыстэматычнае комплектаваньне іх краязнаўчай літаратурай з боку ЦБК і разгортваньне сталай работы ў бібліотэках па лініі РБК.

10. Выданы № 6 часопісу „Савецкая Краіна", друкуецца № 7-8, прысьвечаны школе, і падрыхтаваны да друку № 9.

## Экспэдыцыйная работа Інстытуту біолёгічных навук БАН у 1932 г.

За летнія і восеньскія месяцы бягучага году Інстытутам біолёгічных навук праведзены цэлы рад навуковых экспэдыцый. Некаторыя з гэтых экспэдыцый ужо закончаны і магчыма зараз хоць у кароценькіх рысах падзяліцца вельмі каштоўнымі вынікамі іх работы. Ужо закончаны наступныя экспэдыцыі: 1) экспэдыцыя па вывучэньню паркаў БССР; 2) першая група гельмінтолёгічнай экспэ-

дыцыі; 3) экспэдыцыя па вывучэньню захворваньняў бульбы; 4) экспэдыцыя па вывучэньню шкоднікаў (эктапаразытаў) буйной рагатай жывёлы. Яшчэ працягваецца работа наступных экспэдыцый: 5) другой групы гельмінтолёгічнай экспэдыцыі і 6) па вывучэньню флёры Дзяржзапаведніка.

Экспэдыцыя па вывучэньню паркаў БССР праводзілася на сродкі Акадэміі, вызначана было на гэту экспэдыцыю 2.400 рубл. Работу праводзілі 4 навуковых працаўнікі: Чарнянкоў, Выдрыцкі, Новікаў і Адамаў. Кіраўніком экспэдыцыі быў тав. Чарнянкоў. Экспэдыцыя сабрала шмат карыснага матар'ялу, абсьледваўшы паркі 15-ці паўднёвых раёнаў БССР. У часе экспэдыцыі дасягнута дагаворанасьць на мясцох аб зборы насеньня ад каштоўных экзотаў. Насеньне гэта будзе перасланa батанічнаму саду нашай Акадэміі, дзе будзе скарыстана для распаўсюджаньня гэтых дрэў і далейшага ўнядрэньня больш каштоўных парод экзотаў у практыку лесааднаўленьня, а таксама для азеляненьня гарадоў, рабочых пасёлкаў, савгасаў і колгасаў.

Першая група гельмінтолёгічнай экспэдыцыі праводзілася працаўнікамі Віцебскага Вэтэрынарнага інстытуту. Удзельнічала 6 чалавек. Адпушчана было сродкаў 5.000 рубл. Матар'ялы гэтай экспэдыцыі яшчэ не атрыманы Біолёгічным інстытутам.

Вельмі значныя посьпехі маюцца ад экспэдыцыі па абсьледваньню захворваньняў бульбы. Экспэдыцыя праводзілася пад кіраўніцтвам вучонага спэцыяліста тав. Дарожкіна. Удзельнічала 36 чалавек. Адпушчана сродкаў НКЗ БССР і карантынным кіраўніцтвам АБШ пры НКЗ СССР—39.000 рубл. Абсьледвана 37 раёнаў, у іх 194 сельсаветы, 719 савгаскіх і колгасных гаспадарак, з плошчай 26.671,7 га.

Мэтай экспэдыцыі было ўстанавіць межы распаўсюджаньня парошыстай паршы, як карантыннай хваробы, а таксама высачыць, ці маюцца ў нас у БССР такія карантынавыя хваробы і шкоднікі, як бульбяны рак, колёрадзкі жук і бульбяная моль. Побач з гэтым выяўлялася шкоднасьць распаўсюджаных хвароб. Такія захворваньні як бульбяны рак, колёрадзкі жук і бульбяная моль у часе абсьледваньня ня знойдзены. Парошыстая парша знойдзена ў наступных раёнах: Бягомльскім, Лельчыцкім, Тураўскім, Гомельскім, Старобінскім, Капыльскім, Чырвона-Слабодзкім, Плешчаніцкім, Заслаўскім, Узьдзенскім, Пухавіцкім, Менскім і Асьвейскім.

На падставе матар'ялаў г. г. і мінулых гадоў тав. Дарожкіным рыхтуецца работа „Характарыстыка захворваньняў бульбы ў БССР і мерапрыемствы па барацьбе з імі ў другой пяцігодцы". Папярэднія вынікі работы экспэдыцыі заслуханы колегіяй НКЗ БССР, якая прыняла ўжо рад практычных мерапрыемстваў па барацьбе з захворваньнямі ў часе ўборкі бульбы ў савгасах і колгасах.

У экспэдыцыі па вывучэньню шкоднікаў (экзопаразытаў) буйной рагатай жывёлы ў савгасе „Перамога социялізму" Хойніцкага раёну ўдзельнічала 4 чалавекі. Экспэдыцыя пад кіраўніцтвам т. Сяргеевай-Булаўка праводзілася на сродкі Акадэміі. Экспэдыцыяй зроблена 2.500 аглядаў буйной рагатай жывёлы,—на кляшчоў і лічынак аваднёў. Сабрана 5—6 тыс. кляшчоў. Контрольны агляд жывёлы праводзіўся некалькі разоў за лета. Знойдзены 4 віды кляшчоў. Выяўлена, што заклешчваньне жывёл прыпадае, галоўным чынам, на май і пачатак чэрвеня. У ліпні заклешчваньне падае да 0 і з палову жніўня проц. зноў павышаецца і даходзіць да 70. Процант заклешчваньня залежыць ад масьці кароў. Вывучалася біолёгія кляшчоў і мэтоды барацьбы з імі. Былі ўжыты розныя сродкі для зьнішчэньня гэтых шкоднікаў. Узяты цэлы рад масkоў крыві жывёл, што дасьць магчымасьць выявіць узбуджальнікаў піраплязмолізу (крывавай мачы). Ужыты меры барацьбы з лічынкамі скуранога авадня. Апрача таго, вялося вывучэньне біолёгіі і эколёгіі малярыйнага камара. Праведзена некалькі гутарак з насельніцтвам аб шкодніках буйной рагатай жывёлы.

Другая група экспэдыцыі ў складзе 3 чалавек па вывучэньню гельмінтолёгічных захворваньняў дамашняй жывёлагадоўлі заканчвае сваю работу ў савгасах і колгасах Бабруйшчыны (база савгас „Бацэвічы").

Экспэдыцыя па вывучэньню дзяржаўнага запаведніка, якая толькі нядаўна прыступіла да работы, мае на мэце высьветліць існуючыя фітоцэнозы запаведніку, што дасьць магчымасьць устанавіць умовы разьвіцьця і размнажэньня раду каштоўных зьнікаючых у БССР відаў дзікай паляўнічай і прамысловай фаўны, як бабёр, казуля, лось, норка і інш. Работа праводзіцца пад кіраўніцтвам гео-батаніка Біолёгічнага ін-ту БАН тав. Міхайлоўскай.

Аб экспэдыцыйнай рабоце Інстытуту біолёгічных навук у 1932 г. наогул неабходна сказаць, што экспэдыцыі былі належным чынам організаваны, укомплектаваны добра падрыхтаванымі навуковымі работнікамі, а таму і посьпехі маюцца

відавочныя. Гэтыя посьпехі зьяўляюцца рэальнай дапамогай нашаму социялістычнаму будаўніцтву.

А. Поляк.

## Што робіцца ў раёнах па краязнаўству

*(Паводле інформацый з месц)*

У Старобінскім раёне краязнаўчая організацыя ў сваім складзе налічвае да 225 чалавек. Організавана 6 краязнаўчых ячэек. Праведзена некаторая работа па вывучэньню карысных выкапняў у раёне. Сабрана для музэю 45 экспонатаў па прамысловасьці сельскай гаспадаркі раёну, 30—для зоолёгічных колёкцый, 8 для глебазнаўчай колекцыі і гэрбарных—29 экспонатаў.

У мэтах популярызацыі савецкага краязнаўства зроблена 5 дакладаў на сходах профсаюных, колгасных і інш., напісана 6 заметак у мясцовы насьценны друк.

Зразумела, што гэтая работа яшчэ далёка не дастаткова ў параўнаньні з тымі вялікімі запатрабаваньнямі, якія прад'яўляюцца краязнаўчым організацыям на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва. Старобінскаму бюро краязнаўства трэба максымальна ўзмацніць тэмпы сваёй работы, падпарадкаваўшы яе практычным задачам соцыялістычнага будаўніцтва ў раёне. У прыватнасьці неабходна зараз-жа прыступіць да організацыі краязнаўчай бібліотэкі, да забясьпечаньня ячэек неабходнай мэтодычнай літаратурай па краязнаўству, да распаўсюджваньня часопісу „Савецкая Краіна", якога, на вялікі жаль, ня выпісвае нават само раённае бюро краязнаўства. Таксама неабходна зьвярнуць вялікую ўвагу на разгортваньне школьнага краязнаўчага руху, які ў раёне зусім яшчэ не разгорнуты.

У Рагачэўскім раёне па лініі бюро краязнаўства і райпляну заканчваецца складаньне географічна-экономічнага апісаньня Рагачэўскага раёну.

Для ўзмацненьня работы РБК вылучаны спэцыяльны платны работнік па краязнаўству.

У Рэчыцкім раёне краязнаўчая ячэйка пры Пэдтэхнікуме правяла досьледы над вырашчваньнем соі і іншых новых тэхнічных культур. Вынікі досьледаў апрацоўваюцца і будуць апублікаваны ў адным з чарговых нумароў „Савецкая Краіна". Старшыня ячэйкі тав. Кузьмянкоў у выкананьні сваіх ударніцкіх абавязкаў склаў апісаньне колгасу імя Сталіна Васілеўскага сельсавету, Рэчыцкага раёну. Ячэйка заснавала невялічкі краязнаўчы музэй пры Пэдтэхнікуме.

У Пятрыкоўскім раёне склад раённага бюро краязнаўства ўзмоцнены новымі кіраўнікамі і, апрача таго, адпушчаны сродкі прэзыдыумам РВК на ўтрыманьне платнай адзінкі ў бюро краязнаўства. Бюро прыступіла да організацыйнага афармленьня краязнаўчай сеткі па раёну.

У Гарадоцкім раёне організавана раённае бюро краязнаўства на чале з старшынёю бюро тав. Мэданікам (старшыня райпляну РВК). Бюро распрацавала конкрэтны плян работы і прыступіла да організацыі краязнаўчай сеткі ў раёне. Чарговымі задачамі ў рабоце бюро, апрача організацыі краязнаўчых ячэек, зьяўляецца падшуканьне памяшканьня для краязнаўчага музэю і адшуканьне сродкаў на разгортваньне краязнаўчай работы. Па гэтаму пытаньню бюро ўзьняла адпаведнае хадайніцтва перад прэзыдыумам РВК.

Мсьціслаўскае раённае бюро краязнаўства прыступіла да організацыі сталай краязнаўчай бібліотэкі.

За бязьдзейнасьць Аршанскага раённага бюро краязнаўства і краязнаўчага музэю склад бюро пастановай сакратарыяту Аршанскага РК КП(б)Б ад 26 жніўня б. г. распушчаны і справа перадана на расьсьледваньне РКК і РСІ. Загадчыку аддзелам народнай асьветы тав. Забеліну даручана падабраць новы склад бюро краязнаўства і забясьпечыць разгортваньне плянавай і сыстэматычнай работы ў раёне.

У цэлым радзе раёнаў за апошнія часы разгорнута падпіска на часопіс—„Савецкая Краіна" і асабліва па школах. У паасобных раёнах гэтая падпіска дасягнула наступных лічбаў:

| | | |
|---|---|---|
| Па Веткаўскаму раёну | 176 | экз. |
| „ Клімавіцкаму | 122 | „ |
| „ Крупскаму | 122 | „ |
| „ Горацкаму | 121 | „ |
| „ Капыльскаму | 105 | „ |
| „ Мсьціслаўскаму | 100 | „ |
| „ Дубровенскаму | 99 | „ |
| „ Дрысенскаму | 83 | „ |
| „ Менскаму | 65 | „ |
| „ Тураўскаму | 62 | „ |
| „ Любаньскаму | 54 | „ |
| „ Уваравіцкаму | 21 | „ |
| „ Жлобінскаму | 21 | „ |
| „ Віцебскаму | 19 | „ |
| „ Гомельскаму | 18 | „ |

Але побач з гэтым мы маем цэлы рад раёнаў, дзе часопіс „Савецкая Краіна" выпісваецца толькі адзінкамі і, горш таго, такія раёны як: Быхаўскі, Камарынскі, Каралінскі, Кармянскі, Крычаўскі, Парыцкі, Прапойскі, Старобінскі, Сураскі,

Хойнікі і Шклоўскі—зусім ня ведаюць аб ім, бо ў гэтыя раёны ні адзін экзэмпляр „Савецкай Краіны“ ня трапіў. Зразумела, што тлумачыць гэта можна толькі бязьдзейнасьцю раённых бюро краязнаўства, на абавязку якіх у першую чаргу ляжыць займацца справай распаўсюджваньня часопісу. Ня можна пахваліць і аддзелы народнай асьветы паказаных раёнаў у гэтых адносінах, якія таксама павінны цікавіцца гэтай справай.

Т. Кулакоў.

## Вынікі абсьледваньня становішча краязнаўчай работы ў Копыльскім, Узьдзенскім і Койданаўскім раёнах

26/VIII-1932 г. на Копыльскай настаўніцкай конфэрэнцыі зроблены даклад аб задачах савецкага краязнаўства і разьгортваньні краязнаўчай работы ў раёне. Настаўніцтва зразумела неабходнасьць аўладаньня мясцовым матар'ялам свайго раёну, як падсобным пры выкладаньні ў школах і ўзяло на сябе абавязкі разгарнуць краязнаўчую работу ў раёне і ўцягнуць у яе масы працоўных: колгасьнікаў, рабочых, вучняў, спэцыялістаў і г. д. Пастановай райкому партыі створана оргбюро краязнаўства ў складзе тт.: Кныш — старшыня бюро, Шчысьлёнак, Хатэнка. Бюро выпрацавала плян работы да канца 1932 году.

Прадстаўнік ЦБК дагаварыўся з старшынёю РВК аб пастаноўцы на чарговым паседжаньні прэзыдыуму РВК дакладу т. Кныша аб разгортваньні краязнаўчай работы ў раёне, зацьверджаньні складу Райбюро і пляну яго работы і аб водпуску сродкаў на забесьпячэньне выкананьня гэтага пляну.

Устаноўлена сувязь з раённай газэтай „Колгасьнік Копыльшчыны“, рэдакцыя якой будзе дасылаць у „Савецкую краіну“ матар'ялы. Пры райАНА маецца шмат літаратуры, якую раней высылала ЦБК, але гэта літаратура бяз усякага нагляду валялася па шафам, па корыдорам і організавана ніхто ёю не карыстаўся. Райбюро паставіла перад сабою мэту організаваць краязнаўчы аддзел пры раённай бібліотэцы.

У Узьдзенскім раёне ў пэрыод 1925-28 г.г існавала краязнаўчае таварыства, якое займалася краязнаўчай работай і ўцягнула ў гэтую работу настаўнікаў і вучняў. Ім быў організаваны раённы краязнаўчы музэй і выдаваўся раённы краязнаўчы часопіс „Вір“. У 1929 годзе краязнаўчая работа з прычыны выезду з раёну актыўных работнікаў краязнаўчага таварыства спынена.

Краязнаўчы музэй разбураны і ніякай краязнаўчай работы да гэтага часу ў раёне не праводзілася. Райінспэктар асьветы т. Папкоўскі ў 1931 г. рабіў спробу організаваць краязнаўчую работу, выпрацаваў плян гэтай работы, які ахапляў усе бакі краязнаўчай работы і разаслаў яго па ўсім школам, але далей гэтага пляну справа не пайшла.

28/VIII-1932 г. на раённай настаўніцкай конфэрэнцыі быў пастаўлены даклад аб задачах і разгортваньні савецкага краязнаўства ў раёне. Конфэрэнцыя прыняла рэзолюцыю, у якой адзначае неабходнасьць шпаркага разгортваньня краязнаўчай работы па раёну, неабходнасьць організацыі ячэек пры ўсіх сямігодках, колгасах, саўгасах і прадпрыемствах і організацыю дасьледчай работы па вывучэньню свайго раёну, каб вынікі гэтай работы скарыстаць у практыцы соцбудаўніцтва. Конфэрэнцыя выклікала на соцспаборніцтва Койданаўскі раён на лепшае разгортваньне краязнаўчай работы і выбрана райбюро краязнаўства з сямі таварышоў у наступным скдадзе: тав. Халецкі (старшыня), т. Даршчыц (сакратар), т. Аксэльрод (скарбнік) і тт. Чырман, Махнач, Шпакоўскі і Папкоўскі. Бюро на сваім першым паседжаньні пастанавіла: даручыць тав. Папкоўскаму паставіць на чарговым паседжаньні прэзыдыуму РВК пытаньне аб разгортваньні краязнаўчай работы ў раёне, аб зацьверджаньні складу райбюро краязнаўства, зацьверджаньні пляну работ і асыгнаваньні сродкаў на яго выкананьне. На гэтым-жа паседжаньні Райбюро выпрацавала плян работы па краязнаўству ў раёне да канца бягучага году.

У Койданаўскім раёне таксама да гэтага часу ніякай краязнаўчай работы не праводзілася. Толькі ў сувязі з праведзеным там дэкаднікам БАН перад грамадзкасьцю раёну было пастаўлена пытаньне аб уцягненьні мас у навукова-дасьледчую работу праз краязнаўчую організацыю, у выніку чаго Райком партыі вылучыў організацыйнае бюро краязнаўства ў наступным складзе:

1. Махнач, старшыня 2. Шапавал, сакратар бюро. 3. Вальчык, 4. Кантаровіч, 5. Сьпіцэвіч, 6. Карабач, 7. Федаравчык, 8. Мэеровіч, 9. Каралькоў, 10. Дзянісенка.

На першым паседжаньні Райбюро было пастаноўлена даручыць таварышу Сьпіцэвічу ўвайсьці з хадайніцтвам у прэзыдыум РВК аб пастаноўцы па чарговым паседжаньні прэзыдыуму пытаньня аб разгортваньні краязнаўчага руху, аб асыгнаваньні сродкаў на краязнаўчую работу і аб зацьверджаньні прынятага на гэтым паседжаньні бюро пляну работы.

В. Пазьняк.

# Краязнаўчая работа ў Дубровенскім, Аршанскім, Шклоўскім, Быхаўскім, Рагачоўскім і Жлобінскіх раёнах

Краязнаўчая работа ў зазначаных раёнах к моманту абследваньня амаль зусім адсутнічала. Толькі ў Дубровенскім, Шклоўскім і Рагачоўскім раёнах вясной г.г. былі створаны часовыя організацыйныя бюро краязнаўства, якія бязьдзейнічалі і нічога не зрабілі ў кірунку разгортваньня і організацыі краязнаўчага руху. Тякое недапушчальнае становішча краязнаўчае работы тлумачыцца тым, што з боку кіруючых раённых устаноў і організацый краязнаўству не аддавалася ніякай увагі, з боку некаторых адказных работнікаў раёну заўважвалася нават ігнораваньне краязнаўства.

Як відаць раённыя организацыі і ўстановы не зразумелі тых вялізарных задач, якія стаяць перад савецкім краязнаўствам у справе вывучэньня прыродна-вытворчых сіл усіх раёнаў Савецкага Саюзу, экономікі, асаблівасьцяў форм клясавай барацьбы, культуры, быту і г. д. Ня глядзячы на рад дырэктыў партыйных організацый і пастанову СНК БССР ад 1 чэрвеня г.г., у якой яскрава вызначаны задачы савецкага краязнаўства ў другой пяцігодцы і неабходнасьць уцягненьня ў краязнаўчую работу праз краязнаўчыя ячэйкі на прадпрыемствах, у саўгасах, колгасах, школах шырокіх рабочых, колгасьнікаў і наогул працоўных мас, раённыя організацыі ня прынялі ніякіх мер да разгортваньня краязнаўчага руху. Раённыя ўстановы і організацыі прарабілі значную работу па ліквідацыі старых антыпролетарскіх, нацдэмаўскіх краязнаўчых організацый, але яны не задумаліся над тым, каб у замен старых ліквідаваных нацдэмаўскіх краязнаўчых організацый пабудаваць моцныя, сапраўды савецкія краязнаўчыя організацыі. Ранейшы краязнаўчы актыў, замест рашучага асуджэньня контррэволюцыйнай ідэолёгіі і практыкі нацдэмаў і карэннай перабудовы краязнаўчай работы, падпарадкаваньня яе непасрэдным задачам соцыялістычнага будаўніцтва, стаў на шлях ліквідацыі краязнаўства наогул, і гэтым самым адмовіўся і выказаў нежаданьне змагацца за савецкае краязнаўства. Старыя краяведы формальна прызнаўшы савецкае краязнаўства, на справе не давялі свайго разрыву з старым нацдэмаўскім краязнаўствам і ня ўключыліся ў актыўную барацьбу за разгортваньне савецкага краязнаўства, за організацыю масавай дасьледчай работы. Частка старых краяведаў пахавалася і не прызнаюцца ў тым, што яны калісьці працавалі па краязнаўству.

Мы дапамагалі і дапамагаем старым краяведам, якія перайшлі да нас і добрасумленна працуюць у галіне савецкага краязнаўства, але наша асноўная задача мобілізаваць мільёны працоўных мас у савецкае краязнаўства, выхаваць пролетарскія краязнаўчыя кадры і накіраваць іх творчы энтузыязм на справу пабудовы бясклясавага грамадзтва. Дырэктывы партыі і пастанова СНК БССР ад 1-га чэрвеня г. г. адзначаюць усю вялізарную ролю, якую краязнаўства павінна адыгрываць у соцыялістычным будаўніцтве нашай краіны. Аднак, у вышэйадзначаных раёнах у справе разгортваньня краязнаўчага руху да апошняга часу амаль нічога ня было зроблена. Вялікай важнасьці краязнаўчых організацый не зразумелі і недаацанілі ў раёнах. Ігнораваньне і недаацэнка краязнаўства з боку РВК і мясцовых організацый прывялі да таго, што краязнаўчых організацый у раёнах не аказалася. Савецкае кразнаўства амаль зусім ня было популярызавана сярод шырокіх працоўных мас, а між тым у рабочых і колгасьнікаў маецца вялікая зацікаўленасьць да краязнаўчае работы. Так, напрыклад, пасьля гутаркі з рабочымі фабрыкі Дняпроўская Мануфактура ў Дуброўне на тэму „Як пісаць гісторыю фабрык і заводаў“, рабочыя з вялікай ахвотай узяліся за гэтую справу. Усюды, дзе толькі прыходзілася гаварыць аб задачах савецкага краязнаўства, на сходах настаўніцтва, рабочых, колгасаў, выяўлялася жаданьне працаваць і зацікаўленасьць да гэтае работы. Трэба толькі організаваць гэту работу даць ясныя і выразныя ўстаноўкі ў гэтым кірунку (програмы, інструкцыі і г. д.). Першыя крокі ў кірунку разгортваньня краязнаўчага руху ў памянёных шасьці раёнах цяпер зроблены.

У Дуброўне: існуе бюро краязнаўства, старшыня тав. Кузьняцоў; пры першай узорнай ШКМ організавана краязнаўчая ячэйка, на ф-цы Дняпроўская Мануфактура вылучана брыгада для напісаньня гісторыі фабрыкі.

У Воршы: старое раённае бюро краязнаўства за бязьдзейнасьць распушчана. Вынесена пастанова сакратарыяту райкому аб організацыі новага раённага бюро краязнаўства. Настаўніцкая конфэрэнцыя прыняла на сябе цэлы рад конкрэтных абавязацельстваў па разгортваньню краязнаўчага руху ў раёне. Настаўнікі Янатка, Бранцэвіч, Глінскі, Пігулеўскі, Ціханскі, Лазоўскі ўзялі на сябе абавязацельствы

да I-га кастрычніка г.г. організаваць па аднэй краязнаўчай ячэйцы і вывучыць на сваёй тэрыторыі карысныя выкапні.

У Шклове організавана часовае раённае бюро краязнаўства на чале з тав. Нявіданавым.

У Быхаве таксама організавана бюро краязнаўства, старшыня тав. Ермакоў.

Рагачэў — раённае бюро краязнаўства нічога не рабіла. Старшыня РБК тав. Кукраш бязьдзейнічаў і ніякіх крокаў для разгортваньня краязнаўства не рабіў. Прыняты меры для разгортваньня работы і вызначана адна платная адзінка,

Жлобін — організавана бюро краязнаўства на чале з тав. Купцовым.

Ва ўсіх раёнах выпрацаваны конкрэтныя планы работы, у аснову якіх паложаны: організацыя ня менш дзесяці ячэек у кожным раёне, скліканьне раённых краязнаўчых конфэрэнцый, удзел у складаньні плянаў другой пяцігодкі, вывучэньне карысных выкапняў раёну, экономічна-географічнае апісаньне раёнаў. Пачатак зроблены, але гэта ня значыць, што на гэтым павінны супакоіцца. Цяпер вельмі востра стаіць пытаньне пашырэньня краязнўчай сеткі і пытаньне выкананьня плянаў дасьледчых работ. Гэта будзе залежыць ад таго, наколькі раённыя ўстановы організацыі будуць зварачваць увагу на краязнаўства, па-першае, і па-другое — наколькі краязнаўчы актыў, які маецца ў раёнах, возьмецца па-бальшавіцку за работу. Жаданьне шырокіх працоўных мас працаваць па вывучэньню краю маецца. Справа ў тым, як на мясцох эмогуць па-бальшавіцку організаваць работу, вядучы бязьлітасную барацьбу супроць рэштак старога контррэволюцыйнага краязнаўства. Паглыбленая распрацоўка тэорытычных пытаньняў краязнаўства, выразнасьць і адказнасьць за даручаную работу, зьяўляецца асноўнай, рашаючай задачай на краязнаўчым фронце.

І. Шырай.

## Пастанова.

## Сакратарыяту Аршанскага РК КП(б) ад 26/VIII-32 г. аб мерапрыемствах на разгортваньню краязнаўчага руху на раёне

Ня гледзячы на раней даныя ўказаньні з боку РК КП(б)Б па разгортваньню краязнаўчай работы ў раёне, да гэтага часу нічога ня зроблена пры поўнай магчымасьці (дзьве штатныя адзінкі).

Падкрэсьліваючы яшчэ раз вялікае значэньне краязнаўчае работы, як формы ўцягненьня шырокіх працоўных мас ў навукова-дасьледчую работу для вывучэньня актуальных пытаньняў соцбудаўніцтва, сакратарыят РК КП(б)Б пастанаўляе:

1. Даручыць фракцыі РВК стары склад раённага бюро краязнаўства за бязьдзейнасьць распусьціць, указаць тав. Забеліну на недапусьцімасьць такога становішча.

2. Прасіць РКК-РСІ абсьледваць дзейнасьць краязнаўчага музэю і віноўных у бязьдзейнасьці прыцягнуць да адказнасьці.

3. Даручыць тав. Забеліну скласьці часовае раённае бюро краязнаўства і аб выніках далажыць з 3/IX на бюро РК.

4. Даручыць тав. Забеліну на пасаду заг. музэю падабраць працаздольнага работніка, перабудаваць краязнаўчы музэй у адпаведнасьці з запатрабаваньнямі соцбудаўніцтва раёну і наладзіць яго работу.

5. Разгарнуць работу па організацыі краязнаўчых ячэек пры заводах, саўгасах, колгасах і школах, партколектывам і ячэйкам КП(б)Б усямерна дапамагаць разгортваньню краязнаўчай работы.

## Скарыстаем мясцовую сыравіну

*(Асіпавіцкі раён)*

У чатырох кілёмэтрах ад мястэчка Сьвіслач Асіпавіцкага раёну па шляху да ўроч. „Пад'ямнае" працякае ручэй пад назваю „Крывавы". Гэтую назву трэба тлумачыць чырвоным колерам вады ў рачаі ў часе паводкі.

На нізкай балоцістай мясцовасьці з кустарнікам абапал ручаю сустракаецца водная окісь жалеза $2Fe_2O_3 \cdot 3H_2O$ — руды жалязьняк (ліманіт). Яго прысутнасьць ужо можна заўважыць пераехаўшы мост у $^1/_2$ кілёмэтра ад „Пад'ямнага". Жоўтая афарбоўка глебы сустракаецца ў лесе, на палёх і на дарозе. Асабліва яго многа на кілёмэтр вышэй мосту праз ручай, ля самых хат Пад'ямнага.

У гэтым месцы проста на паверхні зямлі, пакрытай слабым акрыцьцём травы, ляжыць карычневая маса, якая пэцкае рукі, калі пацерці яе паміж пальцаў. На правым беразе ручаю, у перамешку з кавалкамі рудага жалезьняку ляжыць „крывавік", тая форма $Fe_2O_3$, што надае вадзе чырвоны колер у часе паводкі. Сяляне кажуць, што ўвесну тут немагчыма прайсьці (ад фарбы, што аблепіць боты, немагчыма доўгі час аслабаніцца).

Узятая мною адсюль проба была высушана, размолата і, пасьля пракальваньня, скарыстана ў якасьці масьлянай фарбы (з пакостам). Атрымалася звычайная фарба

„мумія“, якую можна скарыстаць для афарбоўкі дахаў, дамешкі ў іншыя фарбы і г. д..

На вялікі жаль, мною з-за недахопу сродкаў не праведзена дасканалае вывучэньне плошчы, якая займаецца „крывавікам“, а таксама ня зроблен рад іспытаў на ўласьцівасьці фарбы: 1) размол, 2) крыючая сіла, 3) фарбуючая сіла, 4) хэмічная стойкасьць, 5) сьветластойкасьць, 6) проба на рэакцыю.

Гэтыя іспыты маглі быць праведзены пры затраце невялікіх грошай, але іх не аказалася ў раённым бюро краязнаўства, мясцовыя організацыі сродкаў не адпусьцілі, а загадчык колгасу заявіў, што „гэтая фарба для нас не падыходзіць“, што „мы карыстаемся штучнай муміяй“.

Але калі ўзяць часопіс „Химия и социалистическое хозяйство“ (№ 4 1932 г.), дык у артыкуле „Пути реконструкции лако-красочной промышленности“ чытаем, што ў пляне 2-й пяцігодкі земляным фарбам павінна быць адведзена вялікая ўвага.

Ня гледзячы на тое, што апрацаваныя як належыць земляныя фарбы зьяўляюцца надзвычайна добрым фарбуючым матар'ялам і маюць вялікае распаўсюджваньне ў малярнай тэхніцы, здабыча іх і апрацоўка вядуцца прымітыўнымі спосабамі.

Трэба ўзмацніць росшукі земляных фарб, організаваць тэхнічна рацыянальную здабычу сыравіны і пабудаваць рад мэханізаваных фабрык апалу і апрацоўкі сыравіны. „Пры рацыянальнай пастаноўцы справы нашы земляныя фарбы маглі-б ня толькі задаволіць нутраную патрэбу краіны, але і служыць прадметам экспорту“. (час. „Химия и соц. хозяйство“ 1932 г. № 4, „Пути реконструкции лако-красочной промышленности,“ стар. 71). Але ў нашым раёне да выкарыстаньня мясцовай сыравіны адносяцца недаверліва, мясцовыя гаспадарчыя організацыі зусім не дапамагаюць разгортваньню дасьледчай работы па вывучэньню сыравіны.

Так па Асіпавіцкаму раёну абстаіць справа з фарбай, глінай і з маргелем.

Абвешчаны гэты летам дасьледчы паход за сыравінай для прамысловасьці меў вельмі шырокія задачы ў галіне адшуканьня мясцовай сыравіны. Але вынікі яго нязначныя. І вось, калі пачынаеш шукаць прычыны слабых вынікаў, дык прыходзіш да вываду, што ў радзе іншых прычын ёсьць адна, як мне здаецца, даволі важная — гэта адсутнасьць ў програмах для ФЗС і ШКМ геолёгічнага матар'ялу. Яго ў програмах няма, яму не знайшлося месца. І ўсякі вучань, скончыўшы сямігодку і трымаючы ў руках які-небудзь мінэрал, заве яго ня інначай, як проста „камень“. Для яго ўсё будзе „камень“.

Вось гэта геолёгічная няпісьменнасьць і зьяўляецца аднэй з прычын таго, што мы маем зусім слабыя вынікі вывучэньня сыравіны на мясцох. Становіцца ўжо ня дзіўным, што нават і настаўнікі скэптычна адносяцца да вывучэньня карысных выкапняў, а загадчык комгасу зусім ня цікавіцца маргелем.

Трэба спадзявацца, што ў канцы канцоў програмы для сямігодак уключаць геолёгічны матар'ял. Калі-ж мы дадамо да гэтага яшчэ работу мясцовага краязнаўчага музэю — вось тады, мне здаецца, атрымаюцца вялікія вынікі ў рабоце па адшуканьню і скарыстаньню мясцовай сыравіны.

А. Немцаў

## Знойдзены багатыя паклады сапропелю

10 VI-1932 г. пачаліся вышуканьні сапропелю па раёнам БССР. Сопрапель у большасьці залягае на дне непраточных вазёр і балот, якія ўтварыліся з старых вадаёмаў. Вышуканьні зараз праводзяцца сапропелітавай экспэдыцыяй Белгеоразьведкі. Ужо зроблены вышуканьні на 3-х вазёрах Асінаўскага раёну. На Саракароцінскім возеры залягае пласт сапропелю прыблізна ў 4 мэтры таўшчыні і дае масу ў 5 мільёнаў 900 тыс. кубамэтраў сапропелю—або 5 мільёнаў 800 тыс. тон.

На возеры Кічыно Асінаўскага раёну пласт сапропелю залягае на 3 м, што складае 4 мільёны 934 тыс. кубамэтраў, або 4.934.000 тоны спропалю ў сырым выглядзе. І на возеры Дзьвіно пласт= 3,1 мэтра, што прыблізна складаё 4 мільёны 480 тыс. кубамэтраў, або 4 м. 480 тыс. тон. Усяго разам вышукана 15.214.000 тон. сапропелю. На Саракароцінскім возеры для распрацоўкі больш выгодна ставіць сталыя прадпрыемствы, бо вада не перавышае 5-6 мэтраў у самых глыбокіх месцах возера. Таксама возера Кічыно падыходзіць да распрацовак. А вось возера Дзевіно мала падыходзіць да тэхнічнай распрацоўкі, бо слуп вады да пласта сапропелю ў сярэднім роўны 10-8 мэтрам. І якасьць самога сапропелю горшая.

К. Позьняк.

## Бальшавіцкім выкананьнем вытворчых плянаў сустрэнем XV гадавіну Кастрычніцкай рэволюцыі

Усебеларуская вытворчая пераклічка, організаваная газэтай „Рабочий“ і ЦСПСБ, зьяўляецца „масавай палітычнай кампа-

ніяй па мобілізацыі шырокіх рабочых мас і колгасьнікаў на барацьбу за выкананьне прамфінпляну к XV гадавіне Кастрычніка" (з пастановы секратарыяту ЦК КП(б)Б). У гэту пераклічку ўключаюцца прадпрыемствы, цэхі, брыгады, савгасы, колгасы, мобілізуецца шырокая пролетарская грамадзкасьць на выкананьне і перавыкананьне вытворчых плянаў кожнага паасобнага прамысловага і сельскагаспадарчага прадпрыемства, кожнай гаспадарчай організацыі. У вытворчую пераклічку ўключаюцца навукова-дасьледчыя організацыі і ўстановы (Беларуская Акадэмія Навук і інш.).

Усебеларуская вытворчая пераклічка павінна зрабіць рашучы пералом у выкананьні прамфінпляну 4-га заключанага году першай пяцігодкі і выклікаць новую магутную хвалю соцспаборніцтва і ўдарніцтва сярод рабочых і ўсіх працоўных мас, пад'ём творчага энтузыязму, падняцьце вытворчасьці на вышэйшую ступень, узмацніць барацьбу за выкарыстаньне ўсіх нутраных рэсурсаў, больш шырокае ўжываньне рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, паляпшэньне матар'яльна-бытавога і культурнага абслугоўваньня рабочых. Вытворчая пераклічка павінна даць новыя ўзоры бальшавіцкай барацьбы за прамфінплян, новыя прыклады соцыялістычных адносін да вытворчасьці, выявіць лепшыя дасягненьні перадавых прапрыемстваў. У вытворчую пераклічку к XV гадавіне Кастрычнікаўскай рэволюцыі павінны па-бальшавіцку ўключыцца і ўсе краязнаўчыя організацыі.

Кожная краязнаўчая організацыя павінна прыняць актыўны ўдзел у выпрацоўцы конкрэтнага пляну правядзеньня вытворвай пераклічкі на сваім прадпрыемстве, уносячы ініцыятыўныя прапановы па выкарыстаньню ўсіх нутраных рэсурсаў, забясьпечваючых поўнае выкананьне прамфінпляну.

У нас яшчэ няма належнага вывучэньня і выкарыстаньня практыкі лепшых брыгад, цэхаў, заводаў. Задача краязнаўчых ячэек у першую чаргу заключаецца ў тым, каб неадкладна організаваць дасканалае і сыстэматычнае вывучэньне практыкі перадавых брыгад, цэхаў і заводаў, новых мэтодаў работы, выкарыстаньне новых відаў сыравіны і праз цэнтральны і мясцовы друк асьвятляць дасягненьні перадавікоў у выкананьні прамфінплянаў, у павялічэньні колькасных і якасных паказьнікаў вытворчасьці прадпрыемстваў.

Кожная краязнаўчая ячэйка, кожны краявед-рабочы, краявед-комсамолец павінны стаць у першых радох рацыяналізатараў, дасьледчыкаў у галіне вытворчасьці. Асаблівую ўвагу краязнаўчыя організацыі павінны зьвярнуць на вывучэньне ўмоў палепшаньня рабочага забясьпечаньня, стварэньня ўласных харчовых баз (прыгарадных садова-гародных гаспадарак, адкормачных пунктаў, трусатнікаў і інш.). Краязнаўчыя організацыі на мясцох павінны вывучыць усе ўмовы і магчымасьці стварэньня моцнай харчавой базы для свайго прамысловага прадпрыемства—як важнейшага сродку палепшаньня дабрабыту рабочых, ліквідацыі цякучасьці рабочае сілы і ўзьняцьця продукцыйнасьці працы.

У пляне правядзеньня пераклічкі, зацьверджаным ЦСПСБ, аднэй з важнейшых задач профорганізацыі ў правядзеньні пераклічкі зьяўляецца масавая прапрацоўка на кожным прадпрыемстве проекту пляну другой пяцігодкі на падставе даных дырэктыў і пляну 1933 г. У гэтай важнейшай задачы роля краязнаўчых ячэек павінна быць асабліва значная. Краязнаўчыя ячэйкі і паасобныя краяведы ў гэтай справе могуць аказаць вялікую дапамогу ў прапрацоўцы пяцігадовага пляну. На падставе матар'ялаў вывучэньня свайго прадпрыемства і раёну краяведы могуць унесьці каштоўныя і ініцыятыўныя прапановы, забясьпечваючыя павялічэньне продукцыйнасьці працы і выкарыстаньне ўсіх мясцовых рэсурсаў.

Краязнаўчыя музэі павінны організаваць выстаўкі сыравіны для прамысловасьці, паказаць процэсы і мэтоды яе апрацоўкі, продукцыю паасобных прадпрыемстваў, дасягненьні ў барацьбе за палепшаньне якасьці продукцыі, вынікі ажыцьцяўленьня рацыяналізатарскіх прапаноў, новыя дасягненьні ў галіне тэхнікі і інш. Краязнаўчыя музэі і куткі павінны мобілізаваць рабочыя масы на выкананьне і перавыкананьне прамфінпляну 4-га заключнага году першай пяцігодкі. Разам з тым, краязнаўчыя музэі павінны па-бальшавіцку перабудаваць і сваю работу, падпарадкаваўшы яе конкрэтным задачам соцыялістычнага будаўніцтва, пабудове бясклясавага грамадзтва.

Уключаючыся ў вытворчую пераклічку свайго прадпрыемства, савгасу, колгасу, установы, кожная краязнаўчая організацыя павінна забясьпечыць поўнае выкананьне свайго вытворчага пляну, організацыйнае замацаваньне ячэйкі, дабіцца ліквідацыі запазычанасьці па членскіх узносах, павялічэньня росту ячэйкі і выкананьня пляну дасьледчай работы. Кожная краязнаўчая ячэйка павінна паставіць перад сабой задачу к XV гадавіне Кастрычнікаўскай рэволюцыі прыйсьці моцна організаванай, дысцыплінаванай, актыўна ўдзельнічаючай у соцыялістычным будаўніцтве свайго прадпрыемства,

каб можна было рапартаваць адпаведным організацыям або сваіх дасягненьнях у справе соцыялістычнага будаўніцтва.

Раённыя краязнаўчыя бюро павінны дабіцца рашучага пералому ў разгортваньні краязнаўчага руху ў раёне, росту краязнаўчых ячэек на фабрыках і заводах, у сабгасах і колгасах, пры школах, пераводу ўсёй краязнаўчай работы на соцыялістычныя мэтоды—соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Максымальная ўвага павінна быць зьвернута на ўзьняцьце на належную вышыню дасьледчай работы—вывучэньне энэргетычных і сыравінных рэсурсаў свайго раёну, яго экономікі, вырашэньне проблемы падвышэньня ўраджайнасьці, новых сельска-гаспадарчых культур, вывучэньне асаблівасьцяў клясавай барацьбы на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва, нараджэньне новых соцыялстычных форм быту і г. д.

Трэба дабіцца, каб к XV гадавіне Кастрычнікаўскай рэволюцыі раённыя бюро краязнаўства сталі сапраўднымі раённымі цэнтрамі масавай дасьледчай работы і на справе выканалі дырэктывы партыі і пастанову СНК БССР аб разгортваньні краязнаўчага руху.

В. Самцэвіч.

# Краязнаўчая бібліографія

(працяг) *)

аа) **Сельская і лясная гаспадарка**

216. А. Больш увагі ахове соцыялістычнага ўраджаю садоўніцтва.—*Шляхі калект.* 932, № 6, с. 17.

217. Альперын, І. Г. Тэхнічная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі БССР.— *Шляхі калект.* 932, № 9, с. 14—16.

218. Бэрзін, І. Культура канапель на Беларусі. М-к, ДВБ, 931, 53 сар. 25 к.

219. **Валюзьнеў**, А. Г. Таматы ў БССР.—М-к, ДВБ, 932, 37 стар. 35 кап. НКЗБ (Зональная пладова-гароднінная станцыя).

220. Ганчарык, М. Аб культуры соі ў БССР.—М-к, 932, 15 стар. 15 к. (Бел. Акад. Навук. Масавы сэктар з час. „Савецкая Краіна“ № 3, 1932 г.).

221. Ганчарык, М. За культуру соі ў БССР (Да 3-й бальшавіцкай сяўбы). (БАН Ін-т біолёгічных навук.) М-к, 932, с. 25, 30 к.

222. Дамінікоўскі, Т. М. Фосфарная мука, як угнаеньне на глебах БССР. М-к, 932, ДВБ. 53 ст. ц. 40 к. (НКЗ—БССР Цэнтральная агрохэмічная лябараторыя).

223. Дарогін, Г. П. і Яцынін Л. Я. Паведамленьні аб хваробах капуснай расады (М-к, 932) 4 ст. НКЗ. Усесаюзнае аб'яднаньне па барацьбе са шкоднікамі ў сельскай і лясной гаспадарцы. Кіраўніцтва службы вучоту шкоднікаў і хвароб сельскай і лясной гаспадаркі. Інструкцыя для корэспондэнцкай сеткі).

Дадатак: 8 адрэзных лістоў для паведамленьня аб хваробах расады.

224. Дарожкін. Н. Грыбныя хваробы сілосных культур у БССР.—*Сав. Краіна.* 932, № 1, с. 53—61.

225. Дарожкін, Н. Першая спроба фітапатолёгічна-энтомолёгічнага абсьледваньня бульбы ў СССР з мэтай дзяржаўнага карантыну. — М-к, 932. 48 стар. 13 таб. (БАН Ін-тут біолёгічных навук).

226. Дарожкін, Н. А. Супроць буржуазных тэорый у галіне аховы расьлін. (Скарочаная стэнограма дакладу на агульным паседжаньні інстытуту біолёгіі БАН-11/III-1932 г.) [Аб працах: Пілько, М. Тупяневіча, С. М., Уліціна, М. і др.] — *Сав. Краіна.* 932, № 4, 74—78 стар.

227. Драздоў, М. Расьліны для сілосу. Вынікі з досьледаў с-г. дасьледчых станцый і буйных соцыялістычных гаспадарак БССР—М-к, ДВБ, 931, 107 стар. 65 кап. (НДІ сьвінагадоўлі).

228. Іваноў, Д. К. Організацыя лясной гаспадаркі і карыстаньне лесам. М-к, 932, ДВБ, 108 стар. ц. 70 кап.

229. Кесарева, Е. М. и Тавилдарова, Т. Ф. К характеристике естественных сенов БССР. — Горки. 931, 62 стар. (Труды Горецкой зональной оп. станции молочн. хоз-ва. Вып. IV).

230. Комсамол у барацьбе за агротэхніку. — М-к, 932, ДВБ, 168 ст. 1 р. (Бел. навук. дасьл. ін-т соцрэконструкцыі с/г імя Леніна).

231. Красочкин, В. Ошибки семеноводства овощей и кормовых корнеплодов. (Плодо-овощная зональная опытная станцыя БССР, Минск) — *Семеноводство.* 932, № 5, с. 33—34.

232. Маркавец, А. Шкоднікі саду і спосабы барацьбы з імі ў БССР.— М-к, 932, 30 стар., 20 кап.

233. **Н. Б.** Электрыфікацыя сельскай гаспадаркі БССР. — *Шляхі калект.* 932, № 9, с. 12—13.

234. Н. Д. Стан і чарговыя задачы аховы соцыялістычнага ўраджаю БССР ад шкоднікаў і хвароб. — *Сав. Краіна.* 932, № 4, с. 54—56.

235.Ниров. Белорусская конференция по семеноводству трав. [На Турской с/х. станции.] — *Семеноводство* 932, № 3—4, с. 32-33.

236. **П-ка.** Пэрспэктывы разьвіцьця рыбаводнае прудавое гаспадаркі ў БССР. — *Паляўн. Бел.* 932, № 4, с. 12-13.

237. Парахневіч, П. І. За добры ўраджай канапель на балоце.—М-к, ДВБ, 932, 7 стар. 5 к. (Усесаюзны Навуковадасьледчы балотны Інстытут.

---

[1]) Гл. „Савецкая Краіна“ № 7-8.

238. Парахневіч, П. І. Досьледы з угнаеньнямі на балотных глебах БССР.— М-к, ДВБ, 932, 21 стар., 26 к.

239. Пратасеня, Г. Кіслотнасьць глеб Меншчыны і пытаньні вапнаваньня іх. (З 2-ма картамі — глебавай і раёнаў вапнаваньня). М-к, ДВБ, 932, 104 стар. 1 р. 30 к. (Працы цэнтр. агро-хэм. лябораторыі. Вып. I).

240. Рачыцкі. Перадавую агратэхніку—на службу сацыялістычнаму землеробству (З прамовы Наркома Землеробства БССР тав. *Рачыцкага* на агразаатэхнічным зьезьдзе).—*Шляхі калект.* 932, № 6, с. 3—5.

241. Рубанаў, С. В. Добрускія адкіды як вапнавыя ўгнаеньні.—М-к, ДВБ, 27 стар. 35 к. (НКЗ БССР. Працы цэнтр. аграхэм. лябараторыі. Вып IV).

242. С. К. Севазвароты і іх тыпы для колгасаў ільна-жывёлагадоўчых раёнаў.—*Шляхі калект.* 932, № 5, с. 5-6.

243. Страж, Р. Р. Агроправілы для соі на сена, сілос і зялёны корм (узгоднены з Народным Камісарыятам землеробства БССР).—*Сав. Краіна.* 932, № 3, с. 24.

244. Страж, Р. Г. Соя ў БССР. М-к, ДВБ, 932, 35 ст., 30 к.

245. Су596ораў, В. В. Культура кармовых траў БССР. — М-к, ДВБ, 932. 129 стар. 1 р. 20 к.

246. Сьвірскі, Я. Н. Культура бобу ў БССР. — М-к, ДВБ, 932, 18 ст. 10 к. (Менская сэлекцыйная станцыя зернавых і бабовых культур).

247. Сьцяпанаў, Я. П. Пасадка і догляд пладовых колгасных і саўгасных садоў БССР. — М-к, ДВБ, 932, 29 стар. 15 кап. (Бел. дасьл. зональная станцыя пладова-гароднай гаспадаркі).

248. Сюбараў, А. За выкананьне плянаў пладова-ягаднай гаспадркі. [Асортымэнт]. — *Шляхі калект.* 932, № 6, с. 13—15.

249. Сяргееў, А. За вывучэньне генфонду, за выяўленьне вытворцаў паляпшальнікаў. — *Сав. краіна.* 932, № 2. с. 54—57.

250. Фядотаў, В. В. Віка звычайная. азімая, махнатая і двухгадовая.—М-к, ДВБ, 932, 42 стар., ц. 25 кап.

251. Фядотаў, В. С. Расьліны на зялёнае ўгнаеньне ў БССР.—М-к, ДВБ, 932, 87 стар., 35 кап.

252. Чуйко, Г. М. За ўраджайнасьць зернева-бабовых культур.—М-к, ДВБ. 932, 24 стар. 10 к. (Менская сэлекцыйная станцыя зернавых і бабовых культур).

253. Шаранговіч. Соцыялістычная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі БССР. (З дакладу сакратара ЦК КП(б)Б тав. *Шаранговіча*). — *Шляхі калект.* 932, № 3, с. 1—4.

254. Шыперка, Э. Культура сілосных расьлін і кораньплодаў на балотах.—М-к, ДВБ, 932, 40 стар., 40 кап. (Усесаюзны Навукова-дасьл. балотны Інстытут).

### бб) С/г. кампаніі

255. Аб правядзеньні веснавой сельска-гаспадарчай кампаніі 1932 году (Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР).—*Шляхі калект.* 932, № 2, с. 4—7.

256. Адозва канфэнрэнцыі калгасьніц Віцебскага раёну да ўсіх калгасьніц, аднаасобніц-беднячак і серадначак Беларусі. [Аб правядзеньні 3-яй бальшав. сяўбы].—*Раб. і калг. Бел.* 932, № 8, с. 12.

257. Аўчыньнікаў. Задачы сьвінаводных саўгасаў у падрыхтоўцы да сяўбы.—*Шляхі калект.* 932, № 1, с. 8-9.

258. БАН — да 3-й бальшавіцкай вясны. - *Сав. Краіна* 932, № 2, с. 76. Хроніка.

259. Бальшавіцкаму севу — бальшавіцкую ўборку ўраджаю [Перадавая].—*Бальш. Бел.* 932, № 9, с. 3—13.

260. Барацьба за своечасовае правядзеньне веснавой пасеўкампаніі — барацьба за падняцьце ўраджайнасьці [да ўсіх раённых таварыстваў і ячэек, да ўсіх савецкіх паляўнічых]. [Адозва праўленьня Белкахотсаюзу]. —*Паляўн. Бел.* 932, № 2.

261. Гікало. Бальшавіцкая арганізацыя работы забясьпечыць посьпех веснавой сяўбы [З стэнограмы прамовы тав. *Гікало* на сакавіцкім пленуме ЦК і ЦКК КП(б)Б].—*Бальш. Бел.* 932, № 8, стар 5-11.

262. Грынблят, М. і Ляўданскі А. Краязнаўчыя музэі і веснавая пасеўная кампанія. — М-к, 932, 58 стар., 45 кап. (Бел. Акад. Навук. Масавы сэктар і Ін-т гісторыі).

263. Калмык, М. На штурм трэцяй бальшавіцкай сяўбы. — М-к, 932, ДВБ, с. 59, 35. кап.

264. Каталёг літаратуры да веснавой с/г. кампаніі 1932 г. (З дадаткам: Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб правядзеньні веснавой с/г. кампаніі 1932 г.) — М-к. ДВБ, 932, 44 стар.

265. Кудзінаў, С. Роля жаночых вытворчых нарад калгасьніц у часе падрыхтоўкі да веснавой пасеўнай кампаніі. — *Раб. і кал. Бел.* 932, № 3, с. 8-9.

266. Лабадаеў, Міх. Аб асноўных задачах веснавой сельска-гаспадарчай кампаніі 1932 г. — *Бальш. Бел.* 932, № 1-2, с. 34 — 51.

267. Лабадаеў, М. Выканаць праграму трэцяй бальшавіцкай вясны (Аб асноўных задачах веснавой с/г. кампаніі 1932 г.). — М-к, ДВБ, 932, 38 стар., 20 кап.

268. Пастанова Н. К. Асьветы ад 21/1-32 г. аб удзеле органаў нарасьветы,

культасьветых устаноў у правядзеньні веснавой пасеўкампаніі. — *Ком. выхав.* 932, № 1-2, с. 100 — 102.

269. Серафімаў, В. Барацьба за пасьпяховае правядзеньне трэцяй бальшавіцкай вясны — барацьба за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў. — *Сав. Краіна.* 932, № 3, с. 3 — 6.

**вв) Жывёлагадоўля**

270. Падрыхтавацца да прыёму акотаў у трусаводных гаспадарках. — *Паляўн. Бел.* 932, № 3, с. 12.

271. Аб правядзеньні агразаатэхнічнага паходу. (Пастанова сакратарыяту, ЦК КП(б).Б) — *Шляхі калект.* 932, № 11. с 9.

272. Абстановішчы свінаадкорму і сьвінаразмнажэньня. (Пастанова ЦК КП(б)Б) — *Шляхі калект.* 932, № 11 с. 1-2.

273. Арганізацыйны плян суцэльнага вучоту жывёлы на 1 лютага 1932 г. на БССР. — М-к, (932) 10 стар. (Дзяржплян. Сэктар народна-гаспадарчага вучоту).

274. Б. С. Рост трусагадоўлі ў паляўнічай каапэрацыі. — *Паляўн. Бел.* 932, № 2, с. 21.

275. Бондар Г. Шляхі ўздыму прадукцыйнасьці жывёлагадоўлі — *Соц. Будаўніцтва.* 932, № 1-2.

276. Віткоўскі, К. В. Племяныя запасы — у салгасы і калгасы. — *Шляхі калект.* 932, № 3, с. 7-8.

277. Жыліцкі. Героі соцыялістычнай сьвінагадоўлі. (Нарыс). (Саўгас „Блонь“ Пухавіцкага раёну). — *Шляхі калект.* 932, № 10, стар. 10-11.

278. Зоовэтмерапрыемствы ў племянных і прамысловых птушкаводных гаспадарках. М-к, 932, ДВБ, 18 стар., 10 кап. (НКЗ БССР).

279. Інструкцыя па арганізацыі пашаў і пашавага ўтрыманьня сьвіней ў сьвінагадоўчых саўгасах і калгасах БССР на 1932 год. — М-к, 932, 8 стар. (НКЗ БССР).

280. Кароль. На малочна-таварнай фэрме (Калгас „Інтэрнацыянал“ Лёзьненскі р-н, Горбаўскі с/с. — *Сав. Краіна,* 932, № 4 стар. 47 —49.

281. Лугавы, Ал. На Рагачоўшчыне неадаацэнваюць сьвінагадоўлю. — *Шляхі калект.* 932, № 1 с. 20.

282. Людчык, М. Фабрыка малака (нарыс). (Племгас „Комінтэрн“ Менскі раен.) — *Чырв. Бел.* 932, № 1, с. 10.

283. Ляўша. Т. Дырэктывы партыі і ўраду аб разьвіцьці сацыялістычнай жывёлагадоўлі. Склаў *Т. Ляўша.* — М-к, 932, ДВБ, 35 стар., 25 кап.

284. Малякоў, Л. І. праф. Пашы БССР (Спробы характарыстыкі згодна матар'ялаў саўгасаў і калгасаў) — Горкі, кооп. выд. студэнтаў Горацкіх ВНУ, 932. 11 стар.)

285. Осиновский район в прорыве — *Свиноводство,* 932, № 2, с. 91. Нататка аб адсутнасьці кіраўніцтва працай СТКФ.

286. Павысіць агульнае стада сьвіней на 35 проц. у 1932 годзе (Пастанова Саўнаркому СССР аб разьвіцьці сьвінагадоўлі). — *Шляхі калект.* 932, № 3, с. 9-10.

287. Палажэньне аб арганізацыі працы на сьвінагадоўчых таварных калгасных фэрмах. — М-к, выд. Сьвінаводкалгасцэнтру БССР. 932. 40 стар.

288. Парахневіч. Опыт применения вольно-групповой случки в совхозе Носовичах (Данные Минского филиала Института Свиноводства), — *Свиноводство.* 932, № 3, с, 26 — 7.

289. Русовіч. В. У барацьбе за якасьць. (Уваравіцкі р-н), (Сьвінагадоўчы саўгас „Старая Беліца“). — *Шляхі калект.* 932, № 10, с. 11-12.

290. Сергеев, А. М. Полимастия, как признак молочности у крупного рогатого скота БССР. — Горки, 931, 23 с. (Труды Горецкой зональной опытной станции молочного хоз-ва. Вып. IV. (VI).

291. Стралюк, М. За таварнасьць сьвінагадоўча-таварна-калгасных фэрм. — *Шляхі калект.* 932, № 3, с. 10-11.

292. Сяргеева, З. З. Шкоднікі буйнай рагатай жывёлы і барацьба з імі. (Да 3-й бальшавіцкай вясны) — М-к, 932, 14 стар. 20 кап. (Бел. Акад. Навук. Інстытут біолёгічных навук).

293. Труды Горецкой зональной опытной станции молочного хоз-ва. Вып.: III — Горки 931, 55 стар. Содержание: *К. Б. Витковский*: Об улучшений части красного белор. скота, с вводной статьей *А. М. Сергеева.* — *В. С. Старинский*: К вопросу изучения красного беларусского скота.

294. Турэцкі. Конкурс на лепшага старшага сьвінара — справа савецкай грамадзкасьці. — *Шляхі калект.* 932 № 11 с. 7-8.

**гг) Паляўнічая гаспадарка**

295. Віткоўскі. Папярэднія даныя па пытаньню аб размнажэньні і разьмяшчэньні бабра ў Беларускім дзяржаўным паляўнічым запаведніку. — *Паляўн. Бел.* 932. № 4, с. 10-11.

296. Бабчонак, П. Да IX зьезду ўпаўнаважаных Белкахотсаюзу. — *Паляўн. Бел.* 932, № 4, с. 5-6.

297. Бабчонак. Рост паляўнічай каапэрацыі [БССР]. — *Паляўн. Бел.* 932, № 1, с. 3-6.

298. Жанеўскі. Беларускі дзяржаўны паляўнічы запаведнік удрэнным становішчы. — *Паляўн. Бел.* 932, № 4 с. 13.

299. Кантрольныя лічбы на 1932 год па будаўніцтву паляўнічай гаспадаркі. — *Паляўн. Бел.* 932, № 1, с. 7-8.

300. Лялін, Ф. А. Воўк і яго зьнішчэньне. — *Паляўн. Бел.* 932, № 4, с. 19.

301. **М. Ц.** Стралковы спорт у паляўнічых арганізацыях і ячэйкі Асоавіяхіму.— *Паляўн. Бел.* 932, № 3, с. 6.

302. Манькоўскі. Паляваньне ў Аршанскім раёне ў 1931 годзе. — *Паляўн. Бел.* 932, № 2 с. 23.

303. Мікалаеў. Снабжэньне паляўнічых падпарадкаваць выкананьню плянаў.— *Паляўн. Бел.* 932, № 1, с. 8-9.

304. **С-ка, А.** 6 ўмоў тав. Сталіна не ажыцьцяўляюцца. [У Мазырскім, Ельскім і Нараўлянскім т-вах паляўнічых]. — *Паляўн. Бел.* 932, № 3, с. 10-11.

305. Сапрык, Я. — Вынікі гадавой працы Лагойскага райтаварыства [паляўнічых]. — *Паляўн. Бел.* 932, № 2, с. 24.

306. Сідарэнка, А. — Там-дзе разумеюць задачы. [Магілеўскае т-ва паляўнічых]. *Паляўн. Бел.* 932, № 2, с. 18-20.

307. **Ц — Ш.** — Барацьба за шкуркі.— *Паляўн. Бел.* 932, № 3, с. 8-9.

308. **Ш — ль.** — Паляўнічы сэзон у Рагачоўскім раёне. — *Паляўн. Бел.* 932, № 4, с. 8-9.

---

Выдавец—**Беларуская Акадэмія Навук.**





# ЗЬМЕСТ



## Рэцэнзія



## Афіцыйны аддзел



## Хроніка



Друкарня Беларускае Акадэміі Навук. Менск, Няміга 7.

Галоўлітбел № 1731. Заказ № 873. Тыраж 1.600 экз. $7^1/_2$ арк.

Цана 50 к.



